Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

**Цэнтральнага Бюро Краязнаўства**

ПРЫ

**БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК**

№ 11 (50) Лістапад 1929

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЯТЫ

ВЫДАНЬНЕ
БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1929

# Чарговыя задачы краязнаўства.

Новы акадэмічны год працы ЦБК і мясцовых краязнаўчых організацый павінен прайсьці пад знакам усеагульнага ўздыму ў справе індустрыялізаваньня страны, колектывізаваньня сельскай гаспадаркі і соцыялістычнага спаборніцтва. На працягу мінулых год краязнаўчы рух дасягнуў значных посьпехаў у справе вывучэньня паасобных краёў БССР і дапамогі мясцоваму краябудаўніцтву. Але названы ўздым соцыялістычнай перабудовы жыцьця вымагае ад краязнаўчага руху яшчэ большых вынікаў яго чыннасьці.

Адным з галоўных сродкаў уздыму краязнаўчага руху павінна стаць соц. спабарніцтва, якое павінна адбывацца ў гэткіх кірунках: а) разгортваньне краязнаўчай сеткі да паасобных прадпрыемстваў і нізавых адміністрацыйных адзінак; б) разгортваньне школьна-краязнаўчай сеткі (школьных гурткоў краязнаўства) да наяўнасьці працаздольнага гуртка ў кожнай сямігодцы, тэхнікуме і вышэйшай школе; в) уцягненьне ў краязнаўчую справу большага (адносна да агульнага ліку насяленьня) проценту рабочых, сялян і моладзі; г) выданьне інструкцый і програм па найбольш актуальных пытаньнях сучаснасьці: вывучэньня колектыўных форм гаспадаркі,—вывучэньня гісторыі рэв. руху, вывучэньня раёну з антырэлігійнымі мэтамі, вывучэньня прамысловасьці і да т. п.; д) выкананьне, побач з іншай працай, пэўнай ударнай працы ўсімі раённымі краязнаўчымі організацыямі; е) організаваньне соцыялістычнага спаборніцтва паміж краязнаўчымі організацыямі.

ЦБК выклікала на соц. спаборніцтва Украінскі Камітэт Краязнаўства, вылучыўшы для гэтага вышэйпамянёныя об'екты і вызначыла тэрмінамі праверкі дасягненьняў кожныя паўгода, пачынаючы з 1 кастрычніка 1929 г. Адпаведна гэтаму павінна разгарнуцца соц. спаборніцтва паміж паасобнымі краязнаўчымі організацыямі і краязнаўцамі.

Усё гэта, у сваю чаргу патрабуе далейшага пашырэньня самога краязнаўчага руху з тым, каб да таго яшчэ і паскорыць аваладаньне навукаю шырокіх мас рабочых і сялян. ЦБК павінна дапамагчы ажыўленьню некаторых раённых таварыстваў краязнаўства (Глускага, Койданаўскага, Астрашыцка-Гарадзецкага і інш.), чыннасьць якіх у апошнія часы прыпынілася, організацыйнаму пашырэньню раённага і гарадзкога краязнаўчага руху да наяўнасьці 4-5 працаздольных гурткоў краязнаўства ў кожным раёне і 3—6 у кожным акруговым горадзе. Апрача таго, неабходна дамагчыся заснаваньня моцных краязнаўчых гурткоў на паасобных фабрычна-заводзкіх прадпрыемствах. Адначасна павінен значна павялічыцца склад членаў краязнаўчых організацый за кошт рабочых, сялян і рабоча-сялянскай моладзі.

Мэдычна-санітарнае вывучэньне краю організацыйна сформавалася ў гуртках краязнаўства, доктарскіх бюро саюзу мэдсанпрацы. Але

такія гурткі заснаваліся былі нават не ва ўсіх акруговых гарадох БССР, а праца некаторых гурткоў к вясьне 1929 г. заняпала. Неабходна ў паразуменьні з ЦП саюзу мэдсанпрацы і НКАЗ дамагчыся заснаваньня названых гурткоў ва ўсіх гарадох БССР і ажыўленьня іх працы.

Побач з паказаным ростам грамадзкага краязнаўчага руху павінен адбывацца і рост школьнага краязнаўчага руху, які нават для мінулага году разгарнуўся далёка не ў выстарчальнай меры. А ў некаторых тэхнікумах (Менскі Бел. пэдагогічны і політэхнічны, Магілеўскі землеўпарадкавальны, Віцебскі вэтэрынарны інстытут і інш.) чыннасьць краязнаўчых організацый зусім заняпала. Паміж тым разгортваньне краязнаўчай чыннасьці ў навучальных установах вымагаецца нават вытворчымі задачамі іх. Таму ЦБК і мясцовыя краязнаўчыя організацыі ў цесным паразуменьні з Навукова-Мэтодолёгічным Камітэтам, ЦБ Пролетстуд'а і акр. ды райінспэктурай народнай асьветы павінна дамагчыся пашырэньня школьна-краязнаўчага руху да наяўнасьці працаздольнага гуртка краязнаўства ў кожнай сямігодцы, тэхнікуме і вышэйшай школе.

Члены - корэспондэнты ЦБК зьяўляліся часта пачынальнікамі ў справе заснаваньня мясцовых краязнаўчых організацый і дапамагалі сувязі ЦБК з месцамі. Але чыннасьць членаў-корэспондэнтаў ЦБК ня была плянавай, ды ў некаторых мясцох, дзе яны патрэбны былі, іх ня было. ЦБК мае пашырыць сетку сваіх членаў - корэспондэнтаў і ўвесьці плянавасьць у іх працу, выдаўшы для гэтага патрэбную інструкцыю.

У мэтах падрыхтоўкі новых кваліфікаваных кадраў краязнаўцаў патрэбна дамагчыся ўзмацненьня выкладаньня мэтодыкі краязнаўства ў пэдтэхнікумах ды ўключэньня ў навучальныя пляны унівэрсытэту і іншых вышэйшых школ і тэхнікумаў. У Менску ЦБК павінна організаваць чарговую сэсію нядзельных краязнаўчых курсаў і мэтодычна-краязнаўчы сэмінар, прыцягнуўшы на іх у паразуменьні з Культаддзелам ЦСПСБ больш актыўных і падрыхтаваных рабочых з Менскіх фабрычна-заводзкіх прадпрыемстваў. Падобна гэтаму Віцебскае, Полацкае і Мазырскае акруговыя таварыствы краязнаўства павінны організаваць мэтодычна - краязнаўчыя студыі ў парадку выкананьня адпаведнай пастановы ўсебеларускага зьезду.

Апрача ўсяго гэтага, ЦБК мае склікаць чарговую конфэрэнцыю-курсы па мэтодычных пытаньнях краязнаўства, падобна курсам-конфэрэнцыі лютага 1929 г.

Адначасна трэба будзе дамагчыся ад адпаведных установаў організаваньня ў Менску кароткатэрміновых нядзельных курсаў па экскурсыйнай справе для падрыхтоўкі экскурсаводаў па Менску.

У некаторых мясцох першапачатковая разьведная краязнаўча-дасьледчая праца ў асноўным выканана і насьпела патрэба заснаваньня сталай бязупыннай стацыянарнай працы, якая павінна даць матар'ялы для абагульненьняў за доўгі час падобна працы фэнолёгічных пунктаў і мэтэоролёгічных станцый. Асабліва адчуваецца гэта ў галіне быту і мясцовай матар'яльнай культуры. Таму ЦБК павінна дапамагчы мясцовым краязнаўчым організацыям заснаваць этнолёгічныя станцыі ў 3-4 мясцох БССР.

Адначасна трэба ўзмацніць сыстэматычнасьць і бязупыннасьць нагляданьняў фэнолёгічнай сеткі, заснаваць новыя пункты заміж нека-

торых няўдалых старых і, дзе яшчэ няма, ды арганізацыйна аформіць і роўнамерна выраўняць сетку гідролёгічных наглядальнікаў.

У мэтах сувязі з акруговымі таварыствамі краязнаўства і для вырашэньня некаторых чарговых прынцыповых пытаньняў мае быць скліка765 пленум ЦБК. Як і раней, ЦБК будзе дапамагаць правядзеньню акруговых і раённых краязнаўчых конфэрэнцый. Павінна быць ўзмоцнена арганізаваньне вучнёўскіх краязнаўчых конфэрэнцый.

Для сувязі з іншымі цэнтрамі краязнаўчага руху СССР трэба будзе камандыраваць сваіх прадстаўнікоў у Ленінград (ЦБК РСФСР) і Харкаў (УКК).

Згодна свайму пяцігадоваму пляну, арганізаваць усебеларускую выстаўку народных тканін. Частка экспонатаў з яе павінна будзе вярнуцца на месцы для папаўненьня мясцовых краязнаўчых музэяў. Нагогул ЦБК павінна дапамагчы мясцовым краязнаўчым арганізацыям умацаваць свае музэі і заснаваць новыя з тым, каб сталых такіх музэяў к канцу году было 20.

Апрача ўсяго пералічанага, у арганізацыйнай галіне ЦБК, падобна практыцы мінулых год, мае працягваць популярызаваньне краязнаўства як у друку, так і на розных сходах і конфэрэнцыях, а таксама на радыё; практыкаваць прынцып ударнасьці ў справе вывучэньня паасобных раёнаў кожнай акругі; дапамагаць навуковым установам у справе зьбіраньня краязнаўчых матар'ялаў для іх мясцовымі арганізацыямі і г. д.

У галіне мэтодычна-кіраўнічай ЦБК у першую чаргу мае дапамагчы інструктаваньнем тым краязнаўчым арганізацыям, якія ня былі абсьледваны ў мінулым годзе.

Пры гэтым асаблівую ўвагу трэба зварочваць на мэтодычнае кіраваньне ў справе выкананьня плянавых прац раённых таварыстваў краязнаўства: а) вывучэньня калгаснага руху раёну, б) выяўленьня вытворчых сіл раёну, в) укладаньня географічных раённых слоўнікаў, г) укладаньня слоўнікаў мовы раёну, д) зьбіраньня колекцыі газэтных выразак аб раёне, е) укладаньня бібліографіі раёну, э) арганізаваньня музэю раёну, ё) вывучэньня асаблівасьцяй мовы раёну, ж) зьбіраньня фольклёру, дж) вядзеньня нагляданьняў: фэнолёгічных, мэтэоролёгічных і гідролёгічных, з) укладаньня археолёгічных карт раёну і дз) вывучэньня помнікаў прыроды.

У сувязі з гэтым трэба будзе значна ўзмацніць мэтодычны разьдзел часопісу „Наш Край“ і апрацаваць другі зборнік програм і інструкцый мясцовай краязнаўчай працы, улічыўшы пры гэтым найбольш даступныя віды працы для рабочых і сялян.

У галіне навукова-дасьледчай працы ЦБК мае выканаць дасьледваньне па адным пытаньні з наступных тэм: а) гісторыі краязнаўства, б) арганізацыйных форм краязнаўчых дасьледваньняў, в) палявых краязнаўчых прац, г) этнографічнага вывучэньня краю, д) вывучэньня біоклімату, е) вывучэньня ўзаемаўплываў яўрэяў і беларусаў.

Шырокае разгортваньне экскурсыйнага руху вымагае апрацоўкі экскурсыйнага праваднікa па БССР, які і мае быць укладзены ЦБК у гэтым годзе згодна пяцігодцы.

Разам з тым ЦБК будзе дапамагаць навукова-дасьледчай працы мясцовых краязнаўчых арганізацый, якія вывучаюць свае раёны ў парадку ўдарнасьці.

У галіне выдавецкай ЦБК мае выдаць 10 нумароў час. „Наш Край“ па 5 друк. арк. кожны, другі зборнік програм і інструкцый,

экскурсыйны праваднік па БССР і адзін зборнік прац мясцовых краязнаўцаў ды дапамагаць выданьню мясцовых краязнаўчых зборнікаў і зьмяшчэньню лепшых прац краязнаўцаў у выданьнях Акадэміі Навук.

У час. „Наш Край“ мае быць скончана друкаваньнем краёвая бібліографія.

Як новы від працы на гэты год, высоўваецца організацыя выкананьня ўсімі раённымі краязнаўчымі організацыямі аднэй пэўнай працы, з тым, каб яна ахапіла ўсю БССР.

---

**А. Шашалевіч.**

# Краязнаўчая праца ў раёне.

На працягу апошніх трох год ЦБК мела магчымасьць улічыць колектыўны вопыт працы нашых раённых т-ваў краязнаўства і на падставе вынікаў гэтай працы вызначыць формы і зьмест краязнаўчай працы ў тым ці іншым раёне. Зразумела, што яшчэ няма ніводнага раённага т-ва краязнаўства, якое ў сваёй працы ва ўсіх напрамках зьяўлялася-б узорным. Прычыны гэтага для нас зразумелы: няпоўнае афармленьне нашага краязнаўчага руху, слабая падрыхтаванасьць нашага масавага краязнаўцы, адсутнасьць мінімальнай зацікаўленасьці з боку грамадзянства і ўстаноў да гэтай працы, перагружанасьць краязнаўцаў іншай грамадзкай працай і г. д. Але ў працы паасобных раённых т-ваў краязнаўства за гэты пэрыод выявілася шмат характэрных, карысных, цікавых рысаў, якія далі магчымасьць ЦБК аб‘яднаць гэты колектыўны вопыт і зрабіць вывады як у організацыйным напрамку, так і ў напрамку мэтодычным і дасьледчым. У гэтым артыкуле мы хочам паказаць тыя шляхі, якімі разьвіваецца краязнаўчая праца ў раёне.

### I. Організацыйная праца раённага т-ва краязнаўства.

Раённае т-ва краязнаўства такая організацыя, якая прэтэндуе і павінна прэтэндаваць на плянаваньне ўсяе краязнаўчае працы ў раёне. Каб гэта плянаваньне ішло правільным шляхам, каб ня было тыповых для нашых умоў „заняпадаў“ краязнаўчай працы, неабходна раённаму т-ву ў першую чаргу правесьці дасканалы падлік як паасобных краязнаўцаў і культурнікаў, якія могуць прынесьці карысьць для вывучэньня раёну, так і тых гурткоў, дзяржаўных устаноў, грамадзкіх організацый, якія па сутнасьці вядуць краязнаўчую працу, ці краязнаўчыя досьледы. Напрыклад, у розных мясцох раёну існуюць с. г. гурткі, аб‘яднаньні паляўнічых, саматужнікаў, розныя стацыянарныя ўстановы ўсіх тыпаў. Усё гэта неабходна ўцягнуць у кола краязнаўчай дзейнасьці т-ва, скарыстаць вынікі іх працы, атрымоўваць ад іх матар‘ялы, даручаць ім свае заданьні.

З другога боку, каб правільна і з посьпехам распачаць колектыўнае вывучэньне свайго раёну, неабходна бывае засноўваць самую шчыльную прыяцельскую сувязь з усімі савецкімі, партыйнымі і профсаюзнымі організацыямі, якія існуюць у раёне. Практыка паказвае, што ў тых раённых т-вах, дзе на чале організацыі і ў праўленьні т-ва стаяць асобы, якія маюць аўторытэт у вачох партыйных і савецкіх

установ раёну, дзе гэтая сувязь т-ва з імі самая шчыльная і сяброўская, там т-ва дабіваецца значных вынікаў у сваёй працы. Там сувязь выяўляецца з боку т-ва ў плянавай інформацыі гэтых установ і арганізацый аб мэтах, зьмесьце і выніках краязнаўчай працы ў раёне, з боку ўстаноў—у фактычным удзеле ў краязнаўчай працы кіраўнікоў гэтых установ і арганізацый—агрономаў, коопэратараў, лясьнічых, паляўнічых, загадчыкаў хат-чытальняў, дактароў і, што ня меней важна для разьвіцьця краязнаўчай працы,—у падтрыманьні т-ваў матар'яльнымі сродкамі. Прывядзем некаторыя цікавыя і паказальныя для нас прыклады. Лепельскае раённае т-ва ў мінулым годзе было ўзорным у гэтым напрамку. Дзякуючы падтрыманьню з боку ўстаноў і арганізацый, раённае т-ва на працягу двох год зрабілася даведачна-навуковым бюро ў раёне. Часта весткі па розных галінах жыцьця раёну можна знайсьці толькі ў раённым т-ве. Тут, дзякуючы шчыльнай сувязі праўленьня т-ва з раённымі ўстановамі, паступова концэнтраваўся ілюстрацыйны, статыстычны, экспозыцыйны матар'ял з жыцьця Лепельскага раёну. РВК даў т-ву свае справаздачы за апошнія гады, акты аглядаў сельсаветаў; міліцыя і суд далі статыстычныя лічбы аб правапарушэньнях і злачыннасьці, дзяржсьпірт даў матар'ялы аб алькоголізьме ў раёне, агроном даў апісаньне свайго агровучастку і г. д. У выніку такой арганізацыйнай чыннасьці т-ва РВК даваў і грашовую дапамогу т-ву ў разьмеры да 100 руб. у год. Грошы вызначаліся як на бягучую краязнаўчую працу ў раёне, так і на абсталяваньне краязнаўчага музэю і наладжваньне краязнаўчай выстаўкі. Аб гэтым мы яшчэ будзем гаварыць. Цяпер толькі важна падкрэсьліць, што правільная арганізацыйная сувязь раённага т-ва з мясцовымі ўстановамі і арганізацыямі дае магчымасьць знайсьці і тыя матар'яльныя крыніцы, якія канешне неабходны для разьвіцьця краязнаўчай працы ў раёне. Для акруговых т-ваў краязнаўства пытаньне аб матар'яльных сродках больш-менш вырашана, на чарзе вырашэньне гэтага пытаньня і для раённых т-ваў краязнаўства. Але неабходна, каб самі раённыя т-вы мелі сталую, самую цесную сувязь з раённымі ўстановамі, каб яны на пасяджэньнях прэзыдыуму РВК, райкомаў, на профсаюзных сходах знаёмілі ўстановы і арганізацыі з сваімі плянамі, зьместам і формамі працы і дабіваліся конкрэтных спосабаў падтрыманьня з боку арганізацый. Бяз гэтай умовы немагчыма матар'яльная дапамога краязнаўчым арганізацыям. А практыка паказвае, што савецкія, партыйныя, грамадзкія арганізацыі маюць магчымасьць дапамагчы т-вам. Большасьць т-ваў нават не дагадваецца зрабіць неабходныя захады перад РВК, перад культаддзелам, перад коопэрацыйнымі ўстановамі аб матар'яльнай і арганізацыйнай дапамозе т-вам.

Гаворачы аб уцягненьні ў краязнаўчую працу раённага т-ва розных установ і арганізацый, неабходна адно з першых месц сярод гэтых арганізацый аддаць комсамольскім і піонэрскім арганізацыям, затым хатам-чытальням, нардамом і школам. Час ужо на гэта зьвярнуць самую пільную ўвагу. Між тым толькі некаторыя нашы раённыя т-вы практычна праводзяць такую працу. Так Талачынскае раённае т-ва ў 1927 г. мела на раёне 4 такія гурткі, якія пераважна складаліся з комсамольцаў. Старшыня т-ва (жанчына!) некалькі разоў наведваў гэтыя гурткі, рабіў там даклады, даваў інструкцыі і вынікі гэтага: гурткі далі, хоць і слабыя, але цікавыя апісаньні экономічнага стану некаторых сельсаветаў і вёсак. У Асіпавічах існавала зьвяно „Краявед“, якое сабрала некаторыя весткі, выкарыстаныя ў II ч. вы-

даньня „Асіпавіцкі раён“. У Воршы піонэры прымалі актыўны ўдзел у археолёгічных і гістарычных досьледах Аршанскага Акруговага Т-ва. Мы маглі-б прывесьці безьліч такіх прыкладаў.

Што датычыцца хаты-чытальні, дык на вялікі жаль нашым раённым т-вам не ўдаецца зьвязацца з ёю і выкарыстаць яе ў краязнаўчым напрамку. Па ўсёй Беларусі мы маем толькі адзін факт існаваньня краязнаўчага гуртка пры хаце-чытальні. А між тым хата-чытальня—цэнтар культурнага жыцьця сялян, месца, дзе можна весьці летапіс бягучага жыцьця, месца, якое замяняе селяніну школу, клюб, тэатр, музэй, месца, дзе шмат ведаў можна ўзяць аб мясцовым краі. Хата-чытальня—мост, дзе савецкія культурнікі спатыкаюцца з сялянствам. Тут пэрыодычна ўсе працуюць: настаўнікі, клюбныя працаўнікі, агрономы, коопэратары, партыйцы, комсамольцы, жоноарганізатар, вучні 7-дак. Усе гэтыя працаўнікі — ядро, вакол якога раённае т-ва можа наладзіць краязнаўчую працу, уцягнуць у яе сялянства, вырасьціць з шэрагаў яго кадр сьвядомых краязнаўцаў.

Аналёгічную ўвязку раённае т-ва павінна мець і з нардомам.

Што датычыцца краязнаўчай працы школ, дык тут раённае т-ва павінна правесьці вялікую організацыйную працу. Нельга ні адну школу 7-ку заставіць без краязнаўчага гуртка, але неабходна каб гэтыя гурткі існавалі, не на паперы, а сыстэматычна, рэгулярна працавалі і ў сваёй чыннасьці давалі матар'ялы для краязнаўчай працы т-ва. Для гэтага неабходна, каб вучнёўскі краязнаўчы гурток працаваў па пляну т-ва, ад яго атрымоўваў інструкцыі, цікавіўся агульнай працай т-ва, дапамагаў яму ў штодзённай працы і сам ад т-ва атрымоўваў дапамогу. Кіраўнік шк. гуртка—павінен вылучацца райт-вам і быць найбольш актыўным сябрам т-ва, які выконвае важную задачу т-ва—падрыхтоўваньне кадраў маладых краязнаўцаў-культурнікаў.

На жаль, у нас вельмі мала краязнаўчых гурткоў пры 7-ках, якія вялі-б плянавую працу, якія апраўдвалі-б свой raizon d'être. Большасьць іх абмяжоўваюцца выпадковымі заданьнямі—сабраць фольклёр ці словы для раённага Слоўніка. Сабрана ўсё гэта, некуды паслана, нават не прагледжана, не апрацавана, нават ня прыведзена ў „чалавечы“ выгляд. На гэтым краязнаўчая праца спыняецца. На другі год зноў паўтараецца казка пра белага бычка. Вучні пачынаюць губляць зацікаўленасьць да гэтага і т. ч. краязнаўчая дзейнасьць моладзі рашуча і назаўсёды спынена ці падарвана. А між тым нават у гэтыя заданьні т-ва можа ўнесьці плянавасьць, каляндарнасьць, сыстэматычнасьць, можна наладзіць вакол сабраных матар'ялаў жывую гуртковую працу, надоўга прабудзіць у вучняў зацікаўленасьць да гэтага віду краязнаўчай працы. Як прыклад, прывядзем гурток пры Аршанскім рабфаку, які ў 27-28 годзе між іншым зьбіраў і фольклёрны матар'ял. На занятках гуртка сябры яго рабілі даклады. Так адна студэнтка сабрала ў сваёй вёсцы вялікі фольклёрны матар'ял і давала аб гэтым свае меркаваньні і думкі. Так моладзь прывучаецца да самастойнай дасьледчай працы і правільныя організацыйныя захады з боку краязнаўчых організацый забясьпечваюць магчымасьць гэтага.

Другі прыклад: гурток пры Лепельскай 7-цы займаўся вывучэньнем прыроды гораду. Т-ва дало правільны кірунак працы гуртку і апошні вельмі добра працаваў. На выстаўцы была экспонавана фаўна Лепельскага возера. У зьбіраньні экспонатаў для гэтага прыняў удзел увесь гурток.

У сваёй організацыйнай чыннасьці раённае т-ва краязнаўства павінна зьвярнуць пільную ўвагу і на студэнцтва, якое пэрыодычна наяжджае ці жыве ў раёне. Як паказвае вопыт краязнаўчай працы студэнцтва нашага БДзУ, роля студэнцтва ў краязнаўчым руху БССР вельмі адказная і вялікая. Раённае т-ва павінна ня толькі падлічыць студэнцкія сілы ў раёне, але і шчыльна зьвязацца з імі, даручыць ім у часе вучобы ў горадзе складаць бібліографію раёну, ці мястэчка, прапанаваць ім браць тэмы для унівэрсытэцкіх прац, зьвязаныя з раёнам. І гэта прынясе вялікую карысьць як раённым т-вам, так і самім студэнтам, бо заместа таго, каб калупацца ў агульных пытаньнях гісторыі ці мовы і другіх навук, студэнты будуць вывучаць гісторыю свайго гораду, мястэчка ці раёну, экономіку іх, будуць вывучаць мастацтва, літаратуру іх і г. д.

Далейшае пашырэньне краязнаўчай працы ў раёне патрабуе організацыі краязнаўчых ячэек у розных пунктах раёну. Прымаючы пад увагу, што склад нашых краязнаўчых організацый на 70% запаўняецца настаўнікамі, асьветнікамі, і экономячы культурныя сілы, трэба гэтыя краязнаўчыя ячэйкі засноўваць там, дзе можна разьлічаць на ўдзел у іх настаўнікаў, дзе настаўніцкія гурткі разам з пэдагогічнымі пытаньнямі будуць ставіць і пытаньні краязнаўства. Сувязь раённага т-ва з гэтымі гурткамі павінна быць самая шчыльная, жывая, рэгулярная і, каб наладзіць яе, раённаму т-ву ў першую чаргу прыдзецца заснаваць сувязь з мясцкомам працасьветы, пераканаць апошні ў грамадзка-карыснай працы краязнаўчых організацый і ў неабходнасьці гэтую працу залічваць, як грамадзкую, і вызваляць асоб, якія вядуць яе, ад іншай працы, што даручаецца ў парадку грамадзкасьці.

Каб раённае т-ва было організацыйна моцным, каб яно заўсёды мела аўторытэт і дапамогу, неабходна яму заўсёды быць зьвязаным з акруговым т-вам і ЦБК. Акруговае т-ва часта мае сродкі, літаратуру, спэцыялістых і так-сяк іншы раз можа дапамагчы раённаму т-ву краязнаўства. Такую дапамогу некаторыя раённыя т-вы атрымоўвалі ад Аршанскага акр. т-ва, ад Менскага, ад б. Калінінскага, у апошні момант ад Гомельскага. Мы ўжо не гаворым аб тым, што кожнае акруговае т-ва мае свой выдавецкі плян і рэалізаваць яго з посьпехам можа і праз раённыя таварыствы. Як мінімум такой сувязі, мы прапанавалі-б кожнаму раённаму т-ву два разы ў год даваць акруг. т-ву інформацыю аб сваёй чыннасьці і адзін раз у год паведамляць аб гэтым і ЦБК.

Урэшце, уся праца т-ва толькі тады будзе ісьці правільным шляхам, калі ўвесь час раённае т-ва краязнаўства будзе праводзіць такую неабходную працу організацыйнага характару, як падлік усёй краязнаўчай працы. Мы гаворым ня толькі аб усім вядомых формах падліку, як вядзеньне розных протоколаў, азначэньне ў пляне выкананай працы, розныя справаздачы на сходах і конфэрэнцыях. Мы гаворым яшчэ і аб неабходнасьці ўлічваць усё, што зроблена і кім зроблена па вывучэньні данага раёну. Як прыкладную працу ў гэтым напрамку, пакажам на Чэрвенскае, Лепельскае і Брагінскае т-ва. У першага кожны крок т-ва, кожны матар'ял, які пападае ў т-ва, старанна занатоўваецца, вядзецца свайго роду краязнаўчы дзеньнік, па якому, як па люстэрку, вы можаце бачыць стан краязнаўчай працы ў раёне. У Лепельскага т-ва, у яго музэі, заведзена кніжка „Лепельшчына" і кніжка „прапаноў", куды заносіцца ўсё, што даведаліся пра Лепельшчыну,

усе, падзеі, усе цікавыя думкі, якія зьявіліся ў людзей адносна вывучэньня ці паляпшэньня жыцьця свайго краю.

## II. Папулярызацыйная праца раённага т-ва.

Нельга сказаць, што нашы раённыя т-вы краязнаўства не вядуць папулярызацыйнай працы. Зусім наадварот. За апошнія два-тры гады рэдка адбываецца якая-небудзь настаўніцкая конфэрэнцыя, каб на ёй, няхай сабе ў бягучых справах, не паставілі дакладу аб краязнаўстве. Між тым „воз і ныне там". А часта мы дабіваемся гэтым і зусім адваротных вынікаў: ня толькі не выклікаем зацікаўленасьці да краязнаўчай працы, але зьнішчаем і рэшткі тае, якая была. У чым тут прычына? У тым, што час голых слоў даўно прайшоў, аднымі словамі нікога не праймеш, і папулярызацыю краязн. працы трэба праводзіць іншымі шляхамі: менш слоў і больш запраўднай краязнаўчай працы.

Мы пакажам некаторыя мэтоды гэтай папулярызацыі. Т-ва канешне ня можа абыйсьціся без папулярызацыйных дакладаў, якія мелі-б мэту ўцягнуць у краязнаўчую працу працоўнае насяленьне, але гэтыя даклады павінны быць наскрозь прасякнуты мясцовымі інтарэсамі. Калі гэта будзе справаздача раённага т-ва, трэба паказаць конкрэтна, што зроблена т-вам, хто зрабіў, як зрабіў; калі гэта будзе плян працы т-ва,—трэба паказаць, кім гэты плян будзе выкананы, у які тэрмін, як гэты матар'ял будзе рэалізаваны і г. д. Калі гэта будуць даклады на мясцовыя тэмы, трэба найбольшы лік людзей запрасіць на гэтыя даклады. Трэба сказаць, што даклады на мясцовыя тэмы у недалёкім будучым павінны заняць першае месца ў культпрацы на раёне. Трэба, каб краязнаўчыя організацыі хоць мінімум зрабілі ў гэтым напрамку, бо асноўная задача т-ваў—ня толькі вывучаць, дасьледваць свой край, але пропагандаваць веды аб гэтым, пашыраць іх сярод насяленьня. Хто і якія даклады на мясцовыя тэмы можа прачытаць па даручэньні раённага т-ва? Бярэм такія тэмы, якія ў першую чаргу будуць характарызаваць жыцьцё раёну. Напр., доктар па просьбе т-ва можа зачытаць даклад аб санітарным стане мястэчка ці якой-небудзь вёскі раёну, агроном аб выніках с.-г. выстаўкі ці аб стане колектывізацыі ў раёне, коопэратары—аб стане сельска-гасп. і спажывецкай коопэрацыі, аб цэнах на продукты, нарсудзьдзя—аб злачынстве ў раёне і г. д. Важна ўсяму гэтаму даць мясцовую, краязнаўчую афарбоўку, каб лічбы загаварылі, каб чыста мясцовыя патрэбы і проекты былі высунуты на першы плян.

Вось яшчэ другія цікавыя мясцовыя тэмы папулярызацыйных дакладаў: 1. Саматужніцтва ў раёне. 2. Гісторыя мястэчка ці вёскі. 3. Фольклёр, народная музыка і скокі ў раёне. 4. Народнае мастацтва ў раёне і г. д.

Другім спосабам папулярызаваць краязнаўчую працу ёсьць рэалізацыя здабытых краязнаўцамі матар'ялаў альбо ў мясцовым рукапісным, шклопісным часопісе, альбо ў акруговым і цэнтральным друку. Сярод нашых краязнаўчых організацый на Беларусі можна налічыць троху больш дзесятка такіх, якія выдавалі ці выдаюць свае краязнаўчыя рукапісныя ці шклопісныя зборнічкі. У Барысаўскім т-ве выдаецца зборнік „Наш раён" у 50 экз.. і распаўсюджваецца сярод настаўнікаў. На выданьне яго РВК нават вызначаў сродкі. Барысаўскі часопіс галоўным чынам аддае ўвагу вывуч. экономікі раёну. Іншыя часопісы (Сьмілавіцкі) зьмяшчаюць апрацаваныя матар'-

ялы па фольклёры раёну, краязнаўчыя зарысоўкі з жыцьця раёну, апісаньні вёсак, сельсаветаў. Усё гэта мае вялікае значэньне для папулярызацыі ідэй краязнаўства. Зразумела, што яшчэ большае значэньне мае зьмяшчэньне такіх мясцовых прац у акруговым ці цэнтральным друку. ЦБК на працягу апошніх двох год мае некаторыя дасягненьні ў гэтым напрамку. Так нядаўна Слуцкая організацыя спраўляла 5-цігадовы юбілей свайго існаваньня і цэнтральныя газэты „Савецкая Беларусь“ і „Зьвязда“ значнае месца на сваіх старонках аддалі краязнаўчай працы Слуцкіх дасьледчыкаў. Ці трэба падкрэсьліваць, якое моцнае ўражаньне зрабіла гэта на слуцкіх працаўнікоў, як узьняло іх зацікаўленасьць краязн. працай, як падняло аўторытэт слуцкіх краязнаўцаў сярод савецкіх і профсаюзных організацый. Пабачыўшы вынікі іх працы і спачуваньне гэтаму з боку цэнтральнага друку, мясцовыя партыйныя і савецкія працаўнікі, зразумела, яшчэ большую дапамогу будуць рабіць такому актыўнаму т-ву, якім ёсьць Слуцкае т-ва. Прыклад Слуцкага т-ва іншыя раённыя т-вы павінны выкарыстаць.

Зразумела, што распаўсюджваньне сярод насяленьня краязнаўчай літаратуры і асабліва часопісу „Наш Край“ таксама будзе популярызаваць краязнаўчую працу. Раённыя т-вы вельмі мала робяць у гэтым напрамку, забываючы, што ад пашырэньня падпіскі на „Наш Край“ яны будуць мець нават матар'яльную выгаду і, апрача таго, кожная цікавая праца мясцовага краязнаўцы заўсёды знойдзе прытулак у „Нашым Краі“. Канешне, ня трэба забываць і таго, што кожнае раённае т-ва як бліжэйшую задачу павінна ставіць выданьне сваіх прац уласнымі сіламі. Організацыйна зьдзейсьніць гэта часта ня так цяжка, бо каб былі матар'ялы, дык пры энэргіі т-ва заўсёды можа знайсьці такія крыніцы, усё роўна ці будуць яны—асыгнаваньнямі савецкіх устаноў, ці будуць ахвяраваньнямі, сяброўскімі складкамі, платай за спэктакль і г. д.

Ня трэба забываць і чыста мастацкія спосабы популярызацыі краязнаўчай працы. Можна сказаць нават, што гэтыя спосабы часта маюць большы эмоцыянальны эфэкт. Сюды адносіцца наладжваньне краязнаўчых вечарын, выставак краязнаўчых матар'ялаў, краязнаўчая газэта.

Краязнаўчая вечарына яшчэ мала популярна на Беларусі. Мы яшчэ не навучыліся наладжваць яе. Магілеўскае акр. т-ва наладжвала этнографічны вечар, Краязнаўчае т-ва пры БДзУ ў мінулым годзе наладзіла такую вечарыну, Слуцкае т-ва ў часе 5-гадовага юбілею наладзіла цікавую і вялікую краязн. вечарыну, Краснапольскіе раённае т-ва ў 1926 г. зрабіла гэта і яшчэ некаторыя іншыя зрабілі аналёгічную працу. У РСФСР living рознымі цэнтральнымі экспэдыцыямі, як напр. фольклёрнымі экспэдыцыямі бр. Сакаловых, шырака культывуюцца такія вечары і маюць вялікі посьпех.

Ня прыходзіцца даводзіць значэньне такіх вечарын у нашых умовах. Яны, па-першае, згуртоўваюць, яднаюць краязнаўчы актыў у моцны колектыў, па-другое, мастацкімі сродкамі прыцягваюць увагу да краязнаўства з боку шырокіх колаў насяленьня. І, праўда, краязнаўства ў хаце чытальні ці нардоме популярызуецца ня толькі шляхам гутарак і дакладаў аб сельскай гаспадарцы ці санітарным стане раёну, але і шляхам паказальных концэртаў, вечароў народных апавяданьняў, інсцэніровак народных казак і шляхам наладжваньня народных хораў. На гэтых краязнаўчых вечарынах удзел у ролі выканаўцаў прыймаюць ня толькі культурныя працаўнікі—інтэлігенцыя, але вельмі

важна ў мэтах популярызацыі краязнаўства, каб удзельнічалі ў гэтым народныя сьпевакі, сьпявачкі, апавядальнікі, баечнікі, скакуны, музыкі. У РСФСР гэта шырака ўжываецца, у нас яшчэ ня ўмеюць падтрымаць народныя таленты, заахвоціць іх, выклікаць у іх сьмеласьць, штурхануць іх на гэты свайго роду мастацкі спорт. А між іншым, гэта можа ўцягнуць сялян у зьбіраньне, вывучэньне і популярызацыю нашай народнай творчасьці, можа выхаваць кадр сьвядомых знатакоў і культывізатараў народнай творчасьці. У гэтым напрамку неабходна самую сур'ёзную ўвагу зьвярнуць на існуючыя ў раёне ячэйкі моладзі, іх драматычныя гурткі, іх газэтныя, селькораўскія аб'яднаньні.

Канешне, краязнаўчыя вечарыны лепш за ўсё злучаць з навукова-асьветнымі гутаркамі ці дакладамі аб быце, экономіцы, мясц. літаратуры, мастацтве і г. д.

Краязнаўчая вусная газэта таксама добры спосаб популярызаваць працу мясцовых краязнаўцаў. У нас гэта першы раз увяло ў практыку Слуцкае краязнаўчае т-ва ў гэтым годзе. Бязумоўна гэтую практыку трэба шырака скарыстаць. У гэтай газэце былі зачытаны невялікія нарысы з жыцьця Слуцку, складзеныя мясцовымі дасьледчыкамі, вершы мясцовых поэтаў, прысьвечаныя Слуцку і Случчыне, поэмы з рэволюцыйнага жыцьця Случчыны і г. д.

Урэшце, выстаўка краязнаўчых матар'ялаў, наладжаная ў самым скромным маштабе ў часе якой-небудзь конфэрэнцыі ці сходу, лепш за ўсё можа популярызаваць краязнаўчую працу. Выстаўка фотографій, зарысовак, малюнкаў, гэрбарыяў, слоўнікаў, сшыткаў з фольклёрам, каменьняў, зоолёг. колек. і г. д. — усё гэта прыцягвае ўвагу, выклікае жаданьне самому што-небудзь зрабіць. На Беларусі мала зьвяртаюць увагу на гэта і часта маючы прыкметныя дасягненьні ў гэтым напрамку, гаворачы аб гэтым, не дадумаюцца наладзіць хоць самую маленькую выстаўку, якая характарызавала-б гэтыя дасягненьні. А між тым, часта і слоў давялося-б траціць менш, бо выстаўка красамоўней сказала-б аб гэтым.

### III. Дасьледчая праца т-ва.

Гаворачы пра дасьледчую працу т-ва, трэба заўсёды мець на ўвазе, што на практыцы ніколі ня прыдзецца строга разлучаць організацыйную і дасьледчую працу т-ва, бо і ў дасьледчай працы т-ва заўсёды ёсьць моманты організацыйныя, і ў організацыйнай могуць быць дасьледчыя моманты. Трэба сказаць, што першыя-ж крокі дзейнасьці т-ва нямысьлімы без дасьледчых момантаў і жывым, актыўным т-вам будзе тое, якое адразу, побач з організацыйнымі крокамі, будзе рабіць і краязнаўчыя досьледы, — распачне з першага-ж дня свайго існаваньня вывучэньне краю. Калі мы паасобна гаворым аб дасьледчай працы т-ва, дык у мэтах падкрэсьліць некаторыя моманты ў дасьледчай працы т-ва, на якіх у большасьці выпадкаў нашы організацыі не концэнтруюць увагі. Перш за ўсё, мы хочам падкрэсьліць важнасьць зьбіральніцкай працы раённага т-ва краязнаўства, як першага этапу дасьледчай, краязнаўчай працы ў раёне. У гэтым напрамку, кожнае раённае т-ва, распачынаючы сваю пляновую дзейнасьць, павінна высьветліць, вывучыць, сабраць весткі, хто, калі, як вывучаў даны раён, якія вынікі гэтага вывучэньня, другімі словамі—у першую чаргу скласьці бібліографію раёну, каб не рабіць працу, якая ўжо зроблена папярэднімі дасьледчыкамі. Па-другое, раённаму т-ву краязнаўства неабходна зьбіраць увесь бягучы матар'ял з жыцьця раёну і апрацоўваць яго.

Правільна рабіла Лепельскае т-ва, якое зьбірала ўсе справаздачныя даклады раённых установў — саветаў, больніц, хат-чытальняў, актаў абсьледваньняў, мэтэоролёгічн. бюлетэняў. Такім чынам, яно зьяўляецца навукова-даведачным бюро ў раёне, якое больш за ўсіх можа быць компэтэнтным у чыста-мясцовых пытаньнях. Побач з такой бягучай працай неабходна і такая праца: зьбіраньне кніг, брошур, часопісаў, газэт ці выразак, розных нататак, рукапісных зборнікаў, насьценных газэт, прыватных ці іншых архіваў, лістоў, дзеньнікаў, мэмуараў, фотографій, афіш, дыяграм, абвестак — адным словам усяго таго, што ілюструе жыцьцё раёну з якога-небудзь боку. Калі за мінулыя гады мала засталося гэтых сьлядоў матар'яльнай і духоўняй культуры раёну, дык трэба ў далейшым увесь друк, усю літаратуру аб раёне старанна зьбіраць ці ў форме кніжак, ці ў форме альбомаў газэтных выразак. Ляднянскае раённае т-ва з мінулага году распачало такую працу і цяпер сабрала да 40 №№ такой бягучай хронікі з жыцьця раёну.

Усе гэтыя сабраныя матар'ялы павінны даць пачатак для раённага краёвага музэю. Організацыя такога музэю можа пасьпяхова злучыць у факце свайго існаваньня і організацыйную, і дасьледчую і популярызацыйную працу т-ва. Музэй — гэта фокус, у якім концэнтруецца самая рознастайная праца т-ва.

Неабходна зьвярнуць увагу на такую акалічнасьць. У апошні момант шмат якія раённыя т-вы краязнаўства, паведамляючы ЦБК аб асноўных момантах сваёй працы, нібы згаварыўшыся абмяжоўваюць свае пляны вывучэньнем некаторых пэўных зьяў у жыцьці раёну і сьвядома пакуль што не зачапляюць іншых больш шырокіх галін мясцовай навукі. Само-па-сабе такое абмежаваньне ёсьць свайго роду розум, імкненьне ўзяць працу і па сіле і па магчымасьці. Так Ляднянскае т-ва піша: асноўныя моманты нашай працы: 1) зьбіраньне мясцовага слоўніка, 2) географічнага слоўніка, 3) вывучэньне мясцовай гаворкі.

Талачынскае раённае т-ва: 1) вывучэньне асобных сельсаветаў і вёсак; 2) складаньне карты помнікаў раёну; 3) вывучэньне кірмашоў. Расьнянскае раённае т-ва: 1) слоўнік жывой мовы раёну; 2) географічны слоўнік раёну; 3) атрутныя і лекавыя расьліны раёну; 4) кароткі нарыс аб экономіцы раёну. Гарадоцкае: 1) фэнагляданьні, 2) выпраўленьне географічнай карты раёну, 3) пашырэньне музэю і г. д.

Бяручы толькі гэтыя заданьні, т-вы забываюць, што побач з такімі момантамі, якія імі пастаўлены ў асяродак краязнаўчай працы, магчыма і нават неабходна вышэй пералічаная зьбіральніцкая праца, неабходны яшчэ экскурсыйныя і стацыянарныя досьледы прыроды, экономікі і быту раёну, неабходна бягучая чарговая праца па мэтэоролёгіі, па фэнолёгіі, неабходны некаторыя экспэрымэнты для праверкі вывадаў і абагуленьняў, напр. біосадзікі, вопытныя вучасткі і г. д. Неабходна ілюстраваньне сваёй працы зарысоўкамі, фотографіямі, апісаньнямі, картамі, плянамі, дыяграмамі. Набыцьцё ў першую чаргу фотоапарата для т-ва таксама павінна быць важным момантам у працы т-ва.

Асноўным момантам у працы т-ва павінна быць і мэтодычная падрыхтоўка нашых масавых краязнаўцаў. Нашы раённыя краязн. т-вы цяпер маюць зусім выстарчальную краязн. літаратуру, але, ня гледзячы на гэта, яна ляжыць мёртвым капіталам, сябры т-ва і нават праўленьняў не вывучаюць яе. Неабходна прасунуць гэтую літаратуру ў гурткі, у школы, у грамадзкія організацыі.

**М. Азбукін.**

# Краязнаўчая праца ў Марыйскай Краіне.

Марыйская Краіна або, як яе скарочана завуць парасійску, МАО („Марийская Автономная Область“) — адна з 12 нацыянальных самаўрадных краін, што ўваходзяць у склад РСФСР. Да рэволюцыі большая частка гэтай краіны ўваходзіла ў склад Казанскай губэрні; меншая, поўночна-ўсходняя частка належала да Вяцкай, а самы заходні куток — да Ніжагародзкай губэрні. Краіна абымае прастору ў 22413 кв. км. (прыблізна ў 5,6 раза меншую за БССР) і налічвае, паводле даных перапісу 1926 г., — 482101 насельн. (у 10,3 раза менш, чымся БССР).

Галоўным багацьцем Марыйскай Краіны лічацца вялізныя лясныя масывы, пераважна сасновыя бары, згуртаваныя на вялікай пескавой нізіне Валожанскага левабярэжжа, і часткова ялова-ельнічныя лясы (Abieto-Piceaetum). Аднак, багацьці краіны яшчэ мала вядомы, бо вывучэньнем іх да апошняга часу мала займаліся. Наагул гэта — адзін з самых глухіх куткоў Эўропы. Да рэволюцыі тут ня было ні чыгунак, ні шос, і ад Волгі ў глыб краіны можна было праехаць толькі коньмі па надзвычайна кепскіх дарогах, у параўнаньне з якімі могуць ісьці хіба што найгоршыя дарогі найглушэйшых куткоў нашага Палесься. Ува ўсёй краіне ёсьць толькі два гарадкі: Йошкар-оло (былы Царавакакшайск) і Казьмадзям'янск, кожны з якіх можна раўнаць з якім-небудзь Глускам, Койданавам ці яшчэ якім з беларускіх мястэчак.

Але рэволюцыя аджывіла і гэты глухі куток нашага Саюзу. Краіна атрымала самакіраваньне, сталіца яе (Йошкар-оло) злучана чыгункай з станцыяй Зялёны Дол, Маскоўска-Казанскай чыг., у абодвух гарадкох адчыніліся пэдтэхнікумы, а ў цэнтрах кантонаў, якія адпавядаюць нашым раёнам,—школы другой ступені. Пачалася ўпартая барацьба з цемрай, з бездарожжам, з социяльнымі хваробамі, з старымі мэтодамі гаспадаркі. Зьявілася літаратура на марыйскай мове, выдаюцца марыйскія слоўнікі, кніжкі па розных пытаньнях сялянскай гаспадаркі, падручнікі, і ў першую чаргу мясцовая ўлада паклапацілася аб усебаковым вывучэньні свайго краю.

Летась і сёлета ў Марійскай Краіне працавалі дзьве экспэдыцыі, організаваныя запрошанымі з Масквы выдатнымі спэцыялістымі: глебавая з проф. Імшанецкім на чале і геоморфолёгічная пад кіраўніцтвам проф. Дабрыніна. Апрача таго пачалося сыстэматычнае вывучэньне геолёгічнае будовы паўднёва-заходняй часткі краіны.

Аддзел Аховы Здароўя наладзіў спэцыяльную экспэдыцыю па вывучэньні грунтавой вады, вальлёвае хваробы і крэтынізму. Для кіраваньня антрополёгічнай працай запрошаны вядомы маскоўскі антрополёг Жукаў.

Вывучэньнем марыйскай мовы занялася асаблівая камісія пры Краінным Выканаўчым Камітэце пад ідэёвым кіраўніцтвам акадэміка Марра. Побач з вывучэньнем жывой мовы гэтая каміся працуе над марыйскай літаратурнай мовой і марыйскай навуковай тэрмінолёгіяй.

У 1926 годзе мясцовыя культурныя сілы згуртаваліся ў *Марыйскае Таварыства Краязнаўства.* Организацыйны пэрыод працы гэтага таварыства больш-менш закончыўся ўвосені 1928 г. Цяпер аддзяленьні

гэтага таварыства ёсьць ува ўсіх кантонах, апрача Зьвянігаўскага[1]), у якім уся краязнаўчая праца згуртавалася ў гуртку пры школе другой ступені.

Усяго на 1-е ліпня 1929 г. ў Марыйскім Таварыстве Краязнаўства было 609 членаў, пераважна настаўнікі, працаўнікі савецкіх і коопэрацыйных установ, часткова перадавыя сяляне і работнікі. У гэты лік не ўваходзяць вучні школ, організаваныя ў школьныя краязнаўчыя гурткі. Апрача таго, у Краязнаўчае Таварыства ўваходзіць, як юрыдычная асоба, Саюз Паляўнічых, які налічвае да 1000 членаў. Шчыльную сувязь з Марыйскім Таварыствам Краязнаўства падтрымліваюць студэнты-марыйцы Ленінградзкага, Казанскага ды Маскоўскага унівэрсытэтаў і іншых вышэйшых школ, асабліва-ж студэнты марыйскага рабфаку ў Казані.

На выдаткі Таварыства ў 1928-29 годзе было адпушчана мясцовай уладай 4500 р., і недахват сродкаў зьяўляецца галоўнай перашкодай у працы. Другой перашкодай зьяўляецца недахват адукаваных людзей. Асабліва перашкаджае вывучэньню мясцовага жыцьця адсутнасьць інтэлігенцыі, знаёмай з марыйскай мовай. Рэшткі расійскай дробнай бюрократыі царскай эпохі дагэтуль не паклапаціліся пазнаёміцца з мовай большасьці насельніцтва ў краіне. Частка гэтай бюрократыі пранікла ў Таварыства Краязнаўства і перашкаджае пераходу Таварыства да працы на марыйскай мове.

Пакуль-што Таварыства не падзялялася на сэкцыі, з яго вылучылася толькі адна сэкцыя вывучэньня народнай музыкі і мастацтва. Цэнтрам увагі Таварыства зьяўляецца вывучэньне марыйскай этнографіі.

Дагэтуль найбольш зроблена ў справе вывучэньня песеннай творчасьці і музычных інструмэнтаў. Шырака разгортваецца праца па вывучэньні матар'ялаў да рэформы марыйскага адзеньня з мэтай модэрнізаваць яго і мэханізаваць процэсы вырабу. У марыйскіх умовах гэтае пытаньне зьяўляецца вельмі актуальным. Справа ў тым, што марыйкае адзеньне, асабліва жаночае, славіцца надзвычайнай прыгожасьцю і орыгнальнасьцю. Акрасы з срэбных монэт на шыі, на грудзях, на поясе, і на галаве, прыгожыя і вельмі складаныя вышыўкі на кашулях, орыгінальныя каптуры „сарокі" на галовах жанчын, тканыя ды вязаныя аздобы па падоле,—усё гэта вымагае надзвычайна маруднай, цяжкой і ўпартай працы. Мэханізаваць процэсы гэтай працы—значыць літаральна выратаваць марыйскую жанчыну з немагчыма цяжкага палажэньня, даць ёй вольна ўздыхнуць. Заданьне—вартае ўвагі краязнаўчае організацыі.

Апрача таго, Марыйскае Таварыства Краязнаўства вывучае рэцэпты гатаваньня натуральных фарб для тканіны і займаецца зьбіраньнем розных этнографічных колекцый. Бліжэйшым сваім заданьнем марыйскія краязнаўцы паставілі выданьне раскошнага альбому марыйскіх вышывак у фарбах. Проспэкт гэтага альбому, вельмі добра выкананы мясцовым мастаком, разасланы ўва ўсе зацікаўленыя ўстановы Саюзу.

Марыйскім Таварыствам Краязнаўства выяўлены і вывучаюцца цікаўныя археолёгічныя знахадкі каля вёскі М. Лугавой, жалезныя і каменныя прылады ў Гарадзішчы. Там намечана правядзеньне ў бліжэйшыя часы раскопак.

---

[1]) Цэнтар гэтага кантону—невялікі пасёлак Зьвянігаў на Волзе, дачнае месца для Казані.

Побач з гэтым Таварыства дзейна працуе над пытаньнямі сучаснай экономікі краіны, вывучае карысныя выкапні, працуе над падвышэньнем ураджайнасьці, над вывучэньнем умоў барацьбы з шкоднікамі, вывучае прычыны слабога разьвіцьця культуры лёну ў Марыйскай краіне, імкнецца вывучыць магчымасьці паляпшэньня парод мясцовай жывёлы і г. д.

Па прыкладу Кабардына-Балкарскіх краязнаўцаў Марыйскае Таварыства занялося ўсебаковым вывучэньнем тыповай вёскі.

Шчыры ўдзел Таварыства прыймала ў справе падрыхтоўкі і здымкі першага марыйскага кінофільма „Марый Кужэр“, дзе рысуецца барацьба за калгас. Адным з важных пытаньняў, якімі занята Таварыства, зьяўляецца організацыя навуковай бібліотэкі па пытаньнях марызнаўства.

Усе свае працы Таварыства друкуе ў часопісе „Марий-Эля“ („Марыйскі край“), органе Марыйскага Кр. Выканаўчага Камітэту, але асобныя краязнаўцы выпусьцілі шэраг сваіх прац, пераважна на расійскай мове асобнымі выданьнямі. Асаблівай увагі заслугоўвае многатомная праца сакратара Таварыства т. Ян-Тэміра „Описание Марийской области“.

Колекцыі, сабраныя Таварыствам Краязнаўства, знайшлі сабе месца ў музэях у Йошкар-ола і ў Казьмадзямянску. Побач з малюнкамі мясцовых мастакоў, якія адлюстроўваюць жыцьцё марыйскай вёскі, рысуюць процэсы працы, пэйзажы, даюць уяўленьне аб тыпах марыйцаў, у музэі ў Йошкар-ола знаходзяцца значныя этнографічныя колекцыі: вышыўкі на жаночых і мужчынскіх кашулях, адзеньне, акрасы з серабра і з чарапашынак, паясы, „сарокі“ (галаўныя ўборы замужніх жанчын), модэль старасьвецкай сядзібы, колекцыі сурогатных хлебцаў, якімі карміліся ў галодны час у Марыйскім краі, з пладоў ліпы, з кары, з арэхавых каткоў, з дубовых гнілушак, з наростаў на дрэвах, з жалудоў і г. д.

Зразумела, што марыйскія музэі далёка адсталі ад Менскага Дзяржаўнага Музэю, але пры ацэнцы марыйскіх дасягненьняў трэба помніць марыйскі маштаб, а галоўнае — адсутнасьць буйных культурных асяродкаў, слабую сувязь з знадворным сьветам і спрадвечную адсталасьць гэтага глухога невялікага кутка, забытага і забітага царскім урадам.

---

Віт. Вольскі.

# Вусныя паданьні літоўскіх татар.

За час свайго шматвяковага гістарычнага жыцьця ў межах Беларусі, літоўскія татары здолелі, паміма багатай нацыянальна-бытавой і рэлігійнай літаратуры на беларускай мове („кітабы“), стварыць і цікавыя прыклады вуснай народнай творчасьці. Акрамя цэлага шэрагу казак і паданьняў, галоўным чынам рэлігійна-навучальнага характару, якія наогул шырака распаўсюджаны сярод мусульманскіх народаў бліжняга Усходу і запазычаны напэўна літоўскімі татарамі ў старыя часы ад сваіх адзінаверцаў і сваякоў, а можа, захаваліся ў іх і ад уласных продкаў,—сярод масаў татарскага насельніцтва на Беларусі распаўсюджаны таксама і карыстаюцца вялікай популярнасьцю

вусныя паданьні, якія стварыліся з цягам часу ўжо на беларускай глебе. Гэтыя паданьні носяць яскравы адбітак свайго беларускага пахаджэньня. З боку свайго зьместу іх можна падзяліць на рэлігійныя і гістарычныя, г. зн. тыя, якія датычацца да гісторыі пасяленьня татар на тэрыторыі Вял. Кн. Беларуска-Літоўскага і да абставін іх гістарычнага жыцьця на сваёй новай, заходняй радзіме.

Першыя з іх маюць бясспрэчную ўсходнюю афарбоўку і па тэндэнцыйнасьці свайго зьместу носяць яскрава падкрэсьлены ісламіцкі характар. Зьмест іх цалкам накіраваны ў бок большага ўмацаваньня ў сэрцах слухачоў асноўных догматаў мусульманскай рэлігіі. Але ў той-жа час яны маюць і шмат беларускіх элемэнтаў. Гэтыя паданьні не пазбаўлены, у прыватнасьці, цікавага мясцовага колёрыту.

Поданьні-ж другой катэгорыі ня маюць ні рэлігійнай, ні этнографічнай афарбоўкі. Іх зьмест цікавы з боку гістарычнага дасьледваньня мінулых падзей, памяць аб якіх захавалася сярод татарскага народу, дзякуючы вуснай перадачы ад продкаў, ад бацькі да сына.

Як тыя, так і другія звычайна зьвязаны з пэўнымі мясцовасьцямі ў межах Беларусі. Усе гэтыя ўзоры народнай творчасьці, як рэлігійнага, так і гістарычнага характару, аб якіх мы зараз гаворым, не запісаны ў рукапісных помніках беларуска-татарскай літаратуры. Яны жывуць сярод народу аж да гэтага часу, не зафіксаваныя на паперы. Зараз, у зьвязку з пашырэньнем у вёсках гарадзкой культуры, гэтыя паданьні пачынаюць патроху выходзіць з ужытку і забывацца. Між тым, яны зьяўляюцца для навукі цікавымі прыкладамі вусных народна-татарскіх твораў, узросшых на беларускай глебе, у якіх яскрава перакрыжоўваюцца ўсходнія (цюрка-арабскія) і заходнія (беларуска-польскія) ўплывы.

Аб тым, што татары даўно ўжо лічаць сябе карэннымі жыхарамі Беларусі і адчуваюць сваю прыналежнасьць да гэтай краіны, сьведчаць ніжэйпаданыя вытрымкі з гістарычных крыніц. У актах Літоўскай мэтрыкі за 1508 г. ёсьць адозва літ. татар да сваіх адзінаверцаў, якія ў той час рабавалі акраіны В. К. Бел.-Літоўскага. У гэтай адозьве яны гавораць: „Ані бог, ані прарок не казалі вам рабаваць, а нам быць няўдзячнымі. Мы лічым вас за драпежнікаў і шаблямі сваімі паражаем ня брацьцяў нашых, а грабежнікаў. Заставайцеся за Волгаю, пакуль іншыя орды вас ня выпхнуць, бо мы каля Вацы [1]) будзем кроў праліваць за ліцьвінаў, якія нас лічаць сваемі братамі“.

У просьбе, накіраванай да караля Жыгімонта I ў 1519 г., аб якой таксама зьмешчана ў літоўскай метрыцы, татары пішуць: „На шаблі нашы прысягалі, што любім ліцьвінаў, як брацьцяў, а калі яны на вайне мелі нас палоннымі, дык казалі тым, якія ўступалі на гэтую зямлю, што гэты пясок і гэтая вада і гэтыя дрэвы будуць нашымі, супольнымі. Нашы дзеці ведаюць аб гэтым і нашы браты над салёнымі вазёрамі ведаюць, што мы ў краіне вашай ня чужынцы“ [2]).

Цяпер прывядзем прыклад вуснага паданьня, зьвязанага таксама з пэўнай мясцовасьцю, але ў дачыненьні да пэўных гістарычных падзей.

На рацэ Вацы, каля Вільні знаходзіцца адно з старэйшых паселішчаў татар на Беларусі — мястэчка Сорак Татар. Сем вялікіх мусульманскіх могілак вакол яго сьведчаць аб тым, што калісьці гэтая мя-

[1]) Вака—рака каля Вільні.
[2]) Абедзьве вытрымкі цыт. паводле Мухлінскага.

сцовасьць была заселена выключна татарамі. Сярод татар існуе паданьне, быццам гэтае паселішча было заснована 40 братамі-татарамі, выхадцамі з арды, якія тут пасяліліся. Зьвяртаючыся да гістарычных крыніц, мы ў сваю чаргу чытаем аб тым-жа ў Міхайлы Ліцьвіна[1]), які, адзначаючы магчымасьць гэткага здарэньня, піша: „Ня так даўно яшчэ ў войску Аслам-Султана былі 40 сыноў нейкага Амэльдэша, моцныя, нараджоныя ад жонак і наложніц ў адным і тым-жа годзе, быць можа ў адзін і той-жа месяц. Прыметна была гэта кагорта 40 братоў. На раце Ваце ёсьць вялікае сяло татарскае, якое здаўна завецца сялом 40 татар, г. ё. братоў.

Татары добра памятаюць сваё пахаджэньне і ў вусных паданьнях захавалі аб ім весткі. Так, напрыклад, сярод іх захавалася паданьне аб тым, што іх продкі былі запрошаны на Беларусь літоўскім князем Вітаўтам, у якасьці саюзьнікаў для барацьбы з крыжакамі. Пасьля войнаў яны засталіся ў гэтай зямлі назаўсёды. Прышлі яны на Беларусь ў колькасьці 100.000 чалавек. Гэтае паданьне часткова, бязумоўна, адпавядае запраўднасьці. Цікавы, між іншым, дэталі, якія перадаюцца старымі ў спадчыну ад продкаў аб барацьбе з крыжакамі. Паводле паданьня, літоўцы былі бясьсільны саўладаць з крыжакамі ўласнымі сродкамі і таму запрасілі на дапамогу продкаў літоўскіх татар, якія пачалі змагацца з крыжакамі ня толькі зброяй, але і мусульманскім чарадзействам. У той-жа час паданьне гаворыць, быццам татары заўсёды перамагалі крыжакоў сваёй рухлівасьцю. У сваім цяжкім панцырным узбраеньні крыжакі нічога не маглі рабіць супроць арканаў, якімі татары сьцягвалі цяжка ўзброеных рыцараў з коняй.

Характэрна адзначыць, што ў гэтых паданьнях ніколі не гаворыцца адносна пахаджэньня значнай часткі літ. татар ад вайскова-палонных. У гэтым сказваецца свойго роду нацыянальны гонар. Затое ў асноўным амаль што ўсё, вышэйпамянутае пацьвярджаецца гістарычнымі данымі.

Варта таксама адзначыць, што сярод татарскага насельніцтва Беларусі да апошняга часу ня згінула памяць аб іх протэктары Вітаўце. Татары заўсёды ўспамінаюць яго імя з пашанай. Яны кажуць, што Вітаўт, запрасіўшы іх продкаў да сябе ў Літву, адносіўся да іх заўсёды ветліва, дазволіў ім браць жонак з мясцовага насельніцтва і абараняў іх ад уціску з боку духавенства і ад прымусу пераходзіць у хрысьціянства. Усё гэта таксама пацьвярджаецца гістарычнымі крыніцамі.

Такім чынам мы бачым, што шмат вусных паданьняў літоўскіх татар, якія датычацца мінулага, у значнай ступені адпавядаюць запраўдным падзеям і асабным фактам, што мелі месца ў гісторыі і засьведчаны ў належных докумэнтах.

Зьбіраньне і распрацоўка гэтых паданьняў, з мэтаю захаваньня ў інтэрэсах навукі гэтых слоўных помнікаў татарскага насельніцтва Беларусі, павінна, здаецца мне, быць абавязкам кожнага сьвядомага краязнаўцы, асабліва для краязнаўцаў татарскага пахаджэньня, якім гэта будзе значна лягчэй, чым працаўніком іншых нацыянальнасьцяй.

---

[1]) Michalonis Lituani, de moribus tartarorum, lituanorum et maschorum. Базель, 1615.

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

Т. П. Кулакоў і
М. С. Валатоўскі.

## Крукавіцкі сельсавет Азарыцкага раёну Мазырскае акругі.

### Географічнае палажэньне і тэрыторыя.

Крукавіцкі сельсавет займае паўднёвую частку Азарыцкага раёну. Заснаваўся сельсавет пры раёнаваньні БССР у 1924 годзе ў цэнтры был. Крукавіцкай воласьці, якая ўваходзіла ў склад Рэчыцкага павету Менскай губ. да рэволюцыі і да Гомельскай губ. пасьля рэволюцыі.— Цэнтар сельсавету в. Крукавічы — знаходзіцца на адлегласьці 5 км. ад раённага цэнтру м. Азарыч, на адлегласьці 57 км. ад акруговага г. Мазыра і на адлегласьці 25 км. ад бліжэйшага чыг. разьезду Халоднікі Зах. чыг. Бліжэйшая рэчная прыстань — Парычы — ляжыць на поўнач ад Крукавіч у адлегласьці 45 км. Бліжэйшым і запраўдным рынкам для Крукавіцкага сельсавету зьяўляецца м. Азарычы і толькі ў нязначнай меры г. Каленкавічы — для прымежных з Каленкавіцкім раёнам паселішч: Вуглы, Беразьнякі і Церамошнае, насельніцтва якіх часамі наведвае Каленкавіцкі базар, дзе збывае продукты сельскагаспадарчай вытворчасьці і купляе фабрыкаты. Мяжуецца сельсавет на поўначы з Холмскім і Азарыцкім, на ўсходзе з Наваселкаўскім, на захадзе з Савіцкім сельсаветамі Азарыцкага раёну і на поўдні з Каленкавіцкім раёнам. Па велічыні тэрыторыі, колькасьці гаспадарак і насельніцтва сельсавет зьяўляецца другім у раёне. Плошча тэрыторыі с/с. займае 6126 дз. Сельсавет ядняе 11 паселішч з агульным лікам гаспадарак 543 і насельніцтва ў іх 3031 чал. Разьмешчаны паселішчы навакол сельсавецкага цэнтру досыць роўнамерна, сярэдняя адлегласьць бліжэйшых ад гэтага цэнтру 2-3 км. і аддалёных 4-5 кілёмэтры.

Праз сельсавет праходзяць шляхі раённага значэньня: з м. Азарычы на м. Капаткевічы ў паўночна-заходнім кірунку і з г. Каленкавічы таксама на Капаткевічы праз паўднёвую частку с/с. Абодва шляхі злучаюцца ў в. Савічы, што ў 10 км. ад Крукавіч на захад. Масты і грэблі на паказаных шляхох адрамантаваны і знаходзяцца ў здавальняючым стане. Для зносін з асобнымі паселішчамі ў сельсавеце ёсьць прасёлачныя дарогі, якія гразнаваты ўвесну і ўвосень

і пяшчаны ўлетку. Зімою, калі замярзаюць балоты, дарогі значна скарачаюцца.

Наогул можна сказаць, што натуральных перашкод для ўнутраных і знадворных зносін у сельсавеце няма. Чыгуначныя і вадзяныя шляхі на тэрыторыі сельсавету адсутнічаюць.

Паверхня сельсавету значна прыпаднятая на паўночнай частцы, ад так званай Азарыцкай нізіны, далей паступова на поўдзень пераходзіць у аднастайную раўніну. Усходняя частка прадстаўляе нізіну, па якой працякае рэчка Віша. Нізіна занята балотамі, якія паласою ўшыркі да 1 км. цягнуцца праз увесь сельсавет з поўначы на поўдзень на працягу 10—13 км. Ад балот паміж в. Сышчыцы і б. маёнткам Ворсічы адыходзіць вузкая палоска балот на захад да в. Крукавіч, адкуль паварочвае на поўдзень, агінае в. Вішу і зноў накіроўваецца на ўсход, дзе злучаецца з балотамі, што раскінуты на нізіне р. Вішы. На балотах сустракаюцца кусты вольхі, бярэзьніку, лазы, рабіны і інш. Асабліва шмат кустоў на ўсходняй частцы балот, дзе яны паступова ад алешніку і бярэзьніку пераходзяць да хваёвых зарасьнікаў і далей у паўднёва-ўсходняй частцы зьмяняюцца лесам, пераважна хваёвым, з прымешкаю бярозы і асіны.

Рэчка Віша, (або Вішанка як завуць яе тубыльцы) 30 год назад пракопана лесапрамыслоўцамі і цяпер прадстаўляе звычайную канаву. Дно рэчкі глейкае, глыбіня пры звычайным роўні 0,50—0,75 мэтра, шырыня да 6-7 м. Самае глыбейшае месца рэчкі Вішы 7-8 мэтр. каля маста, што па дарозе з Крукавіч у Новаселкаўскі сельсавет, дзе ёсьць вадзяны млын з валюшам грам. Кацмана. На балотах рэчкі Вішы ёсьць 4 крыніцы з смачнаю, празрыстаю, халоднаю вадою з балотным пахам. Вада ў крыніцах ніколі не замярзае. Адна з крыніц каля маста, аб якім сказана вышэй, прыстасавана для студні. Другая крыніца каля в. Віша дае пачатак невялічкаму раўчачку, які цячэ ў рэчку Вішу. Астатнія дзьве крыніцы знаходзяцца на сенажаці, каля был. маёнтку Ворсічы.

Глеба ў сельсавеце пераважна супяшчаная ў заходняй частцы, дзе сустракаюцца значныя прасторы пяску парослыя рэдка хвойнікам і бярэзьнікам. У астатніх частках сельсавету супяшчаная глеба чаргуецца: з суглінкамі на поўдні і падзолам на ўсходзе, бліжэй да балот. Глеба пры добрым угнаеньні і сталым доглядзе можа даваць добрыя ўраджаі. На абшарах сельсавету сустракаецца шмат імшарын, з якіх некаторыя ўлетку высыхаюць. У імшарынах шмат торпу, які вакольнае насельніцтва часткаю выкарыстоўвае для падсьцілкі хлявоў.

Лясоў у сельсавеце мала, яны раскіданы на заходняй, усходняй частцы сельсавету, дзе яны пераважна складзены хвояй, з нязначнаю прымешкаю бярозы і асіны. Будаўнічых матар'ялаў тут няма. Лепшы лес сконцэнтраваны на поўдні сельсавету, дзе пераважаюць такія пароды: ясень, бяроза, граб, хвоя, дуб, ляшчына, асіна і вярба. У лесе растуць грыбы: абабкі, баравікі, падасінавікі, суравежкі, апенькі, махавікі, падбалацянкі, зялёнкі, лісічкі (лісянкі), рыжыкі, а з атрутных— мухаморы. З ягадных расьлін сустраклюцца: брусьніцы, чарніцы, буякі, суніцы і журавіны.—З лекавых расьлін у лясох шмат расьце: багуну, дзеразы і крушыны, а на балотах: аер, валяр'яна і румянак. У мясьціне Задвор'е, што ў $1^1/_2$ кілёмэтрах ад в. Віша на захад, расьце шмат чамярыцы, з якое здабываецца вератрын.

З карысных выкапняў на тэрыторыі сельсавету шмат сустракаецца чырвонае гліны, торпу, а месцамі ў балотах ёсьць і жалезная руда.

Вельмі многа гліны ў мясьціне „Лясьніца“, што на поўдзень ад в. Крукавічы ў адлегласьці да 4 км., дзе гліна залягае на глыбіні 0,4 мэтру і распаўсюджана на плошчы да 10 гэкт. Там 20 год назад былы абшарнік маёнтку Ворсічы пабудаваў цагельню, разбураную ў гады грамадзянскае вайны. Месцамі каля балот у паўднёвай частцы сельсавету спатыкаецца гліна зеленаватага колеру, якою насельніцтва беліць печы. З дзікай жывёлы ў лясох сельсавету водзяцца: зайцы, белкі, ваўкі і лісы; з птушак: глушэц, курапатка, цецярук, кулік і інш., а на балотах — качкі, кнігі, чаплі і інш.

### Насельніцтва і яго заняткі.

На 1 студзеня 1928 году ўсяго ў сельсавеце налічвалася 3031 чалавек, з якіх: 1507 мужчын і 1524 жанч. Па нацыянальнаму складу насельніцтва разьмяркоўваецца так: беларусаў 2964 ч., яўрэяў 27 ч., украінцаў 36 і іншых 4. Усе насельніцтва сельсавету разьмешчана ў 11 паселішчах так:

| №№ | Назва паселішча | Род паселішча | Насельніцтва | | | | Лік гаспадарак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1880 | 1926 | 1927 | 1928 | 1880 | 1928 |
| 1 | Беразьнякі . . . . | вёска | — | 484 | 491 | 504 | — | 87 |
| 2 | Віша . . . . . . | „ | — | 172 | 171 | 174 | — | 30 |
| 3 | Віша б. маёнт. . . . | хутар | — | 33 | 31 | 35 | — | 8 |
| 4 | Ворсічы—б. маёнт. . . | „ | 9 | 33 | 43 | 64 | — | 11 |
| 5 | Вуглы . . . . . . | вёска | 119 | 369 | 372 | 379 | 19 | 65 |
| 6 | Гара . . . . . . | „ | — | 212 | 204 | 207 | — | 40 |
| 7 | Крукавічы . . . . | „ | 284 | 671 | 689 | 673 | 33 | 124 |
| 8 | Сышчыцы . . . . . | „ | 258 | 576 | 548 | 554 | 30 | 98 |
| 9 | Чыстая-Лужа . . . . | „ | — | 126 | 125 | 130 | — | 22 |
| 10 | Шарэпічы . . . . . | вёска | 235 | 294 | 255 | 261 | 31 | 48 |
| 11 | Церамошнае . . . . | хутар | — | 41 | 44 | 45 | — | 10 |
| | | | | 3011 | 2965 | 3031 | | 543 |

Натуральны рух насельніцтва паводле сталых вестак Загс‘у характарызуецца наступнаю табліцаю:

| Гады | Лік насельніцтва | Нарадзілася | Памерла | Адбылася | | Выехала з с-с. | Увага: |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Шлюбаў | Разводаў | | |
| 1926 | 3011 | 150 | 48 | 26 | 2 | — | Матар‘ялы Загс‘у РВК і с-с. |
| 1927 | 2965 | 124 | 75 | 11 | 3 | 38 | |
| 1928 | 3031 | 128 | 59 | 18 | 4 | — | |

З прыведзенай табліцы можна бачыць, што сярэдні прырост насельніцтва ў год на 1000 ч. дае 44 чал., а сьмяротнасьць 18 чал. Трэба адзна-

чыць, што нараджальнасьць у апошнія гады крыху зьмяншаецца з прычыны пашырэньня абортаў і ўжываньня іншых мер супроць цяжарнасьці.

Асноўным відам заняткаў насельніцтва зьяўляецца земляробства з ухілам да жывёлагадоўлі. Падсобнымі відамі заняткаў лічацца: заработкі ў лесе для большай часткі гаспадарак і для меншай — рамёствы: шавецтва, кравецтва, бондарства, выраб цэглы і іншае.

## Сельская гаспадарка.

Усяго гаспадарак у сельсавеце на 1 студзеня 1929 году налічвалася 543, якія паводле соцыяльнага складу разьмяркоўваюцца так: заможных 25, серадняцкіх 218, бядняцкіх 291, батрацкіх 2, саматужных 5 і іншых 2. Забесьпячэньне зямлёю гаспадарак наступнае: безьзямельных 2, ад 1да 2 дз. 98, ад 2 да 5 дз. 338, ад 5 да 10 дз. 90 і больш 10 дз. 15.

Уся зямельная плошча сельсавету налічвае 6126 дзесяцін і па ўжытках разьм. так:

| Ужыткі | Сяліба | Ворная зямля | Сенажаць | Лес і хмызьняк | Выган і іншае | Пяскі і неразьмерк. | Усяго ўжыткаў | Няўжыткаў | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дзес. . . . . | 245 | 1976 | 1357 | 897 | 787 | 864 | 4475 | 1651 | Матар'ялы земаддзелу РВК. |

З прыведзеных даных можна бачыць, што пры наяўнасьці ў сельсавеце 3031 чал. насельніцтва, разьмешчаных у 543 гаспадарках усяе зямельнае плошчы прыходзіцца на 1 чал. 2,02 дз., на 1 гасп. 11,09 дз.; ворнае зямлі на 1 чал. 0,58 дз., на 1 гасп. 3,27 дз., і сенажаці на 1 чал. 0,43 дз. і на гасп. 2,38 дз. Пры належным землеўпарадкаваньні і рацыянальным выкарыстоўваньні закінутых частак зямельнай плошчы можна было-б лічыць здавальняючым забесьпячэньне гаспадарак зямлёю. Адносна сенажацяй трэба сказаць, што наяўная плошча іх пры нізкай якасьці і адсутнасьці якога-бы то ні было догляду за імі, зьяўляецца далёка незабясьпечваючай патрэб гаспадаркі.

Мэліорацыйная праца яшчэ не праводзілася.

## Формы землекарыстаньня.

Сялянская сельская гаспадарка разьвівалася з даўніх часоў пры цераспалосна-падворнай форме землекарыстаньня з трохпольным севазваротам. У пэрыод з 1910 па 1914 год на тэрыторыі сельсавету праводзілася землеўпарадкаваньне па Сталыпінскай сыстэме. Да вайны пасьпелі разьмеркаваць на хутары толькі дзьве вёскі: Беразьнякі і Сышчыцы, а іншыя вёскі засталіся пры падворна-цераспалоснай форме землекарыстаньня. Пасьля рэволюцыі малазямельныя гаспадаркі атрымалі прырэзку з былых абшарніцкіх і царкоўных зямель, у колькасьці да 1300 дзесяцін.

Разгорнутая ў бягучым годзе праца па колектывізацыі сельскае гаспадаркі знаходзіць прыхільнікаў сярод бядняцка-серадняцкіх мас насельніцтва. Вёска Беразьнякі, адна з бяднейшых у сельсавеце, на 100% адмовілася ад Сталыпінскіх хутароў і аб'ядналася ў комуну „Шлях Саветаў" на плошчы 1700 гэкт. Да комуны далучылася 16 гас-

падарак з в. Вішы і камуна цяпер аб'яднае 74 гаспадаркі. Ужо праведзена землеўпарадкаваньне Комуны, 28 жніўня г/г. у дзень колектывізацыі комунары організована выходзілі на першую баразну. Засеў азіміны зроблены ўжо комунаю. Цяпер комунары будуюць 3 дамы, разьлічаных больш як на 20 сем'яў. У карыстаньні Комуны ёсьць паравы млын. Мяркуецца ў хуткім часе электрыфікацыя Комуны.

Бедната в. Крукавічы ў колькасьці 27 гаспадарак організавала колгас „Зорка Беларусі" на 450 г. плошчы. Ужо праводзіцца землеўпарадкаваньне колгасу.

Такім чынам у сучасны момант землекарыстаньне ў сельсавеце мае наступны малюнак: Комуна 1 у 79 гасп., колгас 1 у 27 гасп., хутарскіх і адрубных—167 і цераспалосных—275.

Застаецца разгледзець сыстэму паляводзтва, якая прымянялася гаспадаркамі да сучаснага моманту.

### Тэхніка палявое гаспадаркі.

Хутарскія гаспадаркі маюць магчымасьць разьмяркоўваць наяўнасьць гною ў гаспадарцы роўнамерна на ўвесь вучастак, зямлі, цераспалосныя-ж—з-за далёказямельля і раскіданасьці кавалкаў зямлі на адлегласьці ад 3 да 7 вёрст прымушаны ўгнойваць толькі бліжэйшыя да сялібы палоскі і высяваць на іх больш каштоўныя культуры—бульбу, пшаніцу, ячмень, авёс і гародніну. Жыта і грэчка звычайна ў цераспалосных гаспадарках высяваецца на аддаленых палосках і заўсёды бяз гною праз 3-4 гады на аблагаваньні зямлі. Высеў лубіну на ўгнаеньне ўжываецца ў нязначнай частцы хутарскіх гаспадарак на лёгкіх пяшчаных глебах. Угнаеньне ўжываецца пераважна толькі ад жывёл, лубін вельмі рэдка, а штучныя ўгнаеньні покуль што зусім адсутнічаюць. Звычайна дастатковае колькасьці гною ад жывёлы гаспадаркі ня маюць, а дзеля гэтага да скарыстаньня яго падыходзяць вельмі экономна. Гной кладуць пад культуры, якія вымагаюць толькі сьвежага ўгнаеньня, як напр.: ячмень, бульба, гародніна, авёс і пшаніца. Звычайна пад жыта гной ня вывозяць. Пад яравыя культуры гной вывозіцца толькі вясною, за тыдзень да сяўбы і звычайна заворваецца і, як асобныя выпадкі, але вельмі рэдка, на нізкіх глебах прысьцілаюць гноем авёс. Пад гародніну гной вывозіцца ўвосень і заворваецца. На 1 дзесяціну кладзецца ў сярэднім ад 1600 да 1800 пуд. гною. Каб атрымаць больш гною, падсьцілаюць хлявы лісьцем ад дрэў, мохам і месцамі торпам.

*Плодазьмен.* Чаргаваньне засеву асобных культур у гаспадарках сельсавету залежыць ад натуральнасьці ў гаспадарцы: засеяць з разьлікам, „каб усё было сваё", адкінуўшы рацыянальнасьць і мэтазгоднасьць большае выгады, ад засеву тэй ці іншай культуры. Адсюль і экстэнсыўны севазварот з ужываньнем менш каштоўных культур і рознастайнасьць апошніх у цераспалосных гаспадарках, асабліва на аддаленых палосках. Бліжэйшыя ад сялібы палоскі займаюцца больш каштоўнымі культурамі і тут можна заўважыць некаторую інтэнсыўнасьць у севазвароце.

У хутарскіх гаспадарках таксама не заўважваецца правільнага севазвароту, хаця-б і трохпольнае сыстэмы. Наогул можна зазначыць пераважнае чаргаваньне культур у такім выглядзе: 1—жыта высяваецца на папары, ячменішчы, аўсянішчы і наогул пасьля яравых, 2—бульба сеецца на жытнішчы пад гной, 3—яравыя на бульбянішчы

бяз гною і часткаю на жытнішчы пад гной, грэчка сеецца на аблогах, проса высяваецца на пяшчаных глебах пад гной, канюшыну і віку сеюць разам з аўсом.

### Апрацоўка глебы, сяўба, догляд і ўборка ўраджаю.

Апрацоўка глебы робіцца аднаконным плугам у бядняцкіх гаспадарках і двухконным у больш моцных гаспадарках. Баранаваньне робіцца драўлянаю бараною з жалезнымі зубамі. Якасьць апрацоўкі досыць нізкая, што трэба аднесьці да нядбайнасьці часткі гаспадароў, якія мала зьвяртаюць увагі на сталую апрацоўку свае зямлі, а робяць гэта „абы з рук збыў“. Аруць глебу няглыбока ад 2 да 3 вярш. усярэднім. Скародзяць пахаць узвору: ўдоўж па аднаму разу, а ўпоперак да 2 раз. Больш старанныя гаспадары ўзворваюць глыбей і скародзяць у сярэднім ад 3-х да 5 сьлядоў. Апрацоўка глебы пад азіміну пачынаецца з пачатку жніўня і цягнецца да паловы верасьня. Уздым папару пад азіміну адкладаецца на канец засеву жыта. На зімовы папар аруць поле, на якім было жыта, або кавалкі, прызначаныя для пасеву бульбы, лёну і іншае ярыны. Пад ярыну пачынаюць араць пасьля 25 сакавіка па ст. ст. (сьвята благавешчаньне), да якога дню лічаць пачатак ворыва немагчымым. Сяўба ўсіх культур праводзіцца ручным спосабам з сявенькі. Звычайна сеюць у такім парадку: авёс, ячмень, пшаніцу, лён, бульбу, проса і грэчкаю заканчваюць сяўбу яравых. Сяўба, як яравых так і азімых, робіцца абавязкова ў два тэрміны: раньні і праз $1^1/_2$—2 тыдні позьні. Робіцца гэта, як кажуць гаспадары, дзеля таго, што калі будзе дрэнны ўраджай раньняга засеву, дык, магчыма, лепшым будзе позьні, або наадварот. У апошнія гады да сяўбы насеньне чысьцяць на трыеры, паводле справаздачы сельсавету ачышчана насеньня ў васеньня-засеўную кампанію 1928/29 г. на 70%, а ў вясеньне-засеўную 1929 г. на ўсе 100%. Сярэдні высеў насеньня на 1 дзесяціну наступны: жыта — 8,7 п., пшаніцы — 9,4 п., аўсу—10,8 п., ячменю—8,8 п., грэчкі—6 п., проса—1,95 п., лёну—6,6 п., вікі без аўсу—10,5 п., канюшыны — 1 п. (па аўсу) і бульбы—120 пуд. Сорт насеньня пераважна мясцовы, але ў апошнія часы пападаецца і гатунковае насеньне, як напрыклад: шацкае жыта, шацілаўскі і залаты дожджык, авёс і лён-даўгунец, здабытыя праз Азарыцкае сельскагаспадарчае т-ва шляхам контрактацыі. З гатункаў бульбы ўжываюцца: скарасьпелка і Вольтман. Догляд за расьлінамі ў часе іх росту ўжываецца толькі для такіх расьлін як: проса, лён, пшаніца, гародніна і бульба; першыя з іх полюцца, а бульба акучваецца да 2 раз, самадзелкавым акучнікам (абганянка). Выпас жывёлы на зімовай руні яшчэ і цяпер практыкуецца. Збор усіх відаў ураджаю робіцца толькі ручным спосабам. Жыта пачынаюць жаць з 17—20 ліпня, ячмень таксама, авёс і пшаніцу з канца ліпня, апошнімі з збожжавых расьлін убіраюць проса і грэчку. Пажатае збожжа расстаўляюць у кучкі па 9 снапоў, а дзесятым накрываюць, або ў копы па 60 снап. і пакідаюць сушыцца на полі, калі яно блізка ад дому, а з адлеглых палос зараз-жа пасьля жніва забіраюць на гумно. Частка гаспадароў мае на гумне азяроды для сушкі снапоў. Бульбу капаюць у верасьні, падсушваюць на полі, а потым звозяць у сьцёбкі (запас на зіму), а рэшту закопваюць у капцы.

Малацьба робіцца цэпам у бяднейшых гаспадарках, а ў больш моцных малатарняю. Лён звычайна не малоцяць, а абіваюць пранікамі

прылада якою пяруць бялізну на рэчцы, праца гэтая выконваецца выключна жанчынамі). Справа мужчын адносна лёну: засеяць і прывезьці, а ўся іншая апрацоўка належыць жанчынам.—Арфуюць пасьля малацьбы лапаткаю з рукі, арфаю—рэдка.

Гародніцтва мае выключна спажывецкі характар. З гародніны разводзяць: капусту, буракі, цыбулю, гуркі, моркаў, кіяхі і часнок. Прадаюць гародніны вельмі мала і рэдка. На асобных градках разводзяць табаку зноў такі для сваіх патрэб.

Садоўніцтва прамысловага кірунку ня мае. Сялянства пачынае разводзіць невялічкія садочкі для сваіх патрэб. З больш буйных садоў трэба адзначыць сад плошчаю да 8 дзес. у былым маёнтку Ворсічы, які знаходзіцца ў карыстаньні садова-гароднага т-ва, організаванага ў бягучым годзе і другі сад плошчаю да 2 дзес. у былым маёнтку Віша, які знаходзіцца цяпер у карыстаньні Вуглоўскае школы. Абодва сады маюць шмат дэкорацыйных дрэў як: ліпа, таполя, дуб, карагана, бэз і інш. Асабліва вялікія дубы растуць у Вішанскім садзе, іх чамусь называюць „крымскімі дубамі“.

*Пчалярства* ў сельсавеце да зьнішчэньня лесу была значна пашырана. Пчолы разводзіліся выключна ў калодных вульлёх. Зьнішчэньне лесу, а потым грамадзянская вайна, бандытызм і окупацыя палякамі давялі пчалярства да поўнага заняпаду. Аднаўленьне пчалярскае справы пачынаецца з 1925 году і ў сучасны момант яно прадстаўлена: 172 сем'ямі пчол у калодных вульлёх і 145 сем'ямі—у рамачных. У в. Шарэпічы ёсьць пчэльнік з 15 рамачных вульлёў гр-на Залескага Пятра, які зьяўляецца аматарам і добрым дасьледчыкам пчалярскае справы. Ён сам робіць рамкавыя вульлі і збывае па 10 руб. штуку вакольнаму насельніцтву. З некаторых вульлёў Залескі выбірае да 3 пудоў мёду. Пчэльнік Залескага зьяўляецца паказальным у Азарыцкім раёне і яго дапамогаю карыстаецца шмат пчаляроў.

## Жывёлагадоўля.

Жывёлагадоўля пасьля земляробства займае ў гаспадарцы сельсавету другое месца. Пашыраны такія віды жывёлы: коні, быдла, сьвіньні і авечкі. Коні і валы зьяўляюцца працоўнаю сілаю ў гаспадарцы. Кароў трымаюць дзеля малака і, можна сказаць, у большай меры для гною. Забясьпечанасьць гаспадарак жывёлаю паводле сталых вестак статыстыкі Азарыцкага РВК на 1 студзеня 1928 году мае такі малюнак—на 100 гасп. прыпадае:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Коняй працоўных | 73 | 7. Нецеляй | 52 |
| 2. Маладняка | 17 | 8. Сьвіней дар. | 172 |
| 3. Жарабят | 4 | 9. Падсьвінкаў | 126 |
| 4. Валоў прац. | 31 пара | 10. Парасят | 157 |
| 5. Быкоў | 20 | 11. Авец | 230 |
| 6. Кароў | 217 | 12. Ягнят | 137 |

Прыведзеныя лічбы гавораць за здавальняючае забесьпячэньне гаспадарак жывёлаю. Рост колькасьці жывёлы з кожным годам павялічваецца, як гэта можна відаць з наступнае табліцы:

| Назва жывёлы | 1926 | 1927 | 1928 | Увага: |
|---|---|---|---|---|
| Коняй . . . . . | 304 | 333 | 377 | Матар'ялы статыстыкі РВК |
| Валоў . . . . . | 445 | 420 | 348 | |
| Кароў . . . . . | 1030 | 1053 | 1197 | |
| Сьвіней . . . . | 804 | 978 | 993 | |
| Авец . . . . . . | — | 2005 | 3106 | |

Зьмяншэньне даюць валы, якія збываюцца гаспадарамі і замяняюцца коньмі.

Коні пераважна мясцовай пароды: дробныя і слабасільныя. З палепшаных парод-мэтысаў ёсьць 3 жарабцы і да 5 кабыл. Мясцовая парода больш падыходзіць для гаспадаркі тым, што яна выносьліва да працы і задавальняецца грубымі кармамі. За канём, як „карміцелем“ гаспадаркі — догляд лепшы, чым за іншаю жывёлаю. Кормяць каня зімою сенам, коласам, абмешаным бульбаю, а ў некаторых і мукою. Авёс даецца толькі пры цяжкіх працах. Вясною і летам на падножным корме, падкорм даецца хіба толькі ў час цяжкай працы. Сталага догляду за маладняком няма.

Быдла прадстаўлена валамі і каровамі свае гадоўлі, зноў такі мясцовай пароды нявысокай якасьці. Рэдка сустракаюцца экзэмпляры палепшанае пароды. Недахоп кармоў з-за дрэннай якасьці сенажаці прымушае гаспадароў трымаць яшчэ валы як працоўную сілу. Лічаць, што пару валоў лягчэй пракарміць, чым каня.

Догляд за скацінаю досыць адсталы — кормяць трушанкаю: саломы 75% і сена 25%, яравую салому ў большасьці даюць бяз сена. Харчы трацяцца неэкономна, кідаюцца ў куток хлява разважаючы: „ня зьесь, дык гной будзе“. Трымаюць у хляве скаціну з паловы кастрычніка і да паловы красавіка, а астатнюю частку году на выпасе.

Хлявы, у якіх трымаецца жывёла, у большасьці халодныя (ня мшаныя), цесныя, цёмныя і гразкія. Ад гэтага шмат церпіць як жывёла, так і гаспадар.

Лішкі жывёлы збываюцца галоўным чынам у м. Азарычы, сельскагаспадарчаму т-ву.

Сьвіньні ў с/с. гадуюцца таксама мясцовай мала-продукцыйнай пароды. Гадоўля сьвіней прызначана выключна для ўласных патрэб гаспадаркі. На продаж ідзе хіба толькі шчаціна. Сярэдняя вага стала адкормленай сьвіньні 6—7 пудоў. Надворных сьвіней узімку кормяць мякінаю, з падмешкаю бульбы, а летам пасуць і даюць пойла з сечанай травы.

Авечкі разводзяцца таксама дробнай пароды і па сваёй продукцыйнасьці далёка не апраўдваюць тых выдаткаў, якія затрачвае гаспадарка. Да рэчы можна зраіць вылічэньне: на зімовы пэрыод авечцы патрэбна мінімум 30 п. сена па 30 кап. у сярэднім=9 руб., пасьба ў летні час 3 руб.—разам 12 руб. Даход: шэрсьці 3 фунты па 1 руб.= 3 руб., а калі прадаць цалкам авечку, дык цана ёй 4—6 руб. Стрыгуць авец 2 разы ў год—вясною і ўвосені.

З птушак кожная гаспадарка мае ад 5 да 10 курэй. Парода курэй простая. Догляд за імі дрэнны. Зімою трымаюць у хаце пад печкаю, кормяць адкідамі,— грэчкі, проса, ячменю і пшаніцы. Летам зусім

ня кормяць. Даход ад аднае курыцы ў год 40—45 яек. Даход ад продажы яек і саміх кур належыць самой гаспадыні. Характэрным зьяўляецца тое, што сялянства само курынага мяса не спажывае, за выключэньнем хіба па рацэпту доктара, а пераважна прадае за 35—40 кап. за штуку, а пеўня за 50—75 кап.

## Сельска-гаспадарчыя прылады.

Раздробленыя, індывідуальныя сялянскія гаспадаркі ня маюць магчымасьці набываць складаныя і дарагія прылады, патрэбныя для сельска-гаспадарчага ўжываньня. Звычайна гаспадар стараецца набыць у першую чаргу тое, чаго ня можа зрабіць саматужным парадкам. Прылады, якія патрэбны для апрацоўкі поля і гароду, гэта: плуг саматужнага вырабу, або „Сухені" аднаконны, драўляная барана з жалезнымі зубамі, драўляны акучнік, граблі, лапата і вілы. Прылады лепшае якасьці: як двухконны плуг, сеялка, касілка, спружыновая барана і драпач месца ў гаспадарках сельсавету яшчэ не знайшлі.

Для малацьбы служыць цэп у пераважнай большасьці гаспадарак. Веюць збожжа драўлянымі лапатамі. Малатарні і арфы ёсьць у вельмі нязначнай колькасьці гаспадарак, зразумела ў больш заможных.

Косы і сярпы купляюць на рынку. Прыладамі для апрацоўкі лёну і канаплі служаць: церніца сваёй работы, трапло, грэбень, прасьніца, ставы, навайка, ніты, чоўнік, сукайла, панажы, берда і цэўкі, з іх толькі берда купляецца на рынку, а ўсе іншыя прылады вырабляюцца саматужным парадкам. Самапрадак сустракаецца вельмі мала.

Транспортны інвэнтар складаецца з калёс на 80% на жалезных восях. На калёсах езьдзяць у горад, у госьці, возяць гной, дровы, сена і іншае. Рэдка якая гаспадарка мае двое калёс. Зімою езьдзяць на санях сваёй работы. Вазкі—сустракаюцца рэдка.

Прамысловы інвэнтар: сякера, піла, долата і сьвярдзёлак, апошнія два не ўва ўсіх гаспадарках, бо іх можна пазычаць. Прадоўжная піла, ровень, стамеска, гэблікі, спуск і лопацен (вялікі сьвердзел) сустракаюцца ў гаспадарках, дзе есьць майстры (цесьляры, бандары).

Вось такімі прыблізна прыладамі ўзброена насельніцтва Крукавіцкага сельсавету для свае працы па скарыстаньню прыродных багацьцяў.

Машынізацыя сельскае гаспадаркі пакуль што прадстаўляе такі малюнак: малатарак 21, саламарэзак 10, акучнікаў фабрычных 30, веялак 10, сартовак 1 і трыер 1.

## Будынкі.

Забудова сялянскіх сяліб досыць featureнастайная, як па форме, так і па колькасьці асобных будынкаў у гаспадарцы. Больш моцныя гаспадаркі маюць: хату з сенцамі, сьцёпку, клець, хлявы, адрыну і гумно. Бяднейшыя абмяжоўваюцца: хатаю, клецьцю, хлявом, а гумно—агульнае з родзічамі. Тыпаў будоўлі двароў два: пагонны ў паселішчах цераспалоснага карыстаньня, дзе з-за цеснаты сялібы прыходзіцца эканоміць месца і вяночныя двары ў хутарскіх гаспадарках.

Пагонны двор разьмяркоўвае асобныя будынкі так: ад вуліцы хата, далей клець, сьцёпка, павець і хлявы. Вяночны—хата ад вуліцы

за ёю сьцёпка, павець, хлеў, далей простастаўна першаму хляву пуня, ад якой раўналегла першаму хляву зноў хлявы і супроць хаты клець.

Хаты па сваёй форме можна падзяліць на два тыпы: дарэволюцыйны і пасьлярэволюцыйны. Тып першы — хата, без фундамэнту, памерам 7×8×4 і крыху меншыя сенцы. Крыта драніцамі; замест крокваў—закот, на якім бяз цьвікоў трымаецца страха. Вокан тры, памерам 16×12 вярш. Падлога дашчаная і гліняная, але апошняя ўжо рэдка. Такі-ж тып пабудовы клеці і хлявоў, розьніца толькі ў тым, што хлявы крыты чаротам і саломаю.

Новы тып хаты: 8×9×4½, на фундамэнце, сенцы памерам 7×8×4½ (без вакон), на кроквах, крыты гонтам або дзёрам. Вакон у хаце 4, памерам 1,5×1 арш., падлога дашчатая. Часамі і сенцы цёплыя і з вокнамі, тады ўжо разглядаецца як два пакоі, або паміж дзьвюма хатамі невялічкія сенцы. Сустракаюцца хаты накшталт гарадзкіх домікаў: 12×13, але іх мала.

Гумна заўсёды будуюцца за дваром на адлегласьці 30 сажняў. Гумно мае дзьве часткі: сушня (восець) і такаўня, з боку да такаўні прыкідаецца трысьцен для захаваньня мякіны і коласу. У сушнях ёсьць печка бяз коміну, а ў некаторых (старога тыпу) печак няма, а дровы паляць у выкапанай яме.

Хлявы нямшаныя, бяз вокан, наогул халодныя. Сьцёпка, прызначаная для захаваньня бульбы і гародніны, звычайна будуецца з вокнамі і курнаю печкаю.

Вокны знадворку ў новых хатах маюць вакяніцы, аздобленыя ўзорамі (пеўнікі, конікі, крыжыкі і інш.).

Адносна будынкаў трэба сказаць, што сярод часткі іх шмат яшчэ старасьвецкага, але ёсьць і будынкі больш новага тыпу, якія ўзьніклі ўжо пасьля рэволюцыі.

Будаўнічы матар'ял: дуб на фундамэнт, у шулы і калодзежны зруб; хвоя на хату, хлявы і гумно, асіна і вольха часамі патрабляецца на халодныя будынкі. Хаты пабудаваныя пасьля рэволюцыі ў большасьці маюць нямецкія вуглы зашаляваныя дошкамі знадворку. Тынкуюць хаты вельмі рэдка.

Абгароджваюць двор пераважна плотам з жардок, або з тонкіх паленцаў; ёсьць двары абгароджаныя і тышнікам. Варот звычайна двое: на вуліцу і гумно. Першыя больш прыгожыя.

### Прамысловасьць і гандаль.

Дзяржаўная прамысловасьць у сельсавеце зусім адсутнічае. З прыватных прамыслова-саматужніцкіх прадпрыемстваў ёсьць наступныя:

| | |
|---|---|
| Паровых млыноў 1 | Ваўначосак 1 |
| Вадзяных „ з сукнавальняю 1 | Крупарушак 10 |
| Ветракоў 6 | Маслабойка 1 |

Саматужнікаў розных профэсій налічваецца 42, якія па роду занятак разьмяркоўваюцца так:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сталяроў | 7 | Бандароў | 6 |
| Пячкуроў | 7 | Кавалёў | 8 |
| Калесьнікаў | 6 | Шаўцоў | 5 |
| | | Краўцоў | 3 |

Пераважная большасьць з саматужнікаў маюць, як асноўны занятак сельскую гаспадарку, а рамёства зьяўляецца дадатковым і займа-

юцца ім у вольны час ад працы па сельскай гаспадарцы, або абменьваюць свой труд.

*Гандаль.* Да рэволюцыі ў амаль кожнай вёсцы была прыватная крама ў карчме, якая абслугоўвала дробныя штодзённыя патрэбы ў фабрыкатах насельніцтва, а больш каштоўныя тавары закупаліся ў м. Азарычах і Каленкавічах. Была ў в. Крукавічах і „манаполька“ для задавальненьня насельніцтва гарэлкаю.

Пасьля рэволюцыі ў 1919 г. у Крукавічах было організавана спажывецкае т-ва, якое праіснавала да раёнаваньня 1924 г., а потым ліквідавана і злучана з Азарыцкім Спажывецкім т-вам. У сучасны момант у сельсавеце няма ніводнае крамы, а ў гандлёвых адносінах, сельсавет абслугоўваецца Азарыцкім Спажывецкім і сельска-гаспадарчым т-вам і часткова Капліцкім аддзяленьнем Каленкавіцкага Спаж. т-ва. Азарыцкае спажывецкае т-ва мяркуе ў хуткім часе організаваць у сельсавеце свае аддзяленьне, што зьяўляецца сваечасовым і вельмі неабходным.

Усяго коопэравана гаспадарак у сельсавеце па лініі спажывецкай коопэрацыі 57% і па лініі сельска-гаспадарчай 35%.

(Канец будзе).

---

**М. С. Старавойтаў.**

# Слабада Давыдаўка, Азарыцкага раёну, Мазырскай акругі.

Слабада Давыдаўка да раёнаваньня 1924 году ўваходзіла ў склад Карповіцкай воласьці Рэчыцкага павету б. Менскай губэрні.

Ад г. Менску слабада Давыдаўка знаходзіцца на адлегласьці 300 км.; ад акруговага г. Мазыра—50 км., ад бліжэйшай чыгуначнай станцыі Астанкавічы, Заходн. чыг.—8 км. і ад бліжэйшай воднай прыстані Шацілкі—20 кілёмэтраў. Праз Слабаду праходзяць два шляхі: Кацярынінскі, які злучае Мазыр, Жлобін, Рагачоў; другі шлях ідзе на Азарычы, Рудобелку, Глуск і Слуцак. З вакольнымі вёскамі Слабада Давыдаўка мае магчымасьць зносіцца па грунтавых дарогах аднолькава ўва ўсе поры году.

Слабада распаложана ў двух кілёмэтрах на левым беразе рэчкі Іпы, якая ўпадае ў Прыпяць. Каля 30 год таму назад лесапрамыслоўцы выпрасталі рэчку Іпу, каб лепей было спляўляць куплены ў памешчыкаў лес, так што Іпа ў некаторых мясцох мае выгляд канавы, на месцы-ж старой рэчкі ўтварыліся як-бы маленькія вазёры. У Іпе яшчэ і цяпер водзяцца куніцы, раней былі і бабры, аб чым сьведчаць некаторыя ўрочышчы пад назваю „Бабровіны“. У ёй водзіцца шмат рыбы: шчупакі, язі, карасі, плотка і г. д. У апошнія гады разьвялося шмат ракаў.

Праз раку Іпу па дарозе з Давыдаўкі ў Азарычы ў 2½ км. ад Давыдаўкі ёсьць два драўляныя масты, з якіх адзін пабудованы ў гэтым годзе. Каля мосту засталіся сьляды гуты, у якой выплаўлялі жалеза з мясцовай руды 1—вадзянога млына з сукнавальнай 1 ступай,

дзе таўклі проса. На працягу каля кілёмэтру на грэблі відны гнілыя слупы плаціны, якую рабілі ў часы прыгону.

Мясцовасьць занятая Слабадою прадстаўляе нізіну Палескага характару. Заходняя частка значна прыпаднята, з узгоркам, на якім знаходзяцца праваслаўныя могілкі, парослыя хваёвым лесам з прымешкаю дуба і рознай пораслі. З гэтага ўзгорку адкрываецца прыгожы від на раку, на прыбярэжныя сенажаці і на чыгунку з станцыяй Астанкавічы. Усходняя частка менш прыпаднятая, пакрытая хваёвым лесам, які цягнецца з поўначы на поўдзень ад Слабады. Тут-жа недалёка знаходзіцца прыватны паравы млын.

Слабада Давыдаўка мае адну галоўную вуліцу, бяз назвы. На вуліцы пяць студняў, з якіх адна бэтонная, пабудованая ў 1928 годзе. Вуліца вельмі шырокая, к заходняму канцу якой прылягае вёска Загор'е. Яна як-бы зьяўляецца працягам Давыдаўкі. К усходняму канцу вуліцы прылягае хутар Сасноўка, які складаецца з трох гаспадарак.

Усяго жылых будынкаў (дамоў) уласна ў слабадзе 107, але акрамя таго ёсьць сем грамадзкіх будынкаў: с.-гасп. коопэрацыі, малочнай арцелі, хаты-чытальні і г. д. Ёсьць і пажарнае дэпо з невялічкай каланчой. Будынак хаты - чытальні прыстасованы з былой сінагогі.

## Гістарычныя весткі аб Слабадзе.

Паводле апавяданьняў старажылаў, 90 год таму назад на месцы цяперашняй Слабады была палянка, абкружаная лесам і на гэтай палянцы стаяла адна карчма, якая існуе і да гэтага часу. У часы Мікалая I яўрэяў бралі ў салдаты, але тых, якія згаджаліся займацца земляробствам, вызвалялі ад вайсковай службы; тыя, хто не хацеў ісьці ў вайсковую службу, прыходзілі ў Слабаду, бралі ў памешчыка ў арэнду замлю і займаліся сельскай гаспадаркай. Уладар гэтай зямлі быў нейкі Корсак, які вельмі любіў граць у карты. Пасьля сьмерці Корсака Слабада Давыдаўка дасталася ў спадчыну палкоўніку Феськіну. Паводле другога апавяданьня Феськін нібы выйграў у карты гэтую зямлю ў Корсака. Потым Феськін свае землі з Слабадою Давыдаўкаю прадаў станавому прыставу Баліцкаму (1400 дзесяцін зямлі і лесу) за 4000 руб. Спачатку жыхары Слабады плацілі падатак па 2 руб. з хаты, а Баліцкаму за паўдзесяціны зямлі 5 руб. з хаты, прычым за гэтую плату жыхары карысталіся сенажацьцю, апалам, а таксама матар'яламі для рэмонту будоўлі. Апошні ўладар Баліцкі ў часы польскай окупацыі быў войтам у б. Крукавіцкай воласьці і з адыходам палякаў уцёк у Польшчу [1]).

Рэволюцыя 1905 году не разгортвалася ў Слабадзе. Часамі наяжджалі прадстаўнікі туды бундаўскай організацыі, але разварушыць яе было вельмі цяжка.

[1]) Больш дакладныя гістарычныя весткі аб слабадзе Давыдаўцы мы знаходзім у „Сборнике материалов об экономическом положении евреев Росии“—т. II таб. 34—СПБ, 1904 г. Паводле гэтых вестак, слабада Давыдаўка заснавана ў 1847 г. 12 яўрэйскімі сямействамі з Быхава і Барысава на арэндаванай зямлі. Яны заарэндавалі 240 дзес. Значная іх частка разьехалася з прычыны страты зямлі.

Пры абсьледваньні Давыдаўкі агрономамі ў 1898-99 г. агульны лік яўрэйскіх сямействаў складаў 30 (168 душ); у іхнім карыстаньні было 57 дзес. Лік зямельных двароў—22. Коняй на сям'ю прыходзілася ў сярэднім 0,2, кароў—1,2; двароў з коньмі—3.

Пры такіх дробных зямельных надзелах Слабада, зразумела, паступова трацiла земляробчы характар.

Г. Аляксандраў.

Слабада перажыла нямецкую і польскую окупацыі. Белапалякі ўчынялі зьдзекі над яўрэйскім насельніцтвом. Слабада Давыдаўка, была абкружана шляхецкімі посёлкамі, адкуль часта выходзілі банды, пад кіраўніцтвам Кісялька і іншых і не давалі спакою слабадзе. Імі забіты 5 челавек. Ахвяры пахаваны на Азарыцкіх яўрэйскіх могілках. У Слабадзе тады была організавана самаабарона, якая шмат дапамагала органам палітбюро і чырвоным атрадам у зьнішчэньні бандытызму. Поўнае заспакаеньне ў Слабадзе настала ў 1922 годзе.

З гістарычных помнікаў старасьветчыны зьвяртаюць на сябе ўвагу старыя могілкі, якія знаходзяцца каля Яўтушкавіцкай царквы. На могілках растуць вялікія дубы і насыпана некалькі курганоў. Курганы маюць вышыню каля паўтара мэтра і ў дыямэтры каля чатырох мэтраў. Старажылы кажуць, што гэтыя курганы засталіся ад часоў Швэдзкай вайны. Тут-жа пры могілках, паводле слоў старажылаў, калісь было вялікае паселішча Яўтушкавічы, цяпер-жа на гэтым месцы засталася адна царква і царкоўныя будынкі, з якіх у адным знаходзіцца двухкомплектавая школа.

### Насельніцтва Слабады.

Слабада населена яўрэямі, якіх налічваецца 100 сямействаў. Ёсьць 8 сямей і беларусоў. Агульны лік насельніцтва—600 чалавек, з іх мужчын—250 чал. і жанчын—350 чал. За апошняе дзесяцігодзьдзе адбыліся наступныя зьмены ў складзе насельніцтва:

| | Выехала з Слабады | Лік сямействаў | Лік душ | Адзіночкі | Прыехала ў Слабаду | Лік сямействаў | Лік душ | Адзіночкі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | На працу ў гарады . | — | — | 27 | Прыехала з гарадоў СССР . . . . | 2 | 13 | 65 |
| 2 | У Палясьціну . . . | — | — | 1 | | | | |
| 3 | У Амэрыку . . . . | 7 | 29 | 6 | | | | |
| 4 | У крым . . . . . | — | — | 2 | | | | |
| 5 | У гарады СССР . . | 49 | 400 | 50 | | | | |
| 6 | У Яўрэйск. колёнію . | 5 | — | — | | | | |

Выезды з слабады тлумачацца ў большасьці экономічнымі прычынамі: недахоп працы для рамесьнікаў, зьнішчэньне прыватнага гандлю і г. д. Частка з выехаўшых накіравалася да сваіх крэўных у Амэрыку. Выехаўшыя ў Крым заняліся земляробствам. Некалькі сямействаў уехала ў організаваную Озэтам колёнію ў б. маёнтак Заходы, Калінкавіцкага раёну.

Дзеля адсутнасьці сталых вестак аб натуральным прыросьце насельніцтва за мінулыя гады няма магчымасьці зрабіць належнае параўнаньне і вывады. Даныя яўрэйскага с.-савету за 1928 год і першую палову 1929 г. паказваюць наступнае: радзілася мужчын і жанчын 22 ч., памерла 5. Шлюбаў адбылося 8, з якіх 6—без рэлігійных цэрамоній, разводаў—1.

## Заняткі насельніцтва.

По роду заняткаў насельніцтва разьмеркавана так:

| Заняткі | Лік асоб | Колькі працуе | Заняткі | Лік асоб | Колькі працуе |
|---|---|---|---|---|---|
| Шаўцоў . . . . | 19 | 17 | Гонтаўшчыкаў . . . | 5 | 3 |
| Краўцоў . . . . | 20 | 6 | Печнікаў . . . | 4 | 2 |
| Сталяроў . . . . | 10 | 6 | Крыльшчыкаў . . . | 3 | 1 |
| Кавалёў . . . . | 5 | 5 | Мельнікаў . . . . | 2 | 1 |
| Загатоўшчыкаў . . . | 1 | 1 | Маюць ваўначоскі . . | 2 | 2 |
| Шапачнікаў . . . | 2 | 2 | „ алейніцы . . . | 2 | — |
| Балаголаў . . . . | 1 | 1 | Выробляюць скуры . . | 2 | — |
| Карабейнікаў . . . | 3 | 1 | Гандляроў . . . . | 4 | — |
| Служачых . . . | 10 | 10 | Бяз сталых заняткаў . . | 8 | — |
| Катляроў . . . . | 2 | 2 | Маюць смалярню . . . | 3 | 3 |
| Земляробаў . . . | 27 | 27 | | | |

З табліцы відаць, што пераважная частка насельніцтва занята саматужнымі промысламі. Працы для ўсіх саматужнікаў у слабадзе не хапае. Некаторая частка саматужнікаў вандруе па вакольных вёсках Азарыцкага і суседніх раёнаў, шукаючы сабе працы. Паводле падліку сельсавету, валавы даход саматужнікаў у год дасягае 20.000 руб. Заможнюю частку насельніцтва складалі гандляры. Асобы бяз сталых заняткаў жывуць на ўтрыманьні сваякоў. Некаторыя з іх атрымліваюць дапамогу з Амэрыкі. Толькі нязначная частка насельніцтва займаецца выключна земляробствам. Самі апрацоўваюць глебу, убіраюць сенажаці і толькі ў час жніва карыстаюцца наёмнай працай. Слабада Давыдаўка мае ў сваім карыстаньні 234 гэктараў пахаці і 184,3 сенажаці. У сярэднім на душу прыходзіцца пахаці на 0,39 гэктара і на 0,37 сенажаці. Гаспадары імкнуцца да большага пасеву бульбы, якую саматужным чынам перарабляюць у крухмал. У апошні час пачалі засяваць і іншыя культуры, як канюшыну, лубін і г. д. Купляюць добрых кароў, малако ад якіх здаюць у малочную арцель, арганізаваную ў 1928 г.

У бюджэце слабаджаніна граюць вялікую ролю і station неземляробскія прыбыткі да якіх належаць: саматужніцтва, ізвоз, адходжыя промыслы і г. д.

Слабада мае наступны жывы і мёртвы інвэнтар:

| Назва рэчаў | Колькасьць | Назва рэчаў | Колькасьць |
|---|---|---|---|
| Коняй. . . . . | 33 шт. | Плугоў . . . . | 25 шт. |
| Кароў дойных . . . | 143 „ | Барон з жалезн. зуб. . . | 20 „ |
| Подцелкаў . . . . | 3 „ | Акучнікаў . . . . | 6 „ |
| Авец . . . . . | 3 „ | Вазоў . . . . | 28 „ |
| Сьвіней . . . . | 10 „ | Крахмалацёрак . . . | 7 „ |

Побач з слабадою працуе яўрэйская сельска-гаспадарчая арцель з шасьці сямействаў, організаваная ў 1922 годзе. Да 1926 году гаспадарка вялася дрэнна з тэй прычыны, што туды ішлі людзі, якія ніколі на сельскай гаспадарцы не працавалі. Цяпер, дзякуючы зьменам, якія адбыліся ў складзе арцелі, яна добра наладжвае гаспадарку. Яна перайшла на шасьціпольны севазварот, засявае розныя культурныя травы.

Арцель мае наступны жывы і мёртвы інвэнтар:

| Назва рэчаў | Кольскасьць | Назва рэчаў | Кольскасьць |
|---|---|---|---|
| Рабочых коняй | 7 | Барон спрунжыновак | 1 |
| Жарабец „поўардэн" | 1 | Драпач | 1 |
| Кароў п. „Немак" | 8 | Сявялка | 1 |
| „ п. „Галандак" | 2 | Жняярка | 1 |
| „ п. „Швіц" | 3 | Малацілак з кон. прыводом | 2 |
| „ мясцовай пароды | 19 | Веялак | 1 |
| Бык вытворац „Швіц" | 1 | Саламарэзак | 1 |
| Сьвіней пароды „Ангельск." | 4 | Жмыхадрабілка | 1 |
| Маладняку | 15 | Абгонак | 2 |
| Плугоў звычайных | 7 | Базоў | 5 |
| „ сыст. „Сакка" | 1 | | |
| Барон „зыгзаг" | 2 | | |
| „ з жалезн. зуб. | 2 | | |

У 1928 годзе організована яшчэ тры беларускія колектывы, з якіх два—на былых памешчыцкіх землях, а трэці—на сялянскай зямлі.

### Коопэрацыя і гандаль.

Да рэволюцыі 1917 году ўвесь гандаль знаходзіўся ў прыватных руках. Лік офіцыйных крам у слабадзе быў 4, ня лічачы тых, якія гандлявалі без патэнту. У 1925 годзе ў слабадзе адчынена аддзяленьне Карпавіцкай спажывецкай коопэрацыі. Аддзяленьне абслугоўвае ня толькі слабаду, але і насельніцтва вакольных вёсак. У 1925/6 годзе організована сельска-гаспадарчае крэдытнае т-ва. У сучасны момант праца спажывецкай, с.-гасп. і малочнай коопэрацыі характарызуецца наступным:

| Віды коопэрацыі | Пайшчыкаў | Паявы капітал | | Сярэдні пай | Лік крам | Зваротны капітал | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Р. | К. | | | Р. | К. | |
| Спажывецкая | 375 | 3500 | — | 12 | 1 | 54711 | — | Пайшч. і паясы капіт. ўзяты на 1 мая 1929 г. |
| С/гасп. т-ва | 532 | 4947 | — | 17 | 2 | 54655 | — | |
| Малочная | 99 | 283 | 81 | 3 | — | 36177 | 55 | З 13/V 1928 г. па 15/V 1928 |

Раён дзейнасьці сельска-гаспадарчай коопэрацыі налічвае чатыры сельсаветы з 18 населенымі пунктамі. Двароў 1600 з насельніцтвам каля 12800 чалавек.

Давыдаўскае с.-гаспадар. т-ва організавалася ў 1925 годзе, дзякуючы настойлівасьці жыхара Давыдаўкі Альшанскага, які шляхам падворнага збору пайшчыкаў організаваў с/г. крэд. т-ва пад назвай „Беларускі Селянін". Нормальна працаваць с/г. т-ва пачало толькі з 18/IV 1926 г. пры 49 пайшчыках з паявым капіталам у 89 руб. На 1-ае кастрычніка 1928 г. у Давыдаўскім с/г. крэдыт. т-ве было пайшчыкаў 426 чал. з паявым капіталам 3370 руб. звароту па снабжэньню — 27636 руб., па збыту—64045 руб., з прыбыткам—1287 руб. Акрамя гэтага ёсьць укладчыкаў 82 чал. на суму 8911 руб. С/г. крэдытн. т-вам організована чарапічная майстэрня, мясная крама, засолачны пункт, пабудованы памяшканьні для крамы ссыпнога пункту і складу, адчынена аддзяленьне ў 13 кілёмэтрах у вёсцы Асташкавічы сярод 3-х вёсак з 700 дварамі. Давыдаўскае с/г. крэдытнае т-ва ідзе ўперад шпаркімі крокамі. Карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод насельніцтва, а таксама мае добрую сувязь з Акрсельсаюзам.

У малочную коопэрацыю здаюць малако ня толькі насельніцтва слабады Давыдаўкі, але і сяляне вакольных вёсак, у якіх коопэрацыяй пастаўлены сепаратары. У гэтым годзе пабудавалі будынак для сыраварні, у якой будуць вырабляць голяндзкія сыры. У хуткім часе пачне працаваць сыраварня. Разьвіцьцё коопэрацыйных організацый дапамагло поўнаму зьнішчэньню прыватнага гандлю: прыватных крам у мінулым годзе было дзьве, а цяпер няма ніводнай.

### Праца сельсавету.

З 1922 году ў слабадзе існуе нацыянальны яўрэйскі сельсавет, які за кароткі тэрмін прарабіў шмат працы. Пры яго ініцыятыве і дапамозе організована яўрэйская с.-гаспад. арцель імя Мясьнікова, малочная коопэрацыя, машыннае т-ва, с.-гасп. крэдытн. т-ва, спажывецкая коопэрацыя, пабудованы будынак для двухкомплектнай школы, пажарная дружына з дзвюма машынамі, землеўпарадкавана 20 сямействаў, працуюць грамадзкія організацыі, як Асаавіяхім, Мопр, Озэт, Чырвоны крыж. Існуе таксама і камітэт узаемадапамогі які яднае 81 двор, мае зваротнага капіталу грашыма—193 руб. 99 кап., жытам—136 пуд. 33 фунт., яравым збожжам—25 пуд. 10 фун. Камітэт дапамагае бяднейшаму насельніцтву слабады. У першай палове 1929 г. выдадзена грашовая дапамога на вопратку бедным вучням.

### Культурна-асьветная праца ў слабадзе.

Да рэволюцыі ў слабадзе ня было ніводнай школы, а тольк было пяць хэдараў з лікам вучняў у сярэднім на кожнага па 10—20 чалавек. Некаторыя вучні наведвалі Яўтушкавіцкую царкоўна-прыходзкую школу. Толькі дзякуючы Кастрычніку ў слабадзе Давыдаўцы адчынена двухкомплектная яўрэйская школа, якая налічвае 91 вуч., з якіх 55 дзяўчынак і 36 хлопчыкаў. Школа мае свой уласны будынак, прыстасованы з былого памешчыцкага дому. Няпісьменных сярод яўрэйскага насельніцтва налічваецца толькі 2%.

У слабадзе ёсьць хата-чытальня з невялічкай сцэнай у былой сінагозе. У хаце-чытальні адбываюцца пасяджэньні і сходы грамадзян і організацый, ставяць спэктаклі і кіно-п'есы.

Паводле даных Давыдаўскага с.-савету слабадзкое насельніцтва і служачыя ўстаноў выпісваюць наступную літаратуру: Октябрь (Яўр.)— 17 экз., Юнгер-арбэйтар—2, Праўда—4, Чырвоная Зьмена—4, Беларускі батрак—7, Беларуская вёска—2, Зьвязда—1, часопісі: Лапоть—1, Крокодил—1, Общество потребителей—1, Кооперативная жизнь—1, Коммерческий бюллетень—1 і інш.

Новы быт у слабадзе відавочна расьце. Моладзь ад сінагогі адхілілася і наведваюць сінагогу пераважна старыя. Уплыў прадстаўнікоў рэлігійнага культу на насельніцтва нязначны. Як адзначана вышэй, з шлюбаў, якія адбыліся ў 1928/9 годзе, шэсьць было бяз удзелу рэлігійных царамоній.

Дабрабыт і санітарнае становішча слабады.

Вуліца ў слабадзе даволі шырокая без тротуараў і нельга сказаць, каб яна была гразкая. Вуліца ноччу не асьветляецца, ёсьць толькі адзін ліхтар каля лаўкі с/г. крэд. т-ва. Дамы ў слабадзе драўляныя, аднапаверхавыя, старыя ў большасьці на драўляным фундаманце, крытыя гонтам, стружкаю і два дамы—бляхаю. У сваёй большасьці дамы складаюцца з двух пакояў і менш усяго тры - чатыры пакоі. Пры некаторых дамох пасаджаны дрэвы і маюцца палісаднікі. Вадою жыхары карыстаюцца з калодзежаў. Маецца адна лазьня, якою карыстаюцца два разы ў месяц. Жыхары слабады на свой кошт трымаюць фэльчара за плату 30 руб. у м-ц, а таксама купляюць на свой кошт і зельле. Фэльчарскім пунктам і зельлем карыстаюцца сяляне акаляючых вёсак за плату па 60 кап. ад душы ў год. Фельчар іншы раз робіць санітарны агляд двароў у слабадзе.

### Грамадзкія організацыі ў слабадзе.

У слабадзе маецца профсаюз працаўнікоў зямлі і лесу, які налічвае 21 сябра—частка служачыя і прымацованыя да іх вучні саматужнікаў. Ячэйка Мопру налічвае—35 сяброў, Асаавіяхім—50 сяброў, якія вядуць культурна-асьветную працу ў слабадзе. Ёсьць ячэйка ОЗЭТ, якая разьмяркоўвае месцы земляробаў, выяжджаючых у Крым, у Яўрэйскую колёнію і г. д., а таксама разьмяркоўвае грашовыя сродкі бяднейшаму насельніцтву і запасную зямлю сярод бязьзямельных яўрэяў. Ячэйка Чырвонага Крыжа організуе санітарныя чыткі і даклады як сярод жыхароў слабады, так і—вакольных вёсак.

---

У. Уладзіміраў.

## Адбудова г. Барысава пасьля апошняй окупацыі.

Горад Барысаў ляжыць на скрыжаваньні значных як стратэгічных, так і гандлёвах шляхоў, а дзеля гэтага ў часы гістарычных падзей на Беларусі быў сьведкай і об'ектам руйнаваньня, боек. Рэчны шлях па Бярэзіне зьвязваў князёў Полацкіх і Кіеўскіх. Барацьба гэтых княстваў адбівалася на жыцьці гораду. Адчуваў на сабе Барысаў і сьлед адносін Масквы і Польшчы. Памятны 1812 год таксама нанёс цяжкія раны Барысаву.

Аднак пэўна ні адзін год, ні адзін гістарычны момант ў жыцьці г. Барысава не палажыў такога адбітку на знадворным выглядзе апошняга, як у часы белапольскай окупацыі. Ад гораду засталася невялічкая частка дамоў. Цэлыя кварталы і нават вуліцы былі разьбіты, спалены. Застаўся ня горад, а вогнішча. Жыхары разьбегліся, а рэштка тых, якія засталіся, зьмяшчалася ў падвалах, або будках, прыбудованых да голых сьцен старых разбураных будынкаў.

У першыя гады пасьля сканчэньня грамадзянскай вайны праца па адбудове гораду была зусім нязначная, калі ня лічыць дробнага



Дом Гарсавету.

рамонту. Толькі з 1923 году пачалася будаўнічая праца. Пытаньнем будаўніцтва заняліся і Камгас, і Жылкоопсаюз, і Дзяржбуд.

У сучасны момант адбудова гораду ідзе па строга вызначаным пляне. Будаўнічая праца праводзіцца як у старым горадзе, так і ў Н.-Барысаве. Будаўніцтва накіравана галоўным чынам у бок задавальненьня насельніцтва кватэрамі, бо кватэрны крызіс быў адным з самых вострых пытаньняў дабрабыту гораду. Асабліва кватэрны крызіс адчуваўся ў Н.-Барысаве, як асяродку фабрычна-заводзкім.

Хоць Н.-Барысаў заснованы гадоў 35—40 таму назад, але па сваёй плошчы і ліку насельнікаў ён апярэдзіў стары горад. Як у асяродку рабочым, у Н.-Барысаве патрэбна стала пабудаваць шэраг будынкаў грамадзкага характару. У Н.-Барысаве таксама на акраінах разьвярнулася прыватнае будаўніцтва, дзякуючы чаму, межы гораду значна пашырыліся ў бок вёсак: Гара, Юшкевічы, а таксама па тракце на Смалявічы.

Прыватнае будаўніцтва падпарадкавана строга пляну Камгасу. Захоўваецца расплянаваньне вуліц, плошчаў, пабудова домікаў паводле пляну зацьверджанага Камгасам.

Праца Камгасу па адбудове гораду пачалася ў форме рэмонту з 1922 году. Некаторыя дамы былі адбудаваны, іншыя грунтоўна адрэмантаваны. З 1923 па 1928 год праароблена наступная адбудова і рамонт.

| №№ п/п | Гады | Назва прац | Кубат. | Каштавала | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 1923 | Пэдтэхнікум рамонт . . . | 4753 кб. м. | 10.000 р. | Некаторыя будынкі вастаноўлены на працягу некалькіх гадоў. |
| | 1924 | — | — | 10.000 р. | |
| 2 | 1925 | Б. дом Цодзіка . . . . . | 1220 к. м. | 77.300 р. | |
| 3 | „ | Биржа працы . . . . . | 524 „ | | |
| 4 | 1924-25 | Буд. Горкому . . . . . | 2124 „ | | |
| 5 | 1926 | 9 школа . . . . . . | 580 „ | 61.529 р. | |
| 6 | „ | Гарамбуляторыя . . . . | 1888 „ | | |
| 7 | „ | Гарсавет . . . . . | 3492 „ | | |
| 8 | „ | 2 і 6 школа . . . . | 4268 „ | | |
| 9 | 1927 | Гарадзкі рабочы клюб . . | 4537 „ | 20.856 р. | |
| 10 | „ | Дом б. Багінскага . . . . | 1217 „ | | |
| 11 | 1928 | Д. б. Мазо . . . . . | 1433 „ | 7521 р. | |

Самай буйнай з гэтых прац зьяўляецца адбудова будынкаў Гарсавету і Гаркому. Будынак Гарсавету — былы будынак земскай управы, двухпавярховы каменны дом, быў зруйнаваны нашчэнт. Цяпер гэта адзін з лепшых дамоў старога гораду. У будынку 2 школы, на каменным першым паверху надбудованы драўляны другі паверх. Для рабочага клюбу пераабсталявана яўрэйская сінагога па вуліцы 3 Інтэрнацыяналу. Дом быў зруйнаваны белапалякамі.

За гады з 1924 па 1928 зроблены наступны рэмонт:

| Гады / Артыкул расходу | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 |
|---|---|---|---|---|---|
| Рамонт . . . | 3.000 кб. м. | 14.700 кб. м. | 4.600 кб. м. | 24.800 кб. м. | 22.000 кб. м. |
| Кошт . . . . | 2311 р. | 1324 р. | 4131 р. | 21525 р. | 13745 р. |

Жыльлёвае будаўніцтва характарызуецца па гадох наступнымі лічбамі:

| Гады | Што пабудавана | Кубат. | Кошт |
|---|---|---|---|
| 1924 | 3 драўляныя дамы . . . . . | 2181 кб. м. | 35.000 р. |
| 1926 | 1 драўл. дом . . . . . . . | 875 кб. м. | 11.141 р. |
| 1927 | 2 драўл. дамы . . . . . . | 2653 кб. м. | 83.342 р. |
| 1928 | 2 каменныя дамы . . . . . . | 5236 кб. м. | 68.179 р. |

Каменныя дамы двухпавярховыя ў Н.-Барысаве па вул. — прашп. Рэволюцыі.

За тэрмін з 1923—1928 г.г. пабудованы пажарнае дэпо на суму 15178 руб., летні тэатр у Н.-Барысаве 2940 руб. Гандлёвае памяшканьне і амбуляторыя пры заводзе Камінтэрн каштавала 10000 руб.

Значная частка насельніцтва дзеля розных прычын будуецца на свае ўласныя сродкі. Камгас адпускае па заявах свабодныя вучасткі і зацьвярджае плян будынку.

За пэрыод ад 1922-23 году да 1927-28 г. адпушчана:

| 1922-23 | | 1923-24 | | 1924-25 | | 1925-26 | | 1926-27 | | 1927-28 | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вуч. | Плошч. | Вуч | Плошч. | Вуч. | Плошч. | Вуч. | Плошч. | Вуч. | Плошч. | Вуч. | Плошч. | |
| 52 | $7^{10}$ | 111 | $15^{15}$ | 173 | $23^{18}$ | 266 | $50^{86}$ | 469 | $81^{03}$ | 170 | $29^{38}$ | Плошча лічыцца ў гэктарах |

На пабудову драўляных дамоў на паказаных вучастках Комгасам заключаны ўмовы ў 1922—26 г. на 32640 куб. мэтраў, у 1927 г. — 75040 куб. м. і ў 1928 г. — 27200 куб. м.

Выдатную ролю ў адбудове Барысава адыгрывае Жылкоопсаюз, які за нязначны тэрмін сваёй працы даў насельніцтву вялікую коль-



Новыя каменныя будынкі для рабочых. (Будаваў Жылкоопсаюз).

касьць новых, добра абсталяваных і прыстасаваных дамоў. Жылкоопсаюз мае 2 аддзяленьні: у Н.-Барысаве — Камунар і ў горадзе — Аб'яднаньне. Сваю працу Жылкоопсаюз пачаў у 1925 годзе. Цяпер, дзякуючы Жылкоопсаюзу, забудованы пустыры, узьнік Рабочы пасёлак.

У Н.-Барысаве праароблена наступнае будаўніцтва:

| Тэрмін прац | Колькасьць дамоў | Колькасьць кватэр | Увага |
|---|---|---|---|
| 1925 | 10 | 36 | Кватэры заселены ў кожны наступны год пасьля закладкі дому. |
| 1926 | 17 | 34 | |
| 1927 | 7 | 18 | |
| 1928 | 5 | 22 | |

Будынкі разьмеркаваны па вуліцах:

| Назва вуліц | Кольк. дамоў | Кватэр у кожным доме | Усяго кват. | |
|---|---|---|---|---|
| Комунальная . . . . | 3 | 6 | 18 | Двухпаврхоьыя |
| „ . . . . . | 10 | 2 | 20 | |
| Ленінская . . . . | 6 | 2 | 12 | |
| Ганчарная . . . . | 5 | 2 | 10 | |
| Паштовая . . . . | 6 | 2 | 12 | |
| Пролетарская . . . | 1 | 2 | 2 | |
| Прашп. Рэволюцыі . . | 2 | 8 | 16 | Каменныя |
| 1 „ „ . . . | 2 | 2 | 4 | |
| м .—Домбаля . . . . | 2 | 2 | 4 | |

Комунальная вул. цалкам складаецца з новых дамоў і зьяўляецца цэнтральнай у Рабочым гарадку, які займае значнаю плошчу.

Аб'яднаньнем у горадзе пабудавана:

| Гады | Назва вуліц | Лік дамоў | Кватэр у доме | Усяго кват. |
|---|---|---|---|---|
| 1925 | 3 Інтэрнацыяналу . . . | 2 | 4+3 | 7 |
| 1926 | Лепельская . . . . | 2 | 2 | 4 |
| 1927 | 3 Інтэрнацыяналу . . . | 2 | 2 | 4 |
| 1929 | „ „ . . . | 1 | 4 | 4 |
| „ | Палынская . . . . | 1 | 4 | 4 |

Сродкі на будову асыгноўваліся дзяржаваю, але будаўніцтва часта ня ўкладвалася ў рамкі асыгнаваньня і дадавала сродкі пайшчыкаў. Выдаткі па гадох можна бачыць з наступнай табліцы, дзе асобна паказаны фактычныя выдаткі і асыгнаваньне:

| Гады | | Асыгнов. | Расход. | | Асыгнов. | Расход. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1925 | Комунар . . . | 80.000 р. | 130.000 р. | „Аб'яднаньне" . | 10.000 р. | 14.000 р. |
| 1926 | „ . . . | 126.000 р. | 60.000 р. | „ . | 7.000 р. | 7.000 р. |
| 1927 | „ . . . | 123.000 р. | 150.000 р. | „ . | 9.000 р. | 11.000 р. |
| 1928 | „ . . . | 84.000 р. | 87.000 р | „ . | — | — |
| 1929 | „ . . . | 78.000 р, | 80.000 р. | „ . | 22.000 р. | 22.000 р. |

Буйныя будыні ў Барысаве пабудованы пераважна Белдзяржбудам. Праца яго распачалася з 1924 году шэрагам буйных рэмонтаў. Так за 1924 год адрэмонтаваны будынкі Упрофбюро — 813 руб., лаўка ЦРК — 26924 руб., дыспансэр — 1882 руб., амбуляторыя — 932 р., консультацыя — 1390 р., дзіцячыя ясьлі — 560 р., казармы — 33965 руб., страхкасы — 110 р., акрвыканкому — 76 р., скатабойні — 7264 р., мясных радоў — 4108 р. і інш. У гэтым-жа годзе ў раёне Рабочага гарадку пабудованы дом для рабочых зав. Бярэзіна на суму 106879 руб.

У 1926 г. Белдзяржбуд вёў працу для жылкоопсаюзу на камісыйных пачатках.

Самай буйнай працай будаўніцтва Белдзяржбуду зьяўляюцца працы 1927 г. У гэтым годзе пабудованы пасёлак Лесбелу ў Н.-Барысаве на суму 103979 руб., больніца на Чычагоўскіх батарэях — 333055 руб., новая фабрыка Чырвоная Бярэзіна — 181350 руб. Гэтыя працы працягнуліся і на 1928 год, на што дадаткова даасыгнавана на больніцу 111244 руб., Чырвоную Бярэзіну — 387049 руб., заложаны



Новая больніца па Чычагоўскіх батарэях.

клюб хэмікаў на 81772 руб., крама ЦРК — 10789 руб., клюб і крама у Рабочым гарадку.

У 1929 годзе павінна быць закончана больніца (сухотны павільён), клюб хэмікаў, Чырвоная Бярэзіна, на што патрэбна 540.000 руб. У Н.-Барысаве на плошчы былога рынку заложаны каменны будынак на 36 кватэр і проектуецца пабудова заводу Камбінату пры заводзе Камінтэрне. Адначасна вядзецца праца па абсталяваньні цагельні № 4.

Для поўнага малюнку прац па паляпшэньні дабрабыту гораду трэба дадаць выпраўленьне і брукаваньне вуліц, грэбляў, аднаўленьне мастоў і масткоў гарадзкіх, упарадкаваньне садоў, паркаў, папаўненьне крыніц вадазабясьпекі. У гэтым напрамку выпраўлена нябрукованых вуліц і грэбляў:

| Гады | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 | |
|---|---|---|---|---|---|
| Аб'ём . . | 5100 кб. м. | 18800 кб. м. | 31700 кб. м. | 36000 кб. м. | |
| Выдаткі . . | 6200 руб. | 32000 руб. | 54620 руб. | 52360 руб. | |

З памянёных прац вялікім дасягненьнем можна лічыць пабудову грэблі праз гарадзкі выган ад вул. 3 Інтэрнацыяналу да перавозу праз р. Бярэзіну. Самы вышэйшы ровень вясновай паводкі Бярэзіны не перашкаджае сухапутнаму руху з Н.-Барысава ў горад і наадварот.

Аднаўлена мастоў і масткоў за 1927 год 30 пагонных мэтраў на суму 2520 руб., у 1928 г. — 46.4 паг. м. на суму 10800 руб. Упарадкавана цэмэнтных плітавых ходнікаў у 1927 г. Сваіх — 335 кв. м. на суму 1500 руб.; у 1928 г. сваіх — 654 кв. м. і прыватных — 3004 кв. м. — разам на суму 16080 руб.

За 1927 год высьвідраваны 2 студні на 60 кватэр і 14 драўляных на 150 кв. — усяго на суму 15400 руб. За 1928 г. высьвідравана 1 студня на 100 кват. і 11 бэтонных на 110 кв. на 10000 руб. У сучасны момант горад мае на гандлёвай плошчы ваданапорную вежу, што для Барысава зьяўляецца значным дасягненьнем.

Акрамя усяго, на гарадзкой плошчы заложаны новы гарадзкі бульвар, а ў Н.-Барысаве значная плошча хваёвага лесу на вул. — прашп. Рэволюцыі абгароджана пад цэнтральны рабочы парк з летнім тэатрам, бібліотэкай, чытальняй і тырам для стральбы паменшаным зарадам. Гэтая праца праароблена ў 1926-27 г. і каштуе 9020 руб.

Для чалавека, які бачыў г. Барысаў у 1920 годзе і адсутнічаў да 1928 г., твар гораду пакажацца незнаёмым. Горад ня толькі пашырыўся ў межах, але выглядае новым. Вырасьлі новыя кварталы, вуліцы, падняліся такія будынкі, якія проста прыдаюць хараство гораду. Варта было-б усякаму экскурсанту паглядзець будынкі: новай запалкавай фабрыкі Чырвоная Бярэзіна, новай электрастанцыі, больніцы на Чычагоўскі батарэях, клюбу хэмікаў у Н.-Барысаве, рабочага гарадка там - жа, дзе ёсьць і свой коопэратыў і рынак і клюб і хутка скончыцца пабудова каменнага двухпавярховага будынку аб'яднаных 7 и 8 школ сямігодак.

---

Л. Балкавец.

# Кароткі нарыс расьліннасьці Банцараўшчыны Менскае акругі.

Банцараўшчына, былы маёнтак, а ў 1922-23 г. г.—саўгас і вопытная Аграномічная Станцыя, знаходзіцца ў адлегласьці 10 клм. ад Менску ў паўночна-заходнім кірунку, налева ад Віленскага гасьцінцу, паміж Менскам і бліжэйшай ст. чыгункі—Ратамкай. Уздоўж мяжы паўднёва-заходняй працякае рака Сьвіслач з прыбярэжнымі сенажацямі; паўночна-заходнія часткі абмежаваны іглістым, мясцамі мяшаным, значна высечаным лесам, а паўночныя і паўночна-ўсходнія амаль цалкам заняты ворывам.

Паверхня вельмі рознастайная, узгорыстая з некалькімі даволі высокімі пунктамі, з больш-менш абшарнымі раўнінамі, сярод якіх часта сустракаюцца балоцістыя нізінкі, густа зарослыя балоцістымі травяністымі расьлінамі, хмызьнякамі і мяшанымі пералескамі. Глеба наогул мае характар пескавата-жвіраваты, трохі сугліністы, месцамі—падзолісты. Расьліннае акрыцьцё вельмі рознастайнае, багатае відамі і прадстаўнікамі розных згуртаваньняў.

Дасьледваньне расьліннасьці праводзілася ў 1922-23 г. г. і захапіла як веснавую так і летнюю і нават васеньнюю флёру. Спрыяючым момантам для абсьледваньня зьявіўся агульны ў тыя гады недахоп (нават адсутнасьць) скаціны ў саўгасе і суседніх вёсках, дзякуючы

чаму можна было наглядаць расьліннасьць не здратаваную скацінай і, не зважаючы на іншыя няспрыяючыя ўмовы, сабраць гэрбары (звыш 500 відаў), які знаходзіцца ў Беларускай Акадэміі [1]).

Сядзіба, дворскі дом пабудаваны на схіле ўзгорку сярод высечанага бору, званага Гай. На вяршынцы гэтага ўзгорку, які крутым схілам падыходзіць да затокі ракі, пабудаваны ў 1923 г. невялічкі дом, супроць фронту старога дому.

Расьліннасьць каля сядзібы дагэтуль захавала адзнакі свайго мінулага згуртаваньня. Так, напр., недалёка ад дому, па краю схілу, які вядзе да рэчкі, знаходзіцца маленькі гаёк з бальзамічнае таполі, елак, хвоі і іншых дрэў, як відаць, вольна ўзросшых і пакінутых пры будоўлі сядзібы для аздобы. У сваім наземным акрыцьці гэты гаёк мае такія расьліны, якія звычайна ніколі не сустракаюцца каля будынкаў, але зьяўляюцца прадстаўнікамі згуртаваньняў лясных-мяшаных. Мы бачым тут капыцень (Asarum europaeum, L.), Adoxa moschatellina L., чубатку звычайную (Corydalis solida Sm.) і інш. ценятрывалыя травы.

Навакол галоўнага дому яшчэ захавалася шмат дрэў і кустоў, пасаджаных для аздобы: прысады кляновыя і таполевыя, кусты белага і лілёвага бэзу, symphoricarpus racemosa Mch., язьмену, дзікай рожы, чорнай бузіны (sambucus nigra L.), некалькі дрэўцаў мадрыны і інш. Невялічкі пляц, заняты фруктовым садам таксама абсаджаны кустамі глогу, рабінай, ліпай, паміж якімі вольна павырасталі маладыя дрэўцы і кусты: вольха, чарэмха, каліна.

У кірунку ўсходня-паўднёвым ад сядзібы цягнуцца ўзгоркі, на якіх высечаны сасновы бор, як кажуць тутэйшыя жыхары, гадоў 10 таму. Не завораныя пад пасевы яны пакрыты расьліннасьцю, якая належыць яшчэ да былога (баравога) згуртаваньня. Паміж вялізных пнёў мы знойдзем брусьніцы, суніцы, сон, браткі лесавыя, лантуш і іншыя лесалюбы, якія цяпер дажываюць свой век і марнеюць, спечаныя сонцам на абголеных узгорках. Сярод гэтых старых жыхароў ужо зьявіліся новыя прыбыльцы як: дзяцеліна (Trifolium pratense, repens), дмухавец, гарошак лугавы, лебяда, зябра, драсен і інш. Некаторыя ўзгоркі зноў зарасьлі маладым сасоньнікам на падсьцілцы ястрабкоў (Hieracium pilosella L.) і разнапнёвых агатак (Antennaria dioica gaertn.).

Лясная частка Банцараўшчыны, як адзначана вышэй, належыць да лясоў іглістых, пераважна сасновых, з прымешкаю елкі ў паўночным кірунку, трохі мяшаных з ліставымі дрэвамі—асінай, вольхай, дзе-ні-дзе бярозай, з падлескам з рабіны, ляшчыны і іншых драбнейшых куставых парод. Паводле гэтага мяняецца і наземная расьліннасьць: травяніста-папарацьцевая (Pteridium aquilinum gleditsz) у папарацьцева-ягаднікавую (чарніцы), або на нізінах, дзе бярэ перавагу елка—расьце дурнічнік, зязюлькін лён (Polytrichum communis). Месцамі перавагу мае чарнічнік, але памалу ўступае зялёнаму гіпнаваму моху, які ў сваю чаргу дзе-ні-дзе пераходзіць ў шэры мох (Cladonia).

Месцамі сасновыя вучасткі (значна прасечаныя), заселены брусьніцамі. На пагарэлішчах масамі ўзьняліся лесавыя браткі (Viola canina L.), скрыпень вузкалісты (Epilobium angustifolium L.). Гэтыя рознахарактарныя невялічкія групы лясных згуртаваньняў часткай пе-

---

[1]) Ужо ўлетку 1923 г. шмат відаў зьнікла пад нагамі кароў і сьвіней.

раходзяць паступова адно ў адно, частка адмежаваны высечанымі і ўзаранымі пад пасевы вучасткамі альбо пералогамі.

Сенажаць (луг) паводле большасьці расьлін належыць да тыпу лугоў забалочаных, пакрытых разнатраўем, зьмешаным з травамі (Gramineae) і значнай часткай асок. Сустракаюцца вучасткі амаль чыста асаковыя. Берагі рэчкі месцамі досыць высокія, у большасьці аднак, нізкія, абросшыя вольхай, лазой, маліньнікам і парэчкамі. Высокія берагі ў Банцараўшчыне знаходзяцца ў трох пунктах: па левым беразе ў самай сядзібе і каля Замчышча, і па правым (блізка Дому адпачынку ў Ждановічах)—„Швайцарская гара“.

Сярод альшаніку (блізка Замчышча) можна сустрэць маленькія кубкаватыя ўзвышкі з карлаватымі сасонкамі і сфагнавай засьцілкай. На граніцы паўднёва-зах.—невялічкае травяністае балотца з імшарніцай, багуном, дурніцамі, падвеем (Eriophorum vaginatum) і журавінамі.

У самым дварэ, побач з гародам—невялічкі ставок, зарослы па берагох вербалозьнікам і чаротам. Разнахарактарнасьць расьліннасьці, вельмі зьвілістая рэчка, раскінутая сіняватай істужкай сярод рознаколернага лугу, высокія, абросшыя лесам узьвышшы, усё гэта робіць закутак Банцараўшчына маляўнічым, прыгожым і заслугоўваючым увагі дасьледчыкаў-геоботанікаў.

Сьпіс усіх відаў расьлін, сабраных у Банцараўшчыне заняў-бы шмат месца, дзеля гэтага я абмяжуюся сьпіскам толькі выдатнейшых сямействаў, найбольш распаўсюджаных на тэрыторыі Банцараўшчыны, якія маюць найбольшы лік прадстаўнікоў: Складанакветныя (Compositae) струкавыя (Seguminosae) і парасонавыя.

## Compositae.

1. Крываўнік звычайны. (Achillea Millefolium L.). Вельмі распаўсюджаны па палёх, лугох, у лесе (летняя).
2. Крываўнік звычайны. Achyrophorus maculatus, Scop. Па лесе, Часта. (летняя).
3. Пупок сабачы. Anthemis Cotula L. На дварэ. Рэдка.
4. „ палявы. „ arvensis L. На паравых палёх вельмі многа.
5. „ фарбоўны. Anthemis tinctoria L. Па канюшыне. Адзіночна—у жыце.
6. Лопух кучаравы. Arctium tomentosum Schrank. Каля будынкаў.
7. „ вялікі. Arctium major L. Каля будынкаў, але радзей за папярэдні.
8. Купальнік звычайны. Arnica montana L. Па вільготным лесе і на ўзгорках.
9. Астра дзікая. Aster Amellus L. Адзіночна на „Швайцарскай Гарэ“.
10. Палын. Artemisia Absinthium L. Усюды, многа.
11. Палын аўстрыйскі. Artemisia austriaca Jack. Адзіночна на шляху.
12. Быльнік палявы. „ campestris L. Па межах, у полі, пад лесам—многа.
13. Чарнобыльнік. „ vulgaris L. Па межах, на дварэ, у садзе, многа.
14. Ваўчкі ніцыя. Bidens cernuus L. Па балоцістых берагох ракі і ручаёў. Часта.
15. Ваўчкі трыдзельныя. Bidens tripartitus L. Пры гародзе каля ставу.
16. Асот палявы (ружовы). Cirsium arvense Scop. У ярыне многа.

17. Асст лянцэтны. Cirsium lanceolatum Scop. Па пустырох, у лесе Часта.
18. Асот агародны. „ oleoraceum Scop. Па лузе каля ручаёў. Мала.
19. „ балотны. „ palustre Scop. Па лузе. Ня дужа многа.
20. Чортапалох кучаравы. Carduus crispus L. Каля будынку—адзіночна.
21. Васілёк сіні. Centaurea Cyanus, L. У жыце і ярыне. Часта.
22. „ лугавы. Centaurea Jacea L. Па лузе—многа.
23. „ вялікакветны. Centaurea scabiosa L. У лесе, па межах. Ня многа.
24. Раманы. Chrysanthemum Leucanthemum L. Часта і многа па межах, па лузе, у лесе.
25. Цыкорыя. Cichirium Intybus L. Адзіночна пры дарозе.
26. Зубнік двухлетні. Crepis biennis L. У гародзе і ў жыце. Зрэдку.
27. „ дахаваты. „ tectorum L. Пяшчанае поле ў жыце і на папары. Часта.
28. Купалка вострая. Erigeron acer. Сухадолы, абмежкі, дарогі, пяскаваты папар. Часта.
29. Купалка канадыйская. Erigeron canadensis L. Моцна распаўсюджана ў Банцараўшчыне на палёх, нават у лесе. У гародзе разрасталася да $1^1/_2$ мэтра ў вышыню.
30. Рэпік канапляны. Eupatorium cannabinum L. Бераг крыніцы. Рэдка.
31. Калматка палявая. Filago arvensis L. На пяшчаных папарах. Часта.
32. Грымотнік пескавы. Gnaphalium arenarium L. Моцна распаўсюджаны на пяскох.
33. Сушніца лесавая. „ silvaticum L. У лесе. Ня часта.
34. Агаткі рознапнёвыя. „ dioicum L. Моцна распаўсюджаны па лесе і палянах.
35. Ястрабок-пасьпешка. Hieracium Auricula, Lam. Лес, паляны. Часта.
36. „ Баўгіна. „ auriculoides Lang-Bauhini. Зрэдка.
37. „ калматы. „ pilosella L. Найбольш распаўсюджаная расьліна ў Банц.—Сустракаецца па лесе, шмат яе ў полі, на папары, па межах і дарогах.
38. Ястрабок лясны. Hieracium silvaticum L. Па лесе часта.
39. „ парасонавы. Hieracium umbellatum L. У лесе, часта. Апроч гэтых відаў Hieracium, у Банцараўшчыне сабрана яшчэ відаў 5.
40. Рудзянец звычайны. Lampsana communis. У тапалёвым гайку, ня многа.
41. Салата муравая. Lactuca muralis, Less. Адзіночна ў Гаі.
42. Лаганец васеньні. Leontodon autumnalis L. Па дарогах, межах і на лузе—часта.
43. Раманак не пахучы. Matricaria inodora L. У канюшыне. Мала.
44. „ усходні. „ discoidea DC. Дужа многа на дварэ, каля дарогі, у полі.
45. Старасьцень. Senecio Jacobea Huds. Па ўзгорках, пад лесам, часта.
46. „ балотны. Senecio paludosus L. Паміж кустоў, на топкіх мясцох каля ракі.
47. Старасьцень веснавы. Senecio vernalis L. Па гарэлым лесе, пасеках, каля будынкаў—многа.
48. Старасьцень звычайны. Senecio vulgaris L. Часта і многа па гарэлым лесе, пасеках, пустырох сьметніках, старых дахах.
49. Сярпок. Serratula. Адзіночна на лужку пры гумнішчы.

50. Сумнік залацісты. Solidago Virga aurea, L. Па лесе, палянах і ўзгорках. Многа.
51. Жоўтасот. Sonchus arvensis L. Па гародах, часамі ў гарэлым лесе.
52. „ „ asper, W. M. Па гародах. Ня многа.
53. „ „ oboraceus L. Па гародах, часта.
54. Піжма звычайная. Tanacetum vulgare L. Пабліз двору, будынкаў на мяжы. Мала.
55. Дмухавец звычайны. Taraxacum officinalis L. Вельмі многа (зарасьлямі) па двары, пры дарогах, на схіле к лугу.
56. Казлабарод лугавы. Tragopogon pratensis L. На пасеках, лужайках пад лесам. Часта.
57. Падбел звычайны. Tussilago Farfara L. У сядзібе на глiністых месцах (у ямах).

## Leguminosae.

1. Пералёт звычайны. Anthyllus vulneraria L. У лесе па ўзгорках Зрэдка.
2. Куравай салодкалісьцевы. Astragalus glycyphyllus L. Па Таі. Часта.
3. „ пескавы. „ arenarius, L. Па пяскох у сасоньніку. Зрэдка.
4. Сачыўка валасістая. Ervum hirsutum, L. У жыце. Зрэдка.
5. Зьвярэц жоўты. Lathyrus luteus, Gren. Паўднёвы схіл каля сядзібы над ракой. Адзіночна.
6. Зьвярэц лугавы. Lathyrus pratensis, L. Луг, паляны, пасекі. Часта.
7. „ лесавы (ружовы). Lathyrus silvester L. Па лесе часта.
8. Рутвіца звычайная. Lotus corniculatus, L. Пасекі, пясковыя пералогі, лес. Часта.
9. Люцэрна хмелявая. Medicago lupulina. У жыце. Зрэдка.
10. Баркун лекавы. Melilotus officinalis, Desr. У гародзе, адзіночна.
11. Зьвярэц чорны. Orobus niger, L. Па схілу ў Гаі і ў лесе зрэдка.
12. „ веснавы. „ vernus L. Па берагу р. у цяністых месцах, на „Швайцарскай Гарэ“.—Рэдка.
13. Дзяцеліна-хмялёк. Trifolium agrarium. Па сенажаці, пасеках, лясных пагарэлішчах, межах—часта.
14. Дзяцеліна ральлёвая. Trifolium arvense, L. Па жыце і папары на пяшчаных палёх.
15. Дзяцеліна швэдзкая. Trifolium hybridum L. Па сенажаці ля млыну—многа, у іншых мясцох—мала.
16. Дзяцеліна сярэдняя. Trifolium medium. Па лесе часта, але ня многа.
17. „ белая „ montanum, L. Па лесе, узгорках мала.
18. „ чырвоная „ pratense, L. Па сенажаці і ў садзе многа.
19. Дзяцеліна белая. Trifolium repens, L. Па дарогах, на дварэ. Многа.
20. „ хмялёк. „ spadiceum, L. На лузе. Зрэдка.
21. Гарошак вузкалісты. Vicia angustifolia, L. У збожжы. Ня многа.
22. „ кашубскі. „ cassubica L. У лесе, адзіночна купкай.
23. „ віка птушыная. Vicia cracca, L. Па збожжы, межах і сенажаці часта.
24. Гарошак віка сеўная. Vicia sativa. Па збожжы адзіночна.
25. „ „ падплотная. Vicia sepium, L. Па садзе, каля платоў. Ня многа.
26. Гарошак лесавы. Vicia silvatica, L. У Гаі, каля сядзібы. Ня многа.
27. „ касматы. „ villosa Roth. У жыце адзіночна.

**Umbelliferae.**

Шнітка. Aegopodium Podagraria L. Луг, па кустох, пад лесам, у садзе—многа і часта.

Сабачча пятрушка. Aethusa Cynapium L. У гародзе, адзіночна. Angelica silvestris L. Луг, па кустох. Мала. Antriscus silvestris L. Кусты, на беразе р. (у цяні). Часта. Archangelica officinalis Hoffm. Бераг р., кусты—па балоцістых месцах—часта.

Кмін. Carum Carvi L. Лужайкі, межы, двор.—Мала. Chaerophyllum aromaticum L. На ўзгорку каля дому, па кустох над ракой. Ня збыт многа. Cnidium venosum, Koch. Па беразе ракі. Зрэдка. Conium maculatum L. Каля дому, у садзе. Многа. Coriandrum sativum L. У гародзе, адзіночна.

Вех. Cicuta virosa L. Па беразе ракі. Мала. Вельмі атрутная трава для скаціны. Heracleum sibiricum L. Луг каля двара. Мала. Laserpitium latifolium L. Узгоркі, па кустох. Мала. Oenanthe aquatica. Па самым беразе і ў раце. Мала. Peucedanum oreoselinum, Mnch. Лес, пасекі, узгоркі. Часта. Peucedanum palustre. Mnch. Нізіны на лугу ў кустох. Часта. Pimpinella saxifraga L. Межы, поляны, лес. Часта.

Рэшта сямействаў у ліку 86, па колькасьці прадстаўнікоў складаюцца гэткім парадкам:

Іскарковыя (Caryophyllaceae) — 28 відаў, з іх вялікае распаўсюджаньне ў лугавых згуртаваньнях мае сьветнік зязюлькавы (Łychnis Flos cuculi, L.), Зоркаўка травяністая (Stellaria graminea, L.), а ў засевах—Сьвінакроп (Spergula arvensis, L.).

Залозьнікавыя (Scrophulariaceae)—27 в., з якіх распаўсюджана Вароніка гаёвая, цьвітучая раньняй вясной, Братаўка лугавая (Melampyrum pratense, L.), якой зарастаюць вялікія плошчы па сасновым лесе, Званец большы (Alectorolophus major Rchb.) і ўвярэднік балотны (Pedicularis palustiis, L.),

Губаткі (Lablatae)—27 в., з іх выдатнейшыя жыхары Банцараўшчыны—Чаборы (Thymus Serpyllum, L.).

Крыжыкавыя (Cruciferae)—25 від. Найбольш распаўсюджаны Буйміна лугавая (Cardamine pratensis, L.) на лугу і Стрэлкі (Capsella Bursa pastoris, Moench). Звычайныя па гародах і ральлі.

Казяльцовыя (Ranunculaceae) 21 в. Пануючыя віды належаць да веснавой флёры. Пралеска (Hepatica triloba Chaix), Курасьлеп гаёвы (Anemona nemorosa, L.), Лотаць балотны (Caltha palustris, L.), Сон (pulsatilla patens, Mill.) і Казялец востры (Ranunculus acer, L.) які расьце ўсюды і цьвіце ад вясны да познай восені.

Рожавыя (Rosaceae) — 18 відаў, найвыдатнейшае месца займае Суніца (Fragaria Vesca, L.).

Травы (Graminea) маюць каля 20 від. у значнай колькасьці разьмешчаны паміж іншай расьліннасьці.

Драсенавыя (Polygonaceae) маюць больш 15 прадстаўнікоў, пераважна належачых да пустазельля.

Агурочнікавыя (Borraginaceae) і Зязюлькавыя (Orchidaceae) выявіліся 10-ю прадстаўнікамі кожнае, пераважна на лугох.

За імі па колькасьці відаў ідуць: Шпарагавыя (Asparagaceae), Caprifoliaceae, Onagraceae, Хвашчовыя (Equisetaceae) Званковыя (Cam-

panulaceae), Rubiaceae, Браткавыя (Violaceae), Гераніявыя (Geraniaceae) Верасавыя (Ericaceae) і Баравіцавыя (Vacciniaceae). Апошнія два сямействы маюць значную вагу ў Банцараўшчыне, бо іх прадстаўнікі як Баравіцы (Vaccinium Vitis idaea, L.), Чарніцы (Vaccinium Myrtillus, L.), Буякі (Vaccinium uliginosum L.) і Верас (Calluna vulgaris Salisb.),—характарызуюць лясныя згуртаваньні, як адзначана вышэй у агульным апісаньні.

Досыць значную колькасьць маюць папараці (6 від.), з якіх першае месца займае вялікая (звычайная) папараць (Pteridium aquilinum kuhn).

Па 3—5 відаў маюць сямействы: Бярозавыя (Betulaceae), Ельніцавыя (Abietaceae), Трыпутнікавыя (Plantaginaceae), Ключыкавыя (Primulaceae), Грушаўнікавыя (Pirolaceae), Лісьнікавыя (Solanaceae), Гарычкавыя (Gentianaceae), Яблычныя (Pomaceae) і Мігдалывыя (Amygdalaceae). Два апошнія віды належаць пераважна да культурных (фруктовых) расьлін.

Па 2 прадстаўнікі маюць сямействы: Вадзяніцы (Nymphaceae), Макавыя (Papaveraceae), Дымніцавыя (Fumariaceae), Ляновыя (Linaceae), Guttiferae, Celastraceae, Crassulaceae, Поўсьніцавыя (Dipsaceae), Малачаі (Euphorbiaceae), Расіцавыя (Droseraceae), Araclae, Камняломнікавыя (Saxifragaceae), Раскавыя (Lemnaceae), Жабнікавыя (Hydrocharitaceae), Вілаковыя (Lycopodiaceae), Шальнікавыя (Alismataceae), Крапіўныя (Urticaceae), Мальвавыя (Malvaceae). Выдатнае месца займае прадстаўнік сям'і Araceae—Аер (Acorus Calamus, L.), захапіўшы вялікія вучасткі берагу ракі.

Наступныя сямействы: Аксамітнікавыя (Amaranthaceae) Лялейныя (Liliaceae), Кляновыя (Aceraceae), Opioglossaceae, Cupressaceae, Касачовыя (Iridaceae), Juncaginaceae, Канаплёвыя (Cannabinaceae), Aristolochiaceae, Лебядовыя (Chenopodlaceae), Павітухавыя (Cuscutacea), Павойныя (Convolvułaceae), Сінюшнікавыя (Polemoniaceae), Oleaceae, Paronichiaceae, Scleranthaceae, Язьмінавыя, Philadelphaceae, Чальчаковыя (Lythraceae), Крушынавыя (Rhamnaceae). Кісьліцавыя (Oxalidaceae), Бальзамінавыя (Balsaminaceae), Крапінцовыя (Polygalaceae), Santalaceae, Colchicaceae, Валяр'янавыя (Valerianaceae), прадстаўлены ў Банцараўшчыне 1 відам (паколькі нам удалося іх выявіць). З іх важнае значэньне мае Валяр'яна (Valeriana officinalis, L.), як расьліна лекавая, якая буйна расьце па вільготных берагох ракі, але лёгка паддаецца культуры на Банцараўскай глебе, як гэта паказалі ўжо малыя вопыты з пасевам і перасадкай яе на пяшчана-жвіраватым узгорку, у садзе. З сям'і Opioglossaceae прадстаўнік—Botrychium lunària, Sw., якая наогул у нас рэдка сустракаецца. Чамярыца Veratrum Lobelianum L., з сям'і Colchicaceae, таксама займае выдатнае месца па колькасьці і па шкадлівасьці, якую яна прыносіць сенажаці, бо на кармешку яна ня годна. Расьліна гэтая наогул атрутная, корань яе ўжываецца ў мэдыцыне і вэтэрэнарыі. З сям'і Najadaceae мы маем толькі аднаго прадстаўніка — Урэчнік плывучы (Potamogeton natans, L.), але гэта дзеля таго, што флёра ракі не магла быць абсьледвана дзеля адсутнасьці прылад, і вадзяная расьліннасьць вельмі слаба прадстаўлена ў сабраным ў Банцараўшчыне гэрбарыі.

---

**В. Самцэвіч.**

# Па Барысаўшчыне.

## Нова-Барысаў.

Яшчэ ў 1925 г. ў Н.-Барысаве відны былі груды цэглы, жалеза, каменьня — жывыя сьведкі „культурных“ учынкаў белапольскай буржуазіі. Цяпер памяткай аб жудасных часох белапольскага панаваньня ў Н.-Барысаве зьяўляюцца акопы на „батарэях“, адкуль артылерыя белапольскай арміі зусім зьнішчыла будынкі цэнтральных кварталаў Барысава, населеных пераважна яўрэямі.

За часы Савецкай улады (пераважна за апошнія шэсьць год) Н.-Барысаў значна вырас, як рабочы цэнтар. Працуюць такія буйныя фабрыкі і заводы, як Чырвоная Бярэзіна — фабрыка запалак, шкляны завод Домбаля, папяровая фабрыка Профінтэрн, 2 лесапільныя заводы і шэраг іншых, больш дробных заводаў. Амаль усе буйныя прадпрыемствы пасьля адыходу белапалякаў стаялі, бо машыны, варштаты і іншае абсталяваньне былі альбо вывезены, альбо папсаваны. Цяпер ня толькі ўсе предпрыемствы працуюць поўным ходам, але будуюцца новыя фабрыкі, абсталёўваюцца машынамі навейшай конструкцыі (Чырвоная Бярэзіна).

Будаўніцтва ў Н.-Барысаве разгортваецца вельмі шпарка. Пабудованы спэцыяльны рабочы гарадок з чыстымі і сьветлымі кватэрамі для рабочых, растуць адзін за адным каменныя будынкі — памяшканьні для рабочых, больніца, клюбы, коопэрацыйныя крамы, будуюцца сямігадовая школа. Мосьцяцца вуліцы, пракладаюцца тротуары. Да пачатку наступнага году будзе пабудавана моцная электрастанцыя, якая будзе абслугоўваць усе прамысловыя прадпрыемствы Барысава і Н.-Барысава і асьвятляць самыя глухія вуліцы і куткі гораду.

Н.-Барысаў расьце, як прамысловы і культурны цэнтар. З кожным годам павялічваецца лік насельніцтва. Горад разрастаецца ў напрамку на поўдзень і ўсход. Засяляюцца ўсе выспачкі сярод балота (у кірунку на ўсход) каля фабрыкі Профінтэрн і заводу Комінтэрн, расьцярэбліваюцца хмызьнякі. Пяшчаныя прасторы, якія раней ляжалі бяз усякага ўжытку (на поўдзень ад Нова-Барысава), цяпер забудованы; вуліцы растуць адна за аднэй. На вялікі жаль, у горадзе мала садоў; вуліцы не абсаджаны дрэвамі [1]). Але калі ў цэнтральнай частцы і ў раёне фабрык і заводаў будуюцца каменныя двухпавярховыя дзяржаўныя, камунальныя і коопэрацыйныя дамы для рабочых і будынкі пад культурныя ўстановы, дык тут мы бачым зусім іншы малюнак: дамы ўсе драўляныя аднапавярховыя — адны прасторныя, чыстыя і сьветлыя, другія сярод іх — маленькія, цесныя. Сустракаюцца домікі надзвычайна маленькія, прыблізна 4 м.×4 м., каля якіх няма яшчэ „ні кала, ні двара“. Гэта гарадзкая бедната або высяленцы з вёскі будуюць сабе часовыя прытулкі.

Да рэволюцыі ў Н.-Барысаве была толькі вышэйшая пачатковая ды царкоўна-прыходзкая школа. Цяпер ёсьць ужо рабфак (з 1928 г.), 5 сямігадовых школ (1 чыгуначная), 2 чатырохкамплектавыя, школа для рабочай моладзі, цэнтральны рабочы клюб і інш. Досыць значная

[1]) Дрэвы, якімі ў 1925 г. ў дзень лесу былі высаджаны вуліцы (Комсамольскай і іншымі організацыямі), зусім зьнішчаны па недагляду Комгасу.

культурна-асьветная і палітасьветная праца праводзіцца сярод рабочых у клюбах паасобных прамысловых прадпрыемстваў. Цяперашнія рабочыя ў Н.-Барысаве значна вырасьлі ў параўнаньні з мінулымі гадамі: сталі больш політычна сьвядомымі, больш пісьменнымі, дысцыплінаванымі ў працы.

### Ад Н.-Барысава да в. Гара.

З Н.-Барысава да вёскі Гара каля 5 клм. Дарога, па выхадзе з Н.-Барысава, перасякае чыгунку (Барысаў—Менск) і ідзе лесам у паўднёва-ўсходнім кірунку. Мясцовасьць хвалістая, з паніжэньнямі да ракі Бярэзіны і ў бок р. Плісы. Невялічкія ўзгоркі чаргуюцца з травянымі балотамі і балотцамі. На супескавай глебе расьце хваёвы лес: на ўзвышаных мясцох—хвоя з дамешкаю елкі, бярозы, зрэдка вольха, на больш нізкіх мясцох пераважае елка, хвоя становіцца драбнейшая, часьцей сустракаецца вольха, ракітнік. Лес на сухіх мясцох высякаецца, разворваецца. Зьлева ад дарогі відаць нядаўна высечаная дзялянка; частка ўзарана і засеяна. Пабудаваны 2 новыя хаты.

Перад самай вёскай Гара палі (сялян вёскі Юшкевічы) засеяны ярыной: ячменем, ільном, аўсом, бульбай. Сыстэма ральніцтва, як і ў іншых вёсках — трохпалёвая. Ільны досыць добрыя; жанчыны полюць іх, як і ва ўсіх бліжэйшых вёсках.

### Вёска Гара.

Вёска Гара распаложана на р. *Плісе,* якая прыблізна ў 2 клм. ад вёскі ўцякае ў Бярэзіну; паўночна-заходнюю частку вёскі праразае рукаў р. Плісы[1]). Берагі Плісы парасьлі ракітнікам, лазняком і вольхай. На ўсход ад вёскі па р. Плісе і Бярэзіне ляжыць шырокая пойма. Сяляне в. Гара і Юшкевічы сумесна крыстаюцца лугам (які знаходзіцца ў запасным зямельным фондзе), і кожны год, паводле слоў мясцовага настаўніка і некаторых сялян, сварацца пры дзяльбе.

У вёсцы 82 двары. Хаты крыты саломай „пад лапату“, гонтамі і дзе-ні-дзе дзёрам. Надворныя будынкі — хлявы, клеці, гумны — пераважна крыты саломай. На р. Плісе ёсьць млын, які належыць да саўгасу Палялюм. Мост каля млыну вельмі стары, папсаваны; патрабуе рамонту. Вёска серадняцка-бядняцкая, але ёсьць адзін гаспадар (Лютарэвіч, былы аб‘ежчык), у якога налічваецца каля 40 гэкт. зямлі (ворнай і сенажаці), апрацоўвае сваімі сіламі. Бедната настайвае на абрэзцы некаторай часткі зямлі, якая нібы ня ўлічана на продналогавым сьпісе. Цікава адзначыць, што ў вёсцы, ня гледзячы на забарону, стыхійна адбывалася драбленьне маламоцных гаспадарак „явачным“ парадкам. Падзяліўшыся, бацька з сынам або брат з братамі гады

[1]) Адносна яго утварэньня старыя сяляне расказваюць наступнае: за 20—25 г. да рэволюцыі мясцовыя памешчыкі Каладзееў (жыў у Барысаве) і Сьвіда (у Глівіне) пасварыліся, гуляючы ў карты. Каладзееў і рашыў адамсьціць свайму ворагу — зьмяніць цячэньне ракі і спыніць млын на Плісе, які належаў Сьвідзе і даваў яму вялікі прыбытак. Дзясяткі рабочых штодзень цэлае лета рылі канаву ўздоўж мяжы, што аддзяляла зямлю Каладзеева ад сялянскіх, і ўрэшце на працяжнасьці прыблізна каля 3 клм. канава была прарыта. Вада пайшла па канаве, размываючы берагі і паглыбаючы яе дно. Млын Сьвіды перастаў працаваць нормальна. Пачаўся суд паміж панамі. Урэшце Каладзееў мусіў закапаць канаву, але зрабіць гэта было ўжо немагчыма: вада вясной кожны год размывала зноў канаву. Цяпер на месцы ранейшай канавы — шырокі і глыбокі рукаў з чыстай вадой, якой карыстаецца каля 30% насельніцтва вёскі.

два-тры плацяць продналог разам, нібы з аднае гаспадаркі, а потым заяўляюць у райвыканком аб факце падзелу гаспадаркі. Гэта тлумачыцца да пэўнай ступені тым, што вёска прыгарадная, і многія гаспадаркі ў значнай меры маюць прыбытак ад заработкаў у горадзе (падзённая сэзонная праца на чыгунцы, возка і г. д.), што, паводле думкі некаторых, у поўнай меры пакуль што зьмягчае вострасьць зямельнага пытаньня. Прыгародным полажэньнем вёскі тлумачыцца і такое зьявішча, што ва ўсіх гаспадароў вёскі часамі зусім малазямельных, — якія маюць па 1,5 гэкт., а то і зусім безьзямельных — ёсьць коні і часта зусім няма сельска-гаспадарчага інвэнтару. Для малазямельных сялян коні патрэбны для заработкаў у горадзе, як цягавая сіла.

Прыняты сялянамі агромінімум у гэтым годзе — ачыстка насеньня, забарона пасьбы скаціны на сенажацях вясной і ўвосень па азімых пасевах, скасаваньне меж — выкананы часткова: ачышчана насеньне ў пераважнай большасьць сялян[1]), зроблены крокі да спыненьня пасьбы скаціны на сенажацях, але межы сярод вузенькіх шнуроў засталіся яшчэ некранутымі.

Машыны ў сельскай гаспадарцы пашыраны яшчэ вельмі слаба. У паасобных больш заможных гаспадароў ёсьць 2 малатарні, 3 веялкі, сячкарні. Колектыўнае набыцьцё машын не практыкавалася; аб гэтым яшчэ толькі ставіцца пытаньне.

Коопэрацыяй насельніцтва ахоплена на 60⁰/₀: часткай Глівінскім, а пераважна прыгарадным (Барысаўскім) спажывецкім таварыствам. У апошнім пераважна састаіць бядняцкая частка. Прыгараднае таварыства ў гэтым годзе значна дапамагло беднаце выдачай хлеба. Сельска-гаспадарчая коопэрацыя налічвае ня больш 30⁰/₀ агульнага ліку ўсіх гаспадарак, ахопленых коопэрацыяй. На сходах (на адным з якіх і мне прышлося быць) сяляне ставяць пытаньне аб аб'яднаньні спажывецкай і сельска-гаспадарчай коопэрацыі, мотывуючы свае прапановы тым, што селяніну цяжка быць сябрам ва ўсіх коопэрацыйных організацыях, а ня будучы сябрам тае ці іншае коопэрацыі, нельга атрымаць тых ці іншых продуктаў,авараў, крэдыту і інш.

Калі я быў у вёсцы (5-6/VIII), настаўнік т. Іскрыцкі падведаміў мяне, што вечарам у школе будзе сход а пятай гадзіне. Я рашыў пабыць на сходзе. Замест пяці гадзін сяляне ледзь сабраліся а восьмай. Прышлі дарослыя мужчыны, 7 жанчын, 2 падлеткі. Настаўнік, пакуль пачаўся сход, стаў чытаць сялянам газэту „Сав. Беларусь". Пасьля пачаўся сход.

Пастаўлены для абгаварэньня пытаньні: 1) аб чыстцы партыі і савецкага апарату, 2) аб міжнародным дні коопэрацыі, 3) аб падзеле сенажаці (з зямельнага фонду). Даклад аб чыстцы партыі і савапарату, зроблены досыць „высокім штылем", выхвачанымі з газэты сказамі, ня зусім высьвятліў сялянам важнасьць і сур'ёзнасьць задачы чысткі. Выказаўся толькі вясковы актыў: 2 партыйцы, настаўнік, 1 беспартыйны. З месц чутны былі такія рэплікі, як „Зарасла канава, трэба пачысьціць" (мэтафорычны сказ) і інш. Вялікай важнасьці пытаньне ў належнай меры не захапіла сходу, бо мясцовыя задачы і практыка ня былі зьвязаны з задачамі агульнага соцыялістычнага будаўніцтва.

---

[1]) Усяго, паводле вестак сельсавету, ачышчана: аўсу—120 пуд., ячменю — 50 пуд. пшаніцы — 20 пуд., лёну — 10 пуд.

Значэньне коопэрацыі сялянамі ўсьвядомлена, але яшчэ досыць вузка і эгоістычна; спажывецкая коопэрацыя бліжэй, чым вытворчая.

Неспадзявана-дзіўна вырашана пытаньне аб сенажацях зямельнага фонду, якімі сяляне вёскі Гара і Юшкевічы карысталіся супольна: касілі разам і потым дзялілі сена, праўда, часамі з скандаламі. У гэтым годзе сельсавет, паводле слоў дакладчыка (т. Сацукевіча), рашыў усю плошчу сенажаці падзяліць паміж гаспадарамі, „каб кожны ведаў свой кавалак і даглядаў яго“. Так і пастанавілі. Як гэта рашэньне сельсавету, прынятае сходам, адпавядае задачам колектывізацыі і коопэраваньня працы!?

У канцы сходу ў мэтах папулярызацыі выгады буйное гаспадаркі настаўнік прапанаваў у бліжэйшы дзень адпачынку організаваць экскурсію ў саўгас Палялюм (клм. за 20 у Забашаўскім сельсавеце).

У больш высокіх ураджаях у саўгасе ніхто не сумняваўся, але сяляне больш высокую ўраджайнасьць саўгасу ставяць толькі ў залежнасьць ад дапамогі дзяржавы і непасрэдна ня бачаць выгаднасьці самае буйное гаспадаркі.

— „Ім далі вагоны ўгнаеньня“... „Ім прывезьлі вагоны добрае жывёлы“... і г. д. Такія і падобныя заўвагі чутны былі, калі сяляне разыходзіліся са сходу. Экскурсія ў саўгас, бязумоўна, зьмяніла-б многае ў поглядах сялян[1]).

З культурна-асьветных установ у вёсцы ёсьць толькі двухкомплектная школа. Моладзь, калі бывае добрае надвор'е, наведвае кіно ў Н.-Барысаве. Асабліва зацікавіла пастаноўка „Песьня вясны“, бо ў гэтым кіно-фільме паказаны мясцовыя віды, засьняты знаёмыя тыпы. У вёсцы ўжо ёсьць дзьве радыёўстаноўкі (у асеўшага тут немца і агронома).

### Гара—Глівін.

Дарога ідзе спачатку праз невялічкі сасновы гай, праз сялянскае поле, падзеленае межамі на вузенькія палоскі, засеенае аўсом, ячменем, бульбай, ільном, потым ідзе лес на працяжнасьці каля 3-х клм. і зноў поле в. Глівін. Дарога пяшчаная, досыць спраўная. Мясцовасьць слаба-хвалістая, з паніжэньнем к даліне р. Бярэзіны. На ўзвышаных мясцох усюды пануе сасна (Pinus silvestris L.) у больш нізкіх мясцох больш дамешваецца елка (Pinus picea L.), бяроза (Betula Tourn), радзей асіна (Populus tremula L.), вольха (Alnus L.), дуб (Quercus), ракітнік (Salix L.). У падросьце відаць елка, бяроза, зрэдка, асіна. У нізкіх мясцох пануе елка (Pinus picea L.). Сасна вырубаецца дзялянкамі выбарачным спосабам; відны пні высечаных дзялянак. У вызначаных для высечкі дзялянках у сасонках зроблена падсечка для дабываньня смалы. Бліжэй да Глівіна глеба (з перагнойным пластом каля 17-18 см. таўшчыні) становіцца больш суглінкавая, і тут пераважае елка, часьцей сустракаецца папараць (Fulices).

Пры самай дарозе з правага боку ў лесе, каля ранейшага балотца (калісьці, — магчыма, азярца), цяпер нізіны знаходзіцца група курганоў пахавальнага тыпу—магільнікі (7 штук)[2]).

[1]) Я потым даведаўся ад загадчыка саўгасу, што ў саўгас рабіліся экскурсіі з вучнямі бліжэйшых школ, а організаваныя экскурсіі з сялянамі не праводзіліся. На іх трэба зьвярнуць належную ўвагу ў працы хат-чытален, сельска-гаспадарчых гурткоў, вясковых комсамольскіх ячэек і інш.

[2]) Прыблізна ў 2,5 клм. ад в. Гара.

Глівінскае поле (таксама як і поле сялян в. Гара) падзелена на тры зьмены. У яравой зьмене бачым такія культуры: авёс, ячмень, бульбу, лён, зрэдка грэчку. Кармовыя травы і лубін сустракаюцца вельмі рэдка. Уся яравая зьмена жаўцее ад сьвірэпіцы (Barbara R. Br.), ня гледзячы на ачыстку насеньня. Сяляне кажуць, што пазбавіцца ад сьвірэпіцы (сьвірэпкі) не магчыма нават пры добрай чыстцы. Раньнія ячмені калосяцца, „высыпалі", сярэднія—„у пучкох"; грэчка і бульба позьняга севу толькі ўсходзяць (6—VIII). Глеба апрацавана ў большасьці дрэнна, дзярністая. Зяблевая воранка, відаць, не практыкуецца, і глеба не пасьпявае перапрэць да часу сяўбы. Зварачвае ўвагу вялікая колькасьць аблог, кінутых незавораных палёў. Шмат зямлі ляжыць яшчэ нявыкарыстанай пад зарасьнікамі, нізкія і балоцістыя месцы яшчэ не асушаны, хаця пачатак ужо ёсьць — перад самым Глівінам пракопана вялікая канава на балоцістай сенажаці і даведзена да р. Бярэзіны. Пры самай вёсцы балота патрохі асушаецца. На асушаных кавалках расьце добрая капуста, каноплі, буракі.

У самай вёсцы на ўзгорку, справа ад дарогі, за будынкамі, сельсавету — група курганоў — могільнікаў (даўняга паходжаньня) каля 20 штук.

## Вёска Глівін[1]).

Вёска Глівін ляжыць у паўднёва-паўднёва-ўсходнім кірунку ад г. Барысава па дарозе Барысаў — м. Бярэзіна (Менск. акр.) пры рацэ Бярэзіне; ад раённага цэнтру (Барысава) — каля 14 клм. У вёсцы цяпер налічваецца 162 двары. У другой палове XVII стагодзьдзя вёска Глівін належала да Агінскіх, а з 1683 г. перайшла ва ўладаньне менскіх езуітаў. Калі езуіцкія організацыі на Беларусі былі зачынены, Глівін пераходзіць ва ўладаньне Сьвідаў[2]).

Двор Сьвіды знаходзіўся да рэволюцыі ў канцы вёскі; у часе вайны быў спалены, а землі і сенажаці падзелены паміж бяднейшай часткай сялян (пасьля ліквідацыі саўгасу). Глівін — вёска досыць бедная, выцягненая ў адну вуліцу кілёмэтры на 2,5. Будынкі старыя, хаты, крытыя саломай, гонтам, з малымі вокнамі, паўяжджалі ў зямлю. Вуліца гразная, нават летам пасьля дажджоў нельга праехаць. Малазямельле, цераспалосіца, нізкія ўраджаі прымушаюць бяднейшую частку сялян высяляцца ў Сібір, шукаць адходных заработкаў. У справах сельсавету ёсьць шмат працоўных дагавораў на здачу ў арэнду зямлі сялянамі, што едуць у Сібір. У вёсцы праведзена землеўпарадкаваньне.

З агрыкультурных мерапрыемстваў вёскі трэба адзначыць пасеў ачышчаным насеньнем. У вясеньнюю пасяўную кампанію ў вёсцы ачышчана ўсяго 98,3 цэнтн. насеньня: аўсу—66,5 цэнтн., ячменю—22 цэнтн., пшаніцы—6,6, цэнтн., лёну—3,2 цэнтн. Новыя культуры (караньплоды, кармовыя травы, лубін) пашыраюцца яшчэ вельмі слаба, але ўсё-такі спробы ёсьць.

У вёсцы нядаўна пабудаваны новыя будынкі для сельсавету і спажывецкай коопэрацыі. Пазнаёміцца з працай коопэратыву ня ўдалася, бо члены заняты, а на дзьвярах коопэратыву была вывешана „аб'ява", што коопэратыў „по случаю рэвізіі" будзе зачынены да 8/VII. У сельсавеце даведаўся, што насельніцтва ахоплена коопэрацыяй на 60% (пераважна спажывецкай).

[1]) *Глівін* — па трох вёрснай карце; *Глівен* альбо *Селівік* — паводле Słownika (polskiego) Geograficznego, 1882. t. III, st. 74.

[2]) Słownik Geograficzny (polski), t. III, st. 74.

Побач з сельсаветам — Спортпляцоўка і прылады да прызыўнага пункту.

. Захацеў я даведацца ў сельсавеце аб клясавым складзе насельніцтва в. Глівін, аб забясьпечанасьці с/г інвэнтаром і інш. і атрымаў адказ сакратара. „У нас гэткіх вестак няма. Іх, магчыма, знойдзеце ў ячэйцы КПБ(б).“. На сьцяне канцэлярыі сельсавету вісяць дыяграмы. „Ну“, думаю: „у дыяграмах знайду што-небудзь аб мясцовай гаспадарцы, аб складзе насельніцтва, пісьменнасьці, ці што падобнае“. І памыліўся. Лёзунгі і дыяграмы прысьвечаны падняцьцю ўраджайнасьці і складзены літоўска-беларускай школай хут. Краснае. У дыяграмах можна знайсьці даныя аб ураджаях у Заходняй Эўропе, заклікі да радковага пасеву і г. д. і ніякіх лічбаў аб мясцовых ураджаях, лічбаў, якія-б з якога-небудзь боку характарызавалі гаспадарку ці культурную працу свайго раёну ці сельсавету. У іншых сельсаветах і школах прыблізна тое-ж самае (рэдка лепш). І выходзіць, што ні сельсавет, ні школа, ні хата-чытальня ня вывучае сваёй вёскі, свайго сельсавету, раёну. Як-жа тут плянава весьці гаспадарку, як можна гаварыць з насельніцтвам зразумелымі для яго фактамі і лічбамі! Цікавыя весткі аб гісторыі вёскі, аб мамонтах клясавага змаганьня і г. д. можна атрымаць ад старога селяніна, ад настаўніка, калі ён хоць трохі цікавіцца жыцьцём свайго раёну, але ўсё гэта захоўваецца ў галовах некалькіх людзей, на якіх не заўсёды натрапіш, якія могуць пераехаць у іншае месца, памерці, забыць, перабалытаць факты, але ні пры сельсавеце, ні пры школах, ні пры хатах-чытальнях не вядзецца запісаў, не захоўваюцца якія-небудзь матар'ялы, якія-б маглі сказаць аб мінулым і сучасным жыцьці вёскі, сельсавету, растлумачыць асаблівасьці яе быту, гаспадаркі[1]).

У вёсцы ёсьць партыйная і комсамольская ячэйкі, школа (двухкамплектавая), „тэатр“—будынак для пастаноўкі спэктакляў і сходаў (ранейшая школа), акруговы пладовы гадавальнік. Мясцовая моладзь часамі ставіць спэктаклі; праводзяцца гутаркі і даклады, зьвязаныя пераважна з рознымі кампаніямі. Ёсьць ячэйка Мопру, чырвонага крыжу і гурткі—палітычны, сельска-гаспадарчы, але праца як грамадзкіх організацый, так і гуртоў ідзе слаба: масы ня ўцягнуты. Рэлігійнасьць сярод насельніцтва, паводле слоў мясцовага насельніцтва, за апошнія гады зусім пала: царква пустуе, шлюбы ў вёсцы пераважна адбываюцца без папа.

## Акруговы пладовы гадавальнік.

Плодовы гадавальнік знаходзіцца ў канцы вёскі (у кірунку на Забашавічы) у былым маёнтку памешчыка Сьвіды. Пасьля рэволюцыі тут быў організаваны саўгас, які існаваў да 1925 г. і ў гэтым-жа годзе быў паложаны пачатак організацыі гадавальніка, асноўнай задачай якога зьяўляецца вырашчваньне пладовых саджанцаў: дрэў, ягадных кустоў, гароднага насеньня. Апрача таго, гадавальнік ставіць сабе і мэты паказу вядзеньня правільнага садоўніцтва, гародніцтва, часткова пчалярства (пабочная галіна гаспадаркі).

Агульная плошча гадавальніка—111,31 гэкт., з якіх 7,71 гэкт, няўдобіцы (пад вуліцай 0,99 гэкт., пад вадой—5,99 гэкт. і пад балотам

[1]) Я лічу, што апісаньне гаспадарчага і культурнага разьвіцьця свае вёскі ў гістарычным разрэзе павінна складацца і быць *абавязкова* ў кожнай школе і хаце-чытальні гэткае-ж апісаньне сельсавету — у сельсавеце, раённым краязнаўчым т-ве.

0,73 гэкт.). Удобная плошча 103,60 гэкт. разьмяркоўваецца наступным чынам: [1])

| | | | |
|---|---|---|---|
| Пад сядзібай— . . | 4,92 | гэкт. | |
| „ гадавальнікам . | 30,76 | „ | (разам з полем) |
| „ сенажацьцю . . | 41,89 | „ | |
| „ лесам . . . . | 26,03 | „ | |
| Разам . | 103,60 | гэкт. | |

Лес часткай ужо распрацоўваецца пад палявыя культуры (увосень засеяна жыта).

Асноўнымі галінамі гаспадаркі гадавальніка [2]), як культурна-гаспадарчай установы, зьяўляюцца самы гадавальнік (саджанцы) і жывёлагадоўля.

Пад саджанцамі яблынь і ігруш (ад аднаго да трох год) знаходзіцца 7 гэкт., пад гародамі—3 гэкт., пад занятым полем—7 гэкт. і пад садам—1,5 гэкт. У гадавальніку вырашчваюцца наступныя сарты яблынь: Антонаўка, Бабушкіна, Штрэфлін і ігруш: бесьсямянка, сапяжанка, вінёўка. У мінулым годзе гадавальнікам выпушчана 12000 саджанцаў [3]) па нарадах Акруговага Зямельнага Аддзелу для савецкіх і колектыўных гаспадарак і для групавых садоў; для сялян вакольных вёсак адпушчана 600 саджанцаў. Апрача таго, гадавальнік прадаваў парэчкі, трускаўкі, маліны і насеньне гародніны: сталовых буракоў (эгіпецкіх), морквы (карацель), капусты (Браўншвэйская), гуркоў.

Чыстага прыбытку ў мінулым годзе атрымана 1500 руб., а ў гэтым годзе мяркуецца атрымаць 2500 руб. [4]). Моцныя маразы ў мінулую зіму папсавалі шмат саджанцаў, якія ў гэтым годзе ня могуць быць выпушчаны з гадавальніка.

Апрача чыста практычных мэт—вырашчваньня саджанцаў і насеньня гародніны выпрабаваных сартоў,—гадавальнік іншых мэт (напр., дасьледваньня ў садоўніцтве ці гародніцтве) у пляне сваёй дзейнасьці ня мае, хаця, як мне здаецца, элемэнты некаторай дасьледчай працы павінны мець месца ва ўсякай культурнай, а тым больш паказальнай гаспадарцы.

Жывёлагадоўля зьяўляецца аднэй з асноўных галін гаспадаркі гадавальніка, у якім у сучасны момант налічваецца 20 кароў (чырвонай нямецкай пароды), 3 шт. маладняка і адзін бык—вытворац, 3 рабочыя коні і адзін вытворац, 2 кныры ангельскай пароды.

Малако штодня збываецца ў Н.-Барысаве ў Цэнтр. Рабочы Копэратыў па 16 кап. за літар.

Пчол ёсьць 15 рамачных вульлёў. Пчолы разводзяцца галоўным чынам у мэтах найлепшага апладненьня пладовых дрэў, кустарнікаў і гародніны. Прымаючы пад увагу пэўную прыбыткоўнасьць пчалярства ў сельскай гаспадарцы, непашыранасьць пчалярнае справы ў раёне дзейнасьці гадавальніка, слабую зацікаўленасьць і несьвядомасьць мясцовага насельніцтва ў пчалярскай справе, трэба прызнаць неабход-

---

[1]) Паводле вестак загадчыка гадавальніка т. Быліча.

[2]) Існуе на самаразрахунку.

[3]) Адпускная цана аднаго саджанца першага сорту—1 руб., другога—90 кап.; у гэтым годзе мяркуецца: 90 кап., 80 кап. і 65 кап.

[4]) Асноўны капітал гадавальніка 42000 руб., зваротны 26000 руб, штомесячныя выдаткі—каля 1000 руб.

насьць пэўнай паказальнасьці ў вядзеньні пчалярства і папулярызацыі гэтага заняцьця сярод насельніцтва бліжэйшых вёсак.

Грамадзкая праца гадавальніка і дапамога вакольнаму насельніцтву выяўляецца ў наступным: у гэтым годзе гадавальнік шмат дапамагаў бядняцкім гаспадаркам у апрацоўцы зямлі (5 рабочых konскіх дзён), дапамагаў сельска-гаспадарчым інвэнтаром[1]) (сеялкай, баронамі, акучнікам); раздадзена бясплатна 3000 шт. саджанцаў капусты, памідораў. Вытворцы гадавальніка пакрылі 42 сялянскія каровы (бясплатна 5), кабыл—8 (2 бясплатна), сьвіней—11.

Апрача таго, сялянам даюцца розныя парады ў пытаньнях жывёлагадоўлі і гародніцтва.

У сувязі з палепшаньнем гаспадарчага становішча і росту гадавальніка і некаторым пашырэньнем яго працы сярод насельніцтва зьмяніліся і адносіны сялян да гадавальніка. Калі раней вельмі часта падымалася пытаньне аб ліквідацыі гаспадаркі спачатку саўгасу, а потым і гадавальніка, дык цяпер такія пытаньні ўжо ня ставяцца.

У пэрспэктыве гадавальнік мае пашырыць плошчу для вырашчваньня пладовых дрэў да 22,5 гэкт., пад ягадныя кусты—да 5 гэкт., пад дэкарацыйныя дрэвы (ясень, клён і інш.)—да 1,5 гэкт., распачаць вырашчваньне лазы для збыту ў Менск (для пляценьня кошыкаў)[2]). У бліжэйшыя гады мяркуецца штогод выпускаць каля 60000 саджанцаў яблынь і ігруш, ягадных кустоў да 30000 штук, дэкарацыйных дрэў—1000 шт., трускавак (расьлін)—10000 шт., лазы—8000 клгр.

Хаця і ў нязначнай меры, але ўплыў гадавальніка ўжо выяўляецца ў спробах палепшанага вядзеньня гародніцтва, пасадкі капусты, гуркоў, буракоў (мясцовая школа і некаторыя гаспадаркі ў в. Глівіне); у арганізацыі невялічкіх гадавальнікаў (пры школе ў Глівіне), садоў і інш. Жанчыны, працуючы сэзонна ў гародзе, пераймаюць спосабы апрацоўкі зямлі пад гародніну, дагляду за гароднінай і паступова пачынаюць гэтыя спосабы пераносіць у свае гаспадаркі. Было-б вельмі добра, калі-б гэтым жанчынам (у сярэднім працуе штодзень каля 20 жанчын) у часе працы[3]) даваліся і належныя папулярна-навуковыя тлумачэньні аб найлепшых спосабах апрацоўкі і ўгнаеньня глебы, пасадкі насеньня і г. д.—гэта было-б практычнай школай ці курсамі па гародніцтву. Гэтага пакуль што няма.

Наогул, трэба павялічыць і паглыбіць працу гадавальніка сярод мясцовага насельніцтва, зьвярнуўшы ўвагу на пашырэньне і палепшаньне гародніцтва і садоўніцтва ў сельсавеце (арганізаваць груповыя сады), арганізацыю пчалярскае справы (якая ў с/с зусім ня разьвіта. Арганізацыя і належная пастаноўка гэтых галін гаспадаркі прынесьлі-б значны прыбытак у сялянскай гаспадарцы.

На разьвіцьцё зернавой гаспадаркі і жывёлагадоўлі павінна быць зьвернута ўвага сельсавету і райвыканкому.

### Ад Глівіна да Забашавіч.

З Глівіна да в. Забашавічы 15 клм. Дарога праз х. Персьцень—Забашаўку ідзе ў кірунку на поўдзень па пяшчанай хвалістай мясцовасьці; невялікія ўзгоркі чаргуюцца з нізінамі; перад в. Забашавічы—

---

[1]) Больш даваўся напракат (12 дзён).

[2]) Для гэтай мэты намечана ў плошча ў 1,5 гэкт.

[3]) У пачатку ці ў канцы дня ў залежнасьці ад умоў.

досыць вялікае травяное балота. Тып лясоў той-жа, што і раней: на ўзгорыстых мясцох сасна з дамешкаю елкі, бярозы, на нізінах—пераважае елка з дамешкай дубу, асіны; бяроза сустракаецца радзей; на балотах дробны сасняк. Лясы, відаць, мясцовага значэньня, між в. Глівін і Персьцень выгаралі.

Па дарозе сустракаюцца сяляне. Старыя ў лапцёх, у зрэбных белых портках, белых кужэльных (а часамі і зрэбных) сарочках, падпярэзаных саматканымі альбо куплёнымі паясамі; шапкі куплёныя. У маладых часьцей сустракаюцца боты, на плячох „пінджакі“ або чорныя, фабрычнага вырабу рубахі. Гэта будзённая вопратка. Жанчыны і дзяўчаты ў большасьці ўлетку ў будныя дні бываюць босымі як дома, так і ў полі. На галовах куплёныя хусткі: у маладых „пад бараду“, у старых „каля галавы“; маладыя жанчыны завязваюць парознаму. Спадніцы і ў будныя дні бываюць па большай часьці крамныя, радзей саматканыя, у паджылых жанчын—наадварот, кофты відаць толькі куплёныя, фабрычнага вырабу. Фабрыка з кожным годам выціскае прасьніцу і самапралку.

Садоў у сялянскіх гаспадарках прыдарожных вёсак (за рэдкімі выключэньямі) няма; рэдка-рэдка можна ўбачыць 2-3 вішні або яблыні, але ўжо там-сям відаць новыя пасадкі маладых садоў.

Па дарозе сустрэлася толькі ў двух мясцох 4 калодачных вульлі. Паводле слоў мясцовых сялян, пчалярства зусім не пашырана ў сельсавеце.

Затое, напр., у в. Забашэўка і Забашавічы можна бачыць у гародах некаторых сялян цэлыя грады трускавак. Гаспадыні штотыдзень адносяць—ці адвозяць ягады ў Барысаў і выручаюць да 10 руб. Праўда, збыт яшчэ не наладжаны належным чынам, што затрудняе пашырэньне справы. У аднаго селяніна ў в. Забашэўка засаджана каля $^1/_3$ гэкт. хмелем, але куды збыць ураджай, ён ня ведае. Коопэрацыя ня прыймае, і ад мінулага году ўраджай застаўся нерэалізаваным.

Наогул пытаньне рэалізацыі ўраджаю гародніны, ягад і г. д. затрудняе наданьне адпаведным галінам гаспадаркі прамысловага характару.

Прыкра кідаецца ў вочы вялікая колькасьць аблог і незасеяных палос, асабліва каля в. Забашэўкі. Мясцовыя сяляне гэтае зьявішча тлумачаць тым, што пры малаўраджайнай пяшчанай глебе і немагчымасьці належным чынам яе ўгноіць, няма сэнсу гнацца за павялічэньнем пахатнай плошчы, бо ўраджаі не акупляюць часамі затраты рабочага часу і сродкаў. На пытаньне: „чаму ня сееце лубін для ўгнаеньня?“—прышлося пачуць адказ, што „лубін на пустой пяшчанай глебе ня хоча расьці“, і што „каб вырас лубін, дык трэба сеяць яго ўжо на ўгноенай зямлі“. На паасобных палосах відаць, аднак, досыць добрыя ўраджаі жыта і ярыны. Відаць, што пры належным сыстэматычным угнаеньні глеба ўсё-ж можа быць досыць урадлівай.

(Канец будзе).

# Анкеты, програмы і інструкцыі.

## Да ўсіх краязнаўчых організацый БССР.

### Інструкцыйны ліст.

Праца краязнаўчых організацый БССР у бягучым акадэмічным годзе павінна праходзіць пад знакам усеагульнага ўздыму ў справе індустрыялізацыі краіны, колектывізацыі сельскае гаспадаркі і соцыялістычнага спаборніцтва. Яшчэ больш актыўна краязнаўчая чыннасьць мясцовых організацый павінна быць накіравана на рэальную конкрэтную дапамогу мясцоваму соцыялістычнаму краябудаўніцтву: на дасьледваньне вытворчых сіл мясцовасьці, на вывучэньне прыродна-эканамічных умоў, спрыяючых рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, на вывучэньне мясцовых культурна-бытавых зьяў у мэтах паглыбленьня культурнай рэволюцыі сярод працоўных мас.

Магутным сродкам уздыму краязнаўчага руху на мясцох павінна зьявіцца соцыялістычнае спаборніцтва паміж асобнымі краязнаўчымі організацыямі, якое праводзіцца ў такім кірунку:

а) разгортваньне краязнаўчай сеткі да наяўнасьці 4-5 сельсавецкіх гурткоў, пры прадпрыемствах, пры школах (7-мігодках, сялянскай моладзі і іншых);

б) уцягненьне ў краязнаўчую справу большага проценту рабочых з вытворчасьці, бядняцка-серадняцкага сялянства, рабочай моладзі шляхам популярызацыі сярод іх актуальных пытаньняў краязнаўства і вызначэньня ім пэўных пасільных заданьняў;

в) выкананьне ўсімі краязнаўчымі організацыямі пэўнай тэмы, якой, па думцы ЦБК, павінна зьявіцца—дасьледваньне і апісаньне колгаснага руху ў раёне;

г) наладжваньне дакладнай сыстэматычнай працы па раней вызначаных краязнаўчых пытаньнях;

д) наладжваньне пэўнай сувязі і контакту ў краязнаўчых справах з мясцовымі савецкімі і грамадзкімі ўстановамі і організацыямі; наладжваньне сталай нясупыннай сувязі з вышэй і ніжэй стаячымі краязнаўчымі організацыямі і навуковымі інстытуцыямі;

е) наладжваньне строгай плянавасьці ў працы і організацыя сталага сыстэматычнага падліку сваёй дзейнасьці;

ж) абавязковая рэалізацыя краязнаўчай працы ў выглядзе выданьня часопісу, зборнікаў, апісаньняў, організацыя краязнаўчага музэю, кутка, збораў розных колекцый і інш.

На падставе вышэйпаданага, у дапасаваньні да мясцовых умоў і магчымасьцяй, кожнай краязнаўчай організацыі патрэбна скласьці або перагледзець конкрэтны плян працы на бягучы год.

У якасьці прыкладу можна раіць плян працы, ужо распрацаваны і прыняты некаторымі раённымі таварыствамі на 1929/30 ак. г., які да гэтага дадаецца.

## I. Організацыйная праца.

1. Перарэгістрацыя сяброў таварыства.
2. Склікань не раённай краязнаўчай конфэрэнцыі.

Увага. На конфэрэнцыі, разьлічанай на 1 дзень, можна паставіць, прыкладна, наступныя пытаньні: 1) чарговыя задачы краязнаўства; 2) Колгасны рух у раёне (папярэдняе паведамленьне раённага агронома) і як паставіць вывучэньне яго; 3) Пытаньні вытворчага зьместу на падставе праведзеных досьледаў, напрыклад: карысныя выкапні нашага раёну, адходныя заробкі насяленьня нашага раёну, санітарны стан нашае вёскі і іншыя; 4) Аб чым піша „Наш Край“ і што новага ў краязнаўчай літаратуры; 5) Аб 1-ай Усебеларускай выстаўцы сельскай гаспадаркі і прамысловасьці ў Менску; 6) Аб соцыялістычным спаборніцтве з іншымі раён. т-вамі краязнаўства.

3. Наладжваньне сталай сувязі з Акруговым Таварыствам Краязнаўства і ЦБК (праз допісы, камандыроўкі на конфэрэнцыі і інш.) і з мясцовымі краязнаўчымі гурткамі—сельсавецкімі, школьнымі, узмацніўшы іх працу (дасылка матар'ялаў, інструктаваньне, заслухоўваньне дакладаў).

4. Наладжваньне сувязі з мясцовымі добраахвотнымі грамадзкімі організацыямі: Асаавіяхім (вывучэньне грамадзянскай вайны на тэрыторыі раёну, адшуканьне і адзнака магілак барацьбітоў-рэволюцыянэраў), бязбожнікаў (вывучэньне зьяўленьня і пашырэньня сэктанства, рэлігійнасьць, забабонасьць і знахарства ў раёне, рэлігійныя сьвяткаваньні і злачынствы ў сувязі з імі), аўтадор (стан шляхоў зносін у раёне, зімовыя дарогі і інш.), саюз паляўнічых (нагляданьні над зьявамі ў жыцьці дзікіх жывёл, птушак), азэт (пераход яўрэяў на земляробства ў раёне) і іншыя орг.

Увага: Сувязь гэтая наладжваецца праз узаемны абмен прадстаўнікамі, праз сумесную распрацоўку пытаньняў і інш.

5. Наладжваньне ўвесну і ўлетку краязнаўчых экскурсій-вандровак па сваіх і сумежных раёнах (вызначыўшы пэўную мэту і маршруты, напр.: па колгасах нашага раёну, уздоўж рэчкі і г. д.); наладжваньне экскурсій на 1-ую Ўсебеларускую выстаўку сельскай гаспадаркі і прамысловасьці ў г. Менску.

6. Выпіска і распаўсюджваньне часопісу „Наш Край“ і папаўненьне бібліотэкі раённага т-ва краязнаўчай літаратурай.

7. Завесьці сталы падлік дзейнасьці т-ва (дзеньнік працы).

8. Паставіць даклад аб дзейнасьці т-ва ў РВК і ў РК КП(б)Б.

9. Выклікаць на соцыялістычнае спаборніцтва адпаведнае раённае т-ва.

Увага: Проект дагавору аб спаборніцтве дадаецца да гэтага ліста. Проект дапасоўваецца да мясцовых конкрэтных умоў.

## II. Папулярызацыйная праца.

1. Выступіць з конкрэтнымі краязнаўчымі дакладамі і гутаркамі на сходах рабочых, сялян, жанчын-дэлегатак, на комсамольскім сходзе і інш. масавых сходах, падбіраючы адпаведныя конкрэтныя мясцовыя пытаньні, як напрыклад: 1) колгасны рух у раёне і яго дасягненьні; 2) прамысловасьць раёну і яе пэрспэктывы; 3) карысныя выкапні нашага раёну (камні, вапнякі, гліны, пяскі нашага раёну і як іх адшукаць і скарыстаць); 4) забабоны, лекі і шэпты нашай мясцовасьці, адкуль яны паходзяць і да чаго даводзяць; 5) на якія хваробы і чаму хварэе наша вёска; 6) як адбіваецца праца (або новы быт) у песьнях нашага раёну; 7) партызаны нашага раёну; 8) бандытызм у нашым раёне і як ён зьнішчаны; 9) як гадуюцца і выхоўваюцца у вёсцы сялянскія дзеці; 10) прыметы пагоды і каляндар прыроды ў нашай мясцовасьці (нагляданьні за рознымі зьявамі ў прыродзе ў нашым раёне); 11) што хаваюць у сабе курганы; 12) што рыхтуе 1-я Ўсебеларуская выстаўка сельскай гаспадаркі і прамысловасьці і інш.

Увага: *Выбар тэмы* залежыць ад мясцовых запатрабаваньняў ад наяўнасьці належных конкрэтна дасьледваных і сабраных матар'ялаў, ад наяўнасьці належных спэцыялістых-краязнаўцаў і адпаведнай літаратуры.

2. На агульным асьветніцкім сходзе або конфэрэнцыі выступіць з дакладамі або паведамленьнямі, напрыклад: 1) які іменна мясцовы матар'ял трэба ўнесьці ў комплексы I, II, асабліва III году навучаньня; 2) якія даныя аб колгасах нашага раёну трэба ўключыць у праграму навучаньня школ наш. раёну; 3) Як наладзіць куток краязнаўства пры школе і хаце-чытальні.

## III. Дасьледчая праца.

1. Дасьледваць і апісаць тыповыя колгасы раёну (паводле адзінага пляну, які пры гэтым дадаецца); гэтую працу магчыма вызначыць паасобным сельсавецкім гурткам, або гурткам пры 7-мігодках. Пажадана выбраць для дасьледваньня колгас, організаваны на зямлі дзяржаўнага фонду — б. панскай, колгас—на надзельнай сялянскай зямлі, нацыянальны колгас—яўрэйскі, латыскі.

2. Дасьледваць і апісаць колгасны рух у раёне паводле далучанага проекту пляну.

3. Сабраць і апрацаваць, даўшы належныя заўвагі, статыстычныя весткі (у дынаміцы за некалькі год) аб раёне ў дапамогу правядзеньня ў школах комплексу „Наш раён".

4. Вывучыць і апісаць прамысловасьць раёну.

5. Апісаць свой раённы цэнтр—горад або мястэчка (паводле пляну, зьмешчанага ў № 2 „Наш. Кр." за 1928 г.).

Увага: П. п. 3, 4 і 5 павінны служыць пачаткам для агульнага апісаньня свайго раёну, калі такое яшчэ не пачата. Агульны плян апісаньня далучаецца.

6. Пачаць дасьледваньне рэволюцыйнага руху ў раёне (паводле артыкулу ў № 10 „Наш. Краю" за 1929 г.).

7. Наладзіць сталыя фэнолёгічныя нагляданьні ў 2-3 пунктах і сыстэматычную (бяз спыненьняў) дасылку нагляданьняў у Акруг. т-ва, або ў ЦБК.

8. Працягваць збор фольклёру, слоўнікавы матар'ял, асаблівасьці мовы і інш., паводле ранейшага пляну працы і праграм.

9. Групаваць усе краязнаўчыя матар'ялы ў краязнаўчым кутку або музэі (сыстэматызуючы сабранае і складаючы на кожную рэч належныя пашпарты).

Увага. У мэтах рацыянальнага скарыстаньня ўсіх сяброў таварыства пажадана кожнага прымацаваць да пэўнай конкрэтнай працы, вызначыць сябром пэўныя тэмы і заданьні на пэўны тэрмін. Кожную выкананую працу абавязкова рэалізаваць у выглядзе вуснага дакладу на пасяджэньні, на сходзе, у віде апісаньня, зьмяшчэньня ў мясцовым часопісу або ў агульным друку (газэты, часопісы „Наш Край“, „Шляхі колектывізацыі“ і інш.). Накіроўваючы працу або слоўныя матар'ялы для друку ці ў навуковую ўстанову, абавязкова пакінуць у таварыстве адбітак.

ЦБК упэўнена, што ўсе краязнаўчыя організацыі разгорнуць максымум энэргіі, выявяць максымальную ініцыятыву, каб выканаць тыя задачы, якія пастаўлены перад імі Комуністычнай партыяй і рабочай клясай у перажываемы вялікі і адказны момант рэконструкцыі народнае гаспадаркі на социялістычнай аснове. Сваёй актыўнай чыннасьцю краязнаўчыя організацыі павінны апраўдаць свае прызначэньне— быць дапаможнікамі і ўдзельнікамі социялістычнага будаўніцтва.

Старшыня ЦБК *А. Казак.*

Ч. в. аб. навуковага Сакратара *С. Жураўскі.*

12 лістапада 1929 г.
г. Менск.

---

**Прыклад.**

## ПЛЯН

**агульнага дасьледваньня і апісаньня раёну (сельсавету).**

| Чарга | Назва разьдзелаў і паасобных пытаньняў | Крыніцы і мэтоды дасьледваньня | Ілюстр. матар'ялы | Лік старон. | Адзнакі і заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|
| | I. Прырода. | | | | |
| 1 | Месцапалажэньне, плошча, рэльеф, абвадненьне. | Весткі з РВК. | Карта. | | |
| 2 | Клімат. Глебы. Расьліннасьць. Фаўна. Каляндар пагоды і прыроды. | Земчастка. Лясьніцтва. | Карты. Фотограф. | 10 | |
| 3 | Насяленьне: падзел нацыян., соц. | Статыстык. | Табліцы, дыяграмы. | 10 | У дынаміцы. |
| | II. Гаспадарка. | | | | |
| 4 | Сельская гаспадарка: земляробства, жывёлагадоўля, пчалярства, гародніцтва, садоўніцтва і інш. | Земчастка, райстатыстык. | Табліцы, дыяграмы. | 10 | Высьветліць і апісаць. |
| 5 | Лясная гаспадарка. . . . | Лясьніцтва | Табліцы, пляны. | 2 | У дынамічн. разрэзе за некалькі год. |

| Чарга | Назва разьдзелаў і паасобных пытаньняў | Крыніцы і мэтоды дасьледваньня | Ілюстр. матар'ялы | Лік старон | Адзнакі і заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|
| 6 | Колектывізацыя с. г.; саўгасы і колгасы, с.-г. т-вы. | РВК і саўг. к/г. | Фотозд. | 10 | |
| 7 | С.-гаспадарчая коопэрацыя. . . | РВК і с.-г. кооп. | Табл., дыягр. | 3 | |
| 8 | Прамысловасьць: саматужная, заводы, майстэрні, млыны, адх. промыслы. | РВК фінчастка | Табл., фотоздым. | 5 | (10—12) коратка этапы разьвіцьця і росту |
| 9 | Спажывецк. коопэрацыя і гандаль | Мясц. кооп. т-ва | „ | 2 | |
| 10 | Транспорт. . . . . . | РВК | „ | 1 | |
| 11 | Бюджэт раёну (у дынаміцы). . . | РВК | Табліцы | 2 | |
| | | | | 25 | |
| | III. Культура і быт. | | | | |
| 12 | Адміністрацыйныя, савецкія і грамадзкія ўстановы раёну: РВК, С/С., РККПБ, ЛКСМ, Кам. Сял. Узаем. і інш. | Весткі з РВК і інш. установ | — | 3 | Функцыі. дзейнасьць. |
| 13 | Культурны стан р.: школы, пісьменнасьць, газэты, кіно, радыё і інш. | Інсп. асьветы, 7-ка і інш. | Табліцы | 3 | Параўнаўча з дарэв. час. і за папяр. г. |
| 14 | Санітарны стан і мэддапамога. . | Больн., вэт. пункт | „ | 2 | |
| 15 | Быт: будова, адзеньне, звычаі, рэлігія, рысы новага быту; мова. | Дасьледваньні праз старажылаў | Зарысоўкі, фотоздым. | 5 | Тыповае |
| 16 | Галоўныя насельныя пункты . . | РВК | — | 2 | |
| 17 | Мінулае. Гісторыя рэвол. руху. Соцыялістычнае будаўніцтва. | РК КПБ, ЛКСМ, архівы, успаміны | Фотоздым. | 10 | |
| | | | | 25 | |
| | Усяго . | — | — | 60 | |

Проект.

# Плян краязнаўчага папярэдняга дасьледваньня і апісаньня колгаснага руху ў раёне.

**Мэта.** Высьветліць мінулае і сучасны стан колектывізацыі с.-г. ў раёне для папулярызацыі і пашырэньня справы ў залежнасьці ад мясцовых умоў.

**Мэтод і крыніцы.** 1) Азнаямленьне з колгаснай літаратурай і дырэктывамі КП і Ураду СССР і БССР, а таксама з плянамі мерапрыемстваў і меркаваньнямі раённых кіруючых органаў—РК КПБ і РВК. 2) Вывучэньне фактычных матар'ялаў РВК (земчасткі) аб колгасах, скарыстаньне справаздачнасьці колгасаў на месцы. 3) Непасрэднае абсьледваньне паасобных тыповых к.-г. і апісаньне іх. 4) Гутаркі з кіраўнікамі раёну, с./с., агрономамі, сялянамі і г. д.

**I. Папярэдні агульны прыродна-географічны, экономічны і культурна бытавы нарыс раёну:** Географічнае палажэньне, плошча, рэльеф, глебы, расьліннасьць, фаўна, насяленьне, яго склад, залюдненасьць. Заняткі: с. гаспадарка.: формы землекарыстаньня, плошчы засеваў пад розныя культуры, ураджайнасьць. Пашы, сенажаці, жывёлагадоўля. Гародніцтва, садоўніцтва. Пчалярства. Лясная гаспадарка. Падсобныя заняткі: рамёствы, адходныя заробкі. Мясцовая прамысловасьць. Коопэрацыя. Крэдытн. ўстановы. Раённы бюджэт.—Культурны стан: пісьменнасьць, культ.-асьветныя ўстановы, школы, кіно, радыё, газэты. Санітарны стан і мэдычн. дапамога. Пошта. Шляхі зносін. Судовыя ўстановы, злачынствы. Грамадзкія організацыі і кампаніі. Бытавыя адзнакі: жыльлёвы і хатні дабрабыт, вопратка, мова, народная вусн. творчасьць, мастацтва, звычаі, забабоны, рэлігійнасьць, сэктанства. Мінулае раёну. Савецкія і грамадзкія ўстановы і організацыі раёну: РВК, с/с, РК і ячэйкі КПБ, ЛКСМ, іх дзейнасьць, уплыў—(Карта раёну з вызначэньнем галоўн. насельн. пунктаў, шляхоў зносін і інш.).

**II. Мінулае колгаснага руху ў раёне:** Першая ідэя аб к.-г., ініцыятары і організатары колгасаў. Першыя к.-г, іх віды і формы. Разьвіцьцё, рост, або заняпад і распад; прычыны гэтага. Садзейнічаньне цэнтральных і мясцовых органаў. Дасягненьні і недахопы. Перашкоды. Ілжэколгасы. Адносіны вакольнага насельніцтва з боку бядняцка-серадняцкай масы і кулацтва.—(Табліцы, картаграмы, дыяграмы).

**III. Сучасны стан колектывізацыі с. г. ў раёне.** Лік к.-г., іх віды, насельнасьць, плошчы, разьмеркаваньні па раёне і сельсаветах. Якасьці прыродных умоў: ужыткоўнасьці, глебы. Напрамак гаспадарак. Склад колгасьнікаў—соцыяльны, нацыянальны, паводле ўзросту і працаздольнасьці. Сродкі вытворчасьці: ужыткоўнасьці, будоўля, інвэнтар—мёртвы і жывы, машынізацыя. Плянавасьць гаспадарак, землекарыстаньне. Вытворчасьць, ураджайнасьць. Збыт. Прадпрыемствы. Скарыстаньне капіталаў. Організацыя і разьмеркаваньне працы і спосабы аплаты. Кіраўніцтва, агрономічнае абслугоўваньне. Наёмныя працаўнікі (спэцы і інш.). Культурны стан: культ.-бытав. камісіі. Пісьменнасьць. К.-асьветная праца: дзіцяч. сады, школы, клюбы, радыё, газэты, бібліотэкі. Санітарны стан і мэддапамога.—Аграмаджаньне жыцьця і быту: агульныя сталоўкі, пральні, дзіцяч. яслі. Спадчына старога: рэлігійнасьць, забабоны, звычаі. Новы быт: скарыстаньне вольнага часу, забавы, рэволюцыйныя сьвяты, кампаніі. Жыцьцё і быт жанчыны ў к. г. Адбіткі новага жыцьця ў к.-г. у народнай творчасьці: песьні, прыказкі, частушкі.—Моладзь у к.-г. Дзе вучацца дзеці колгасьнікаў. Дапамога і сувязь з к.-г. коопэрацыі і розных грамадзкіх організацый. Сувязь з вакольным насяленьнем і культурна-гаспадарчы ўплыў к.-г. на яго: аградапамога, перапрацоўка сыравіны; гутаркі, супольныя клюбы і інш.

**IV. Пэрспэктывы колгаснага руху ў раёне.** Экономічныя і бытавыя прадпасылкі разьвіцьця і пашырэньня колгаснага руху ў раёне: малазямельле, праспалосіца, вускапалосіца, малаўраджайнасьць і малатаварнасьць дробнай бядн.-серадн. гаспадаркі і іншае. Папулярызацыя і пропаганда колгаснага руху: дзейнасьць у гэтым кірунку мясцовых устаноў і організацый—партыйных, савецкіх, профэсыйных. Роля школы і настаўніцтва. Агульныя пляны і меркаваньні цэнтр. і мясцовых органаў у справе колектывізацыі с.-г. раёну. Бліжэйшыя

конкрэтныя задачы і мерапрыемствы ў сувязі з мясцовымі прыроднымі, экономічнымі і бытавымі асаблівасьцямі.

*Заўвагі да пляну:* Плян зьяўляецца проектным, орыентовачным і неабмежаваным пэўнай формай апісаньня: дасьледчыкі краязнаўцы ўнясуць у гэтую працу свае меркаваньні, дадаткі і зьмены ў процэсе працы. Але дасьледваньне і апісаньне ўвесь час павінна быць краязнаўчым, інакш кажучы, усе моманты павінны разглядацца на грунце і на фоне мясцовых прыродных, экономічных і культурна-бытавых асаблівасьцяй. Усе факты і зьявы патрэбна разглядаць у ўзаемасувязі і ў дынаміцы. Выразна павінен быць адбіты пролетарска-клясавы падыход да ўсіх момантаў і зьяў колгаснага руху. Апісаньне павінна ў популярнай, простай, па магчымасьці, прыгожай і лёгкай форме даць агульны малюнак таго, як колгаснае будаўніцтва ў раёне зьмяняе ня толькі працу, але жыцьцё і быт селяніна бедняка і серадняка па шляху да соцыялізму, паказаць, што аграмаджваньне працы і сродкаў вытворчасьці (базіс) вядзе да аграмаджваньня быту (надбудоўка) і ўзьнімае культурныя запатрабаваньні. Вядома, што ў гэтых мэтах будзе больш карысным спыніцца пераважна на дасягненьнях, удалых момантах, узорных колгасах, не абыходзячы, бязумоўна, і ня змазваючы і недахопаў і перашкод, выяўляючы іх карэньні і прычыны.

Матар'ялам для апісаньня павінны зьявіцца розныя весткі і документы мясцовых установ, але галоўным чынам непасрэднае дасьледваньне (па асобаму прыстасаванаму да гэтага пляну) некаторых тыповых (у сэнсе організацый, дасягненьняў) колгасаў раёну, — узяўшы за аснову адзін з іх, найбольш узорны і цікавы, і мэтодам параўнаньня ахарактарызоўваючы іншыя. Патрэбна скарыстаць і розныя гутаркі і заўвагі кіраўнікоў колгаснага руху, адказных працаўнікоў раёну, спэцаў — агрономаў, нарэшце, саміх колгасьнікаў, вакольных сялян і інш. Нават кулацкія пагалоскі можна скарыстаць пад кутом пролетарска-клясавага сьветапогляду.

На кожны разьдзел гэтага пляну можна вызначыць для апісаньня розную велічыню,—але III разьдзел (сучасны стан) і IV—(перспэкт.) павінны зьявіцца галоўнымі. Прыкладна часткі можна разьмеркаваць так: I—8-10 старон., II—5-8, III—15-20 ст. і IV—5-6 стар., — агулам—33-44 стар.

Па мажлівасьці працу трэба ілюстраваць картамі, табліцамі, дыяграмамі, фотоздымкамі і зарысоўкамі.

Закончанае апісаньне ўзгодніць з мясцов. кіруючымі органамі (РК КПБ, РВК) і зачытаць на агульных сходах, пасяджэньнях. Пасьля канчатковых папраўак даслаць для друку ў „Наш Край“ або ў „Шляхі колектывізацыі“, пакінуўшы ў сябе адбіткі.

Гэтым праца па вывуч. к.-г. руху ня спыняецца. У далейшым здабыты матар'ял зьявіцца грунтам для далейшага вывучэньне і апісаньня.

---

# Плян (прыкладны) краязнаўчага абьследваньня і апісаньня колектыўнай гаспадаркі.

**Мэта.** Вывучыць гісторыю ўтварэньня к.-г., сучасны стан і пэрспэктывы будучага ў залежнасьці ад мясцовых прыродна-экономічных умоў — з мэтай конкрэтнай дапамогі і популярызацыі колгаснага будаўніцтва ў раёне.

**Мэтод дасьледваньня і апісаньня:** 1) Непасрэднае дасьледваньне к.-г., азнаямленьне з гаспадаркай, з працай, бытам, пісьмовымі матар'яламі, гутаркі з кіраўнікамі і колгасьнікамі; 2) Скарыстаньне вестак з земчасткі РВК; 3) гутаркі з адказнымі працаўнікамі раёну і з агрономам-колгасьнікам; 4) гутарткі з вакольнымі сялянамі; 5) папярэдняя прапрацоўка адпаведнай літаратуры па к.-г. руху і аб паасобных колгасах.

**I. Кароткі прыродна-экономічны нарыс мясцовасьці.** Рэльеф. Глеба. Расьліннасьць. Сярэдняя ўраджайнасць. Ранейшыя формы землекарыстаньня, характарыстыка сельскай гаспадаркі сялян. Агульныя малюнкі жыцьця, працы і быту сялян у к.-г. Карта мясцовасьці. Пляны.

**II. Агульныя папярэднія весткі аб к.-г.** Назва. Від (комуна, арцель, т-ва). По чыёй ініцыятыве і як і калі заснаваўся к.-г. Галоўныя моманты ў разьвіцьці к.-г. Склад насяленьня к.-г. і яго дынаміка: было пры заснаваньні і ёсьць цяпер: мужч., жанч., дзяцей (да 13 г.), падлеткаў (да 18 г.), старых (60 г.) інвалідаў; у тым ліку — працаздольных, сяброў КПБ, ЛКСМ, пісьменных: папярэдні соцыяльны склад: рабоч., батракі, серадdespite і інш. Зьмены ў складзе.

**III. Землекарыстаньне**. Калі праведзена землеўпарадкаваньне. Разьмеркаваньне зямлі: ужыткоўнай: пахаці, гароду, саду, сенажаці (заліўной, сухадольнай), лесу і хмызьняку, сядзібы; няўжыткоўнай: балот, пяскоў, іншых. Зьмены ад часу заснаваньня. Пасеўная плошча за апошні год (у параўнаньні з ранейшымі): жыта, пшаніца (азім., ярав.), авёс, ячмень і г. д., гародніна, папар. Агульны (гуртавы) збор продуктаў з пасеўнай плошчы. Ураджайнасьць. Які ў гаспадарцы севазварот.

**IV. Сродкі вытворчасьці. Будынкі (якія).** Гаспадарчыя пабудовы. Мёртвы інвэнтар: с.-г. прылады, машыны, якія і колькі. Іх якасьць, стан і скарыстаньне. Жывёла: буйная, дробная, птаства. Парода і колькасьць. Продукцыйнасьць рознага віду жывёлы: малочнай, сьвіней, авечак, птаства. Пчалярства. Рабочая жывёла (коні). — Сады, гадавальнікі, іх плошча, стан і продукцыйнасьць. — Гародніна і валавая яе продукцыйнасьць. — Прычыны неабагуленасьці паасобных сродкаў або частак вытворчасьці: зямлі, будынкаў, с.-г. прылад, рабочай і продукцыйнай жывёлы і іншага. На якіх умовах абагулена ранейшая маёмасьць колгасьнікаў.

**V. Склад капіталаў. Паявы капітал;** памер паю, уступнага ўзносу, у выглядзе чаго (грошы, сродкі вытворчасьці) прымаліся паі. Памер паявога капіталу пры заснаваньні, рост, наяўнасьць. — Непадзельны капітал: сума пры заснаваньні і з чаго яна складалася: з дзярж. маемасьці, з адлічэньняў к.-г., з прыбыткаў; наяўнасьць цяпер. — Спэцыяльны капітал, для якіх патрэб: пры заснаваньні і цяпер. Запасны капітал. Амортызацыйны капітал. — Уклады, іх памер. Пазыкі, даўгі. Зварот крэдытаў. Балянс колгасу.

**VI. Разьмеркаваньне валавой продукцыі і аплата працы.** Адлічэньні ў розныя капіталы (запасны, непадз. і інш.), выплата с.-г. падатку, паі ў коопэрацыю, облігацыі і інш. Выдаткі на наём працоўнай сілы і сродкаў вытворчасьці. Выдаткі па крэдытах.

Як размяркоўваецца прыбытак ці частку яго паміж сябрамі к.-г.: па ядунох, па рабочых, па працы, па колькасьці і якасьці працы і г. д. Як вызначаецца зарплата і памеры яе для розных прац і працаўнікоў. Як і чым робіцца выплата. Ці вызначаны паі і як яны

ўлічваюцца. Як забясьпечваюцца колгасьнікі ў часе хваробы. Як аплачваецца праца жанчын, падлеткаў. Як утрымліваюцца дзеці, старыя, інваліды. Аплата кіраўнікоў і спэцыялістых.

Якія выдаткі к.-г. вядзе на культ.-асьветн. справу: яські, дз. сады, школы, клюбы, куткі, газэты і інш.

**VII. Організацыя працы. Як разьмяркоўваецца** праца паміж сябрамі к.-г. Які вызначаны працоўны дзень. Скарыстаньне ў працы дзяцей, інвалідаў, старых. Наём працоўнай сілы і спэцыялістых: агроном, рахункавод, трактарысты, пастух, інш. Плата—грашыма ці натурай (продуктамі). Падзённыя працаўнікі і на якія працы: паляводзтва, гародніцтва, жывёлагадоўля і інш. — Рацыяналізацыя працы.

Склад органаў кіраўніцтва к.-г., савет к.-г., рэвізыйныя кам. і інш. Якая і як праводзіцца праца — кіруючымі органамі.

Вытворчы плян, на які тэрмін, (яго асаблівасьці).

Агульныя сходы і якія вырашаюць пытаньні. — Прагулы, нядбайныя адносіны да працы, шкодніцтва. Якія непаразуменьні на глебе разьмеркаваньня працы, якія ўжываюцца меры спагнаньня і кары за невыкананьне працы. — Ці ёсьць прэміяваньне за найлепшую працу.

Як абслугоўваецца колгас агрономамі.

Малюнкі працоўнага дню ў розныя поры году.

**VIII. Быт і культурны стан.** Ці ёсьць агульная сталоўка, прачкарня, лазьня. Як яны абслугоўваюцца і ўтрымліваюцца. Як харчуюцца, колькі разоў у дзень, якія стравы.—Як даглядаюцца дзеці: яські, дз. сады, пляцоўкі, школы; як яны працуюць, колькі ў іх дзяцей. Дзе і колькі вучыцца дзяцей сяброў колгасу. Стан граматнасьці колгасьнікаў, лік няпісьменных, як праводзіцца ліквід. няпісьменнасьці. Культ.-асьветныя ўстановы к.-г.: лікпункт, чытальня, клюб, гурткі, курсы, лекцыі выстаўкі. Кіно. Спэктаклі. Газэты і часопісы — якія і колькі. Насьценгазэта і яе роля. — Організацыя мэдычнай дапамогі і санітарны стан: агляд, гутаркі, аптэчка. Праца культ.-бытав. камісіі к.-г.

Бытавыя зьявы: сваркі, на якой глебе, спрэчкі, непаразуменьні.— Як адбываецца вясельле, хаўтуры, нараджэньне. — Праявы рэлігійнасьці, забабоны і інш. — Як праводзяць вольны час і адпачынак дарослыя, моладзь, дзеці.

Як сьвяткуюцца рэволюцыйныя дні і сьвяты.

Грамадзкія організацыі: Ячэйка КПБ, ЛКСМ; МОПР, Асаавіяхім, Бязбожнік і інш. Іх дзейнасьць і ўплыў на жыцьцё і працу колгасьнікаў.

Жыцьцё жанчыны колгасьніцы: праца, хатні быт; удзел у колектыўн. жыцьці і кіраўн. Адбітак быту к.-г. у народнай творчасьці — прыказкі, частушкі, песьні і інш.

**Сувязь к.-г. з інш. організац. і насяленьнем.** Сувязь і суадносіны з інш. к.-г. і саўгасамі. Вытворчая дапамога бядняцк. і серадн. індыв. гаспадаркам: насеньнем, машынамі, культурн. ўстановамі. Уплыў на вакольнае насяленьне. Сувязь і адносіны з коопэрацыяй і інш.

**X. Пэрспэктывы: плянавасьць і пляны** на будучае. Мерапрыемствы і шляхі далейшага росту і разьвіцьця.

*Дадатк. весткі*, у адпав. разьдз.: прадпрыемствы к.-г. млыны, майстэрні і інш.

---

Проект.

# ДАГАВОР

## соцыялістычнага спаборніцтва між ______ раённымі Т-вамі краязнаўства.

Пяцігадовы плян гаспадарчага і культурнага разьвіцьця СССР і БССР конкрэтна высоўвае перад усімі працоўнымі задачу—прысьпешыць тэмп індустрыялізацыі краю, соцыялістычна перабудаваць сельскую гаспадарку, узьняць культурны ровень мас, наогул дагнаць і перагнаць перадавыя буржуазныя краіны.

Прызнаючы, што краязнаўчая праца можа адыграць вялікую ролю ў соцыялістычнай перабудове краю шляхам вывучэньня і выкрыцьця продукцыйных сіл краю і павялічэньня дабрабыту і культурнага капіталу рабочых і сялянскіх мас, мы, члены ______ раённага Т-ва краязнаўства і члены ______ раённага Т-ва краязнаўства, падпісваючы дагавор соцыялістычнага спаборніцтва, даем шчырае слова выканаць наступную працу на працягу году:

1. Разгорнем краязнаўчы рух у нашым раёне да наяўнасьці 4-5 працаздольных (с. с.) вясковых краязнаўчых гурткоў і школьна-краязнаўчага гуртка ў кожнай школе 7-цы.

2. Праверым склад нашага Т-ва, організацыйна ўзмацнім яго, уцягнем новых сяброў у Т-ва, усю організацыйную працу пабудуем па больш простаму і плянаваму прынцыпу.

3. Уцягнем у склад сяброў Т-ва бядняцкі актыў сялян, рабочых, асабліва комсамольцаў з разьлікам, каб сялян у складзе Т-ва было ня менш 15%, (дзе ёсьць рабочыя асяродкі лік рабочых ня менш 5%).

4. У дасьледчым напрамку разгорнем працу па выяўленьню вытворчых сіл краіны: выяўленьне і апісаньне карысных выкапняў раёну (торф, крэйда, вапнякі і г. д.), вывучэньне раёну ў мэтах колектывізацыі (апішам колектыўны рух у раёне, яго дасягненьні, пэрспэктывы), практычная дапамога колектывізацыі ў раёне (наладжваньне організаваных экскурсій сялян у колгасы, інструктаж з боку Т-ва, організацыя выстаўкі дасягненьняў колектывізацыі і г. д.), вывучэньне раёну з антырэлігійнымі мэтамі і г. д.

5. У мэтах популярызацыі ідэй краязнаўства пашырым веды аб раёне сярод насяленьня шляхам лекцый і дакладаў на краязнаўчыя тэмы, шляхам друкаваньня сваіх прац у цэнтральным і мясцовым друку, шляхам зьбіраньня экспонатаў у раённы краязнаўчы музэй, які ў канцы году павінен зьявіцца паказчыкам усяе нашае краязнаўчае працы ў раёне.

6. Пашырым падпіску на „Наш Край" у ліку ______, будзем пашыраць яго сярод чытаючага насяленьня шляхам рэфэратаў, чытак, паведамленьняў. У гэтым-жа часопісе мы будзем высьвятляць усю нашую працу, якая разгортваецца згодна дагавору соцспаборніцтва.

Тэрмін выкананьня дагавору з ______ да ______ 30 году.

Арбітрам па выкананьні гэтага дагавору мы абіраем ______

______

Дагавор падпісалі ______

# ХРОНІКА.

## Социялістычнае спаборніцтва паміж Беларускай Акадэміяй Навук і Навукова-Дасьледчым Інстытутам Сельскай і Лясной гаспадаркі, імя У. І. Леніна.

Социялістычнае спаборніцтва шырака разгарнулася ва ўсім СССР і ахапіла амаль ўсе вытворчыя прадпрыемствы. Соцспаборніцтвы на вытворчасьці ўжо даюць рэальныя вынікі: узьняцьце працоўнай дысцыпліны, павялічэньне продукцыі вытворчасьці, паляпшэньне яе якасьці, зьніжэньне сабекошту і іншае.

Навукова-дасьледчая праца ў СССР і асабліва ў БССР, дзе справа гэта яшчэ новая заснавалася і разгортваецца ў выніку перамог Кастрычніка, павінна ўздымацца тымі-ж мэтодамі, як і праца на прадпрыемствах.

Колектыў супрацоўнікаў БАН, абгаварыўшы пытаньне адносна Соцспаборніцтва ў Акадэміі, прышоў к вываду, што Акадэміі лепш за ўсё ўступіць у спаборніцтва з НДІ. Да такой думкі прышоў і Колектыў НДІ пасьля абгаварэньня пропозыцыі супрацоўнікаў БАН.

12 лістапада 1929 г. на агульным сходзе ўсіх супрацоўнікаў абодвух колектываў канчаткова абгавораны, прыняты і падпісаны дагавор.

### ДАГАВОР

**па социялістычнаму спаборніцтву паміж Беларускай Акадэміяй Навук і Навукова-Дасьледчым Інстытутам Сельскай і Лясной Гаспадаркі імя Леніна.**

Бурны тэмп індустрыялізацыі і колектывізацыі нашай краіны і перабудова ўсёй яе гаспадаркі на социялістычны лад вымагае ад навукова-дасьледчых устаноў асабліва напружанай працы. Выходзячы з паказанага, мы, усе працаўнікі Беларускай Акадэміі Навук і Навукова-Дасьледчага Інстытуту бярэм на сябе выкананьне наступнага:

1. Да 1-га сьнежня 1929 г. перагледзець опэрацыйныя і пэрспэкцыйныя пляны працы ўстаноў і аддзелаў, пабудаваўшы іх на падставе пяцігадовага генэральнага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі БССР, кіруючыся апошнімі дырэктывамі партыі і ўлады, з увязкай гэтых плянаў з плянамі адпаведных усесаюзных навукова-дасьледчых устаноў.

2. Распрацаваць да 1/1-1930 г. вытворчы плян будаўніцтва БАН і НДІ на 1929/30 акад. год, а таксама да 1-га сакавіка 1930 г. распрацаваць дэталёвы плян усяго будаўніцтва названых устаноў, забясьпечыўшы яго выкананьне высокакваліфікаваным тэхнаглядам; колектывам абедзьвюх устаноў прыняць самы актыўны ўдзел у абгаварэньні плянаў будаўніцтва ў напрамку найбольшага іх прыстасаваньня да мэтавай устаноўкі БАН і НДІ, найлепшай адпаведнасьці стылю эпохі пролетарскай рэволюцыі і ў прыватнасьці пролетарскай культуры БССР.

3. Даць найбольшую продукцыйнасьць працы ўстаноў і паасобных яе працаўнікоў і на ўсе 100% выканаць гадавыя пляны прац устаноў і аддзелаў.

4. Усю працу ўстаноў праводзіць у напрамку марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі і сьветапогляду і барацьбы з варожымі плынямі.

5. Устанавіць працоўную дысцыпліну і пунктуальнасьць у працы шляхам выпрацоўкі сталых норм нагрузкі і правіл унутранага распарадку і 100% іх выкананьне. Своечасова зьяўляцца на ўсе сходы, якія склікаюцца па профэсыйнай і адміністрацыйнай лініі.

6. Сурова праводзіць фінансавую дысцыпліну. Рацыяналізаваць працу і своечасова выконваць прапановы экономнарады. БАН і НДІ абвязваюцца скласьці каштарыс на 1930/31 год у месячны тэрмін пасьля атрыманьня контрольных лічбаў; абмеркаваць гэты каштарыс на агульных сходах навуковых працаўнікоў і дабіцца максымальнай ўгрунтаванасьці і рэальнасьці каштарысаў (мінімальнае разыходжаньне паміж заяўкамі і зацьверджаным каштарысам). БАН абавязваецца давесьці ў каштарысе 1930/31 году асыгнаваньні па Аддзелу Прыроды і Народнай Гаспадаркі ня менш 50% усіх асыгнаваньняў па Акадэміі. БАН і НДІ абавязваюцца ў каштарысе 1930/31 году выдаткі на зарплату і опэрацыйныя выдаткі давесьці ў суадносінах адзін да аднаго ня лічачы будаўніцтва.

7. Утварыць найлепшыя ўмовы для работы навуковых працаўнікоў шляхам забесьпячэньня абсталяваньнем, звальненьнем ад тэхнічнай працы і забесьпячэньня адпаведным памяшканьнем.

8. Устанавіць самую сьціслую сувязь устаноў з рабоча-сялянскімі і чырвонаармейскімі масамі:

НДІ — шляхам організацыі дэкаднага сялянскага ўнівэрсытэту, навуковай консультацыі соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, організацыі выстаўкі-курсаў перасоўкі, падрыхтоўкі для друку популярнае літаратуры ў памеры ня менш аднаго друкаванага аркушу на кожнага навуковага працаўніка, пастаноўкі дакладаў—прычым кожны навуковы працаўнік павінен зрабіць ня менш аднаго дакладу ў Доме Селяніна, чырвонаармейскіх частках або рабочых клюбах; популярызацыі навукова-дасьледчых дасягненьняў праз радыё; павялічыць на 50% лік членаў Інстытуту масавага досьледу; пашырыць сетку сваіх дапішчыкаў пры адпаведных установах на 100%, зябясьпечыўшы 15% з соцыялістычнага сэктару.

БАН—шляхам організацыі цыклю лекцый па радыё, напісаньня популярных брошур памерам ня менш 25 друк. аркушаў; пастаноўкі дакладаў, выходзячы з такога разрахунку, каб ня менш аднаго дакладу прыходзілася на кожнага навуковага працаўніка: організацыі і абслугоўваньнем сіламі БАН курсаў краязнаўства пры БДУ; організацыі сэмінараў па краязнаўству для рабочых, павялічэньня ліку членаў краязнаўчых організацый да 10000 асоб, давесьці ў гэтым складзе да 5% рабочых ад станка і 15% сялян ад вытворчасьці; заснаваньня сыстэмы дапішчыкаў-корэспандэнтаў пры Катэдры этнографіі і Тэрмінолёгічнай камісіі;—сярод дапішчыкаў гэтых устаноў павінна быць ня менш 25% рабочых; ЦБ Краязнаўства і Слоўнікавая Камісія павінны мець у сваім складзе дапішчыкаў 5% рабочых.

9. Па раёну суцэльнай колектывізацыі: БАН—правядзеньне маршрутнага геолёгічнага досьледу па адшуканьню карысных выкапняў; дасьледваньне глебаў раёну; выкананьне экономічнага раёнаваньня; вывучэньне сыравіннай базы існуючых рамёстваў і пытаньня мажлівасьці організацыі новых; організаваць у кожным сельсавеце новы краязнаўчы гурток; вывучыць этнографію, мову і гісторыю раёну. НДІ—усебакова вывучыць стан сельскай гаспадаркі раёну; правесьці пэўную працу па мэтэоролёгічных назіраньнях, закласьці стацыянарныя рахунковыя запісы гаспадарак; вывучыць на 100% шкоднікаў і хваробы расьлін; на 100% правесьці працу па гатункаспрабаваньню расьлін; організаваць працу па пратручваньню насеньня.

10. БАН—організаваць звыш пляну працы па ўкладаньню навуковай тэрмінолёгіі па мэліорацыі і культуры балот, жывёлагадоўлі і экономіцы організацыі сельскай гаспадаркі. НДІ з свайго боку абавязвае сваіх супрацоўнікаў па выбару Тэрмінолёгічнай камісіі БАН прыняць удзел у апрацоўцы вышэйадзначаных тэрмінолёгій. Папярэднія проекты павінны быць закончаны да 1 студзеня 1931 году.

11. Організаваць найлепшую падрыхтоўку установамі асьпірантаў (своечасова ўкласьці програмы, даць належнае кіраўніцтва, забясьпечыць марксыцка-ленінскі бок падрыхтоўкі організаваць сыстэматычную праверку выкананьня гадавых заданьняў і заслухоўваньня справаздач). Ачысьціць асьпіранцкі склад ад соцыяльна - ідэолёгічнага чужога элемэнту. Дабіцца максымальнага павялічэньня проценту партыйна-комсамольскага асяродку асьпірантуры, кіруючыся дырэктывамі ліпнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б. Рабочы і бядняцка-сялянскі склад асьпірантуры давесьці да 80%. На 100% выканаць пункты палажэньня аб асьпірантах, у якіх гаворыцца аб іх падрыхтоўцы. Стопроцантнае наведваньне сэмінарыяў асьпірантамі і напісаньне ня менш аднаго дакладу па кожнаму сэмінарыю. Стопроцантная здача дыплёмных прац на працягу году з часу паступленьня ў установу.

12. Рацыяналізаваць выдавецкую справу і зьнізіць яе сабекошт на 7% з адначасовым палепшаньнем тэхнікі выданьня. БАН і НДІ рэгулярна выдаваць часопісы „Наш Край“ і „Сельская і Лясная Гаспадарка“ з тым, каб на працягу году было выдадзена ня менш 10 нумароў кожнага часопісу. Распаўсюдзіць у межах БССР ня менш 30% усіх сваіх навуковых выданьняў.

13. Організаваць і ўзмацніць працу па асваеньню з марксыцка-ленінскім сьветапоглядам і па падвышэньню навуковай кваліфікацыі навуковых працаўнікоў.

14. Устанавіць найбольшую і найлепшую сувязь з навуковымі ўстановамі СССР і аўтаномных рэспублік.

Наладзіць комплектаваньне бібліотэк замежнай літаратурай па спэцыяльнасьцях.

Наладзіць напісаньне рэцэнзый на выданьні БАН і НДІ.

15. Організаваць побач з вывучэньнем БССР роўналежнае вывучэньне Заходняй Беларусі па ўсіх даступных матар'ялах.

16. Прыняць шырокі ўдзел навуковым працаўнікам у організацыі і правядзеньні першай усебеларускай сельска-гаспадарчай выстаўкі, як-та: 100% выкананьне плянавых заданьняў Галоўвыстаўкому, кіраўніцтва экскурсыямі, консультацыі і г. д.

17. Абвясьціць спаборніцтва на культурны выгляд устаноў БАН і НДІ.

18. Дагавор мае моц з дня падпісаньня па 1 студзеня 1931 году.

19. Праверка выкананьня дагавору робіцца Камісіяй у складзе двух прадстаўнікоў ад колектыву кожнай установы і аднаго ад сэкцыі навуковых працаўнікоў адзін раз у пачатку чэрвеня і другі—у канцы году.

Орыгінал падпісалі:

Прадстаўнікі ад Колектыву БАН: *Баброві*ч *Бялуга*, акад. *С. Некрашэвіч*.

Прадстаўнікі ад Колектыву НДІ; проф *Вінэр*, *Мікуліч*, *Ярашчук*.

## Дзейнасьць ЦБК.

**Пасяджэньне 27/VIII—29 г.**

Заслухана справаздача інструктара ЦБК т. Жураўскага аб краязнаўчай экспэдыцыі ў Лоеўскі і Камарынскі раёны. Прынята пастанова аб накіраваньні ў Чэрвенскі і Чачэрскі раёны краязнаўчых экспэдыцый у складзе т. Касьяровіча ў першы раён і т. Шашалевіча ў апошні раён. Зацьверджаны проект дагавору аб соцспаборніцтве між ЦБК БССР і Украінскім Комітэтам Краязнаўства. Даручана т. Касьяровічу апрацаваць проэкт правядзеньня соцспаборніцтва між краязнаўчымі організацыямі БССР.

**Пасяджэньне 4/Х—29 г.**

Зацьверджаны плян працы ЦБК на 1929-30 акад. год. Прынята пастанова аб пераходзе ЦБК на непарыўны тыдзень працы з 6/Х. Вылучаны т. Казак прадстаўніком ад ЦБК і Цэнтрархіў і т. Жураўскі ў Выставачны Камітэт Усебеларускай с. г. выстаўкі. Заслуханы справаздачы т. Касьяровіча і т. Шашалевіч аб краязнаўчых экспэдыцыях у Чэрвеньскі і Чачэрскі раёны. Прызнана неабходным практыкаваць такія экспэдыцыі пры ўдзеле мясцовых краязнаўчых сіл. Дазволена т. Касьяровічу камандыроўка ў экспэдыцыю ў Сібір згодна пастановы Прэзыдыуму БАН.

**Пасяджэньне 12/XI—29 г.**

Зацьверджаны інструкцыйныя лісты ЦБК да ўсіх краязнаўчых організацый аб соцыялістычным спаборніцтве і кірунку краязнаўчай працы ў бягучым годзе. Зацьверджаны сьпіс тэм кіраўнічага і мэтодычнага характару для часопісу „Наш Край“. Заслуханы справаздачы інструктароў ЦБК т. Шашалевіча і Жураўскага аб стане краязнаўства ў Менскай і Магілеўскай акругах (Вузда, Копыль, Грэск, Слуцак, Карма, Краснапольле, Клімавічы, Касьцюковічы). Праца Капыльскага, Грэскага і Слуцкага прызнана здавальняючай, іншых — слабай. Прызнана неабходным рэкомандаваць усім краязнаўчым організацыям пры складаньні плянаў працы галоўную ўвагу аддаваць актуальным пытаньням сучаснасьці (колектывізацыя сельскай гаспадаркі, індустрыялізацыя краіны і г. д.).

## Што атрымала ЦБК і рэдакцыя часоп. „Наш Край“ у жніўні—кастрычніку месяцах 1929 г.

Ад Баранава, Я. Бачко, Х. Клімянка, Я. Бердніковіча, Я. Жыткевіча, Е. Максімовіча слоў жывой мовы 160.

Ад. А. Крукоўскага (Мозыр) Слоўны і дыялектолёгічны матар'ял Лельчыцкага раёну.

Ад Барысаўскага і Смалявіцкага раён. Т-ваў матар'ялы аб апрацоўцы ільну.

Ад С. Шауковіча матар'ялы аб с.-г. Тураўскай выстаўцы.

Ад А. Казлоўскага (в. Масьцішча), В. Маслоўскага, П. Шаблюка, Ап. Кандрачына, І. Дразьдзецкага, М. Цьвержанкова, Г. Фрыда, Я. Гапеева, А. Скарбца, Ж. Жышкевіча, Я. Кавалёва, Я. Дзямідовіча, А. Кісялёва, А. Пузэвіча, А. Брэус, Л. Яшчанкі, М. Фірагіна, А. Бялькевіча, А. Глыбоўскага, І. Караленкі, Я. Бачко—фольклёрных матар'ялаў 525 №№.

Ад Е. Максімовіча Апісаньняў лекавых траў 30 №№.

Ад Аршанскага Акр. Т-ва Краязнаўства 11 запісаў аб паўстаньні 1863 г.

Ад Андрэя Рабцава, І. Аўтушонка, Т. Парцінай, Н. Гаўрылава (Аршанская акруга, студэнты рабфаку) анкеты аб культурным стане насяленьня Арш. акр,

Ад С. Шандарэўскага прыпевак 262.

Ад Янавіцкай 7-кі фольклёрных матар'ялаў 607 №№

Ад Бягомльскай 7-кі фольклёрных матар'ялаў 1369 №№.

Ад А. Немцава, Плешчаніцкага р. т-ва і Асьвейскага т-ва Краязнаўства—узоры каменьня для помніка У. Леніна.

Ад Азбукіна артыкул „Краязнаўчая праца ў Марыйскай краіне“.

Ад М. Войтка заметка „У Калядную Нядзелю“.

Ад А. Шаўковіча і С. Шаўковіча—„Аб паўднёвай частцы Лельчыцк. раёну. Сялянскія прыметы. Агрономічная праца на Палесьсі“.

Ад У. В. Мікіцінскіх. Па Слуцкаму Палесьсю.

Ад М. Валатоўскага і Т. Кулакова. Апісаньне Крукавіцкага с. с. Мазырскай акр. Азар. р.

Ад Ю. Лапіцкага. Па балотах Чачэрскага раёну.

Ад Р. Львовіча. В. Касынічы.

Ад П. Ісакава. З мінулага Крычаўшчыны.

Ад А. Бялькевіча. Гісторыя ўтварэньня в. Старадворцы.

Ад З. Бядулі „Па калгасах Койданаўскага раёну“.

Ад Ю. Кармянскага. 30 дзён на Дынамічным перапісу.

Ад С. Шаўковіча. Апісаньне Танескага сельсавету.

## Экспэдыцыі Гомельскага Акруговага Т-ва Краязнаўства.

У ліпні г. г. экспэдыцыя ў складзе т. Каршукова і Саламікіна абсьледвала жывую мову далін р. Бесядзі (Веткаўскі раён) і сабрала фольклёрны матар'ял (жніўныя песьні, загаворы, народная фармакапея і г. д.). Апрача гэтага экспэдыцыя апісала адну сялянскую гаспадарку, малочную арцель і абсьледвала Стаўбунскі сельсавет. У працы

экспэдыцыі таксама прымаў удзел горацкі глебавод т. Рагавы.

Другая экспэдыцыя ў складзе т. Янaчкіна і мясцовага краязнаўцы т. Новікава абсьледвала бабровыя колёніі ў Чачэрскім раёне. Бабровыя колёніі знаходзяцца ва ўрочышчы Алізгава, дзе пасечнік Мыльнікаў перашкаджае супакойнаму бытаваньню баброў. Даклад аб бабровых колёніях быў заслуханы ў РВК.

Трэцяя экспэдыцыя т. Яновіча абсьледвала бабровыя колёніі ў Веткаўскім раёне (на р. Іпуць каля в. Ачэса Рудня і на возеры Равучым), дзе ёсьць бабровыя пабудовы і вельмі спрыяючыя ўмовы для існаваньня баброў, але ў апошні момант там пачалі сяліцца сяляне і перашкаджаць мірнаму жыцьцю баброў.

Чацьвертая экспэдыцыя ў складзе Струніна, Шацкага і Саламыкіна адбылася ў ліпні месяцы ў Лоеўскі і Камарынскі раёны. Абсьледваны ў Лоеўскім раёне месцанараджэньні карысных выкапняў, фарбзавод і батанічны парк Суткова; у Камарынскім раёне—партовая і новая канавы і р. Брагінка; у Хойніцкім—парк „Барысаўшчызна".

Матар'ялы экспэдыцый апрацоўваюцца і рыхтуюцца да друку.

## Аб выданьні краязнаўчага зборніка на Полаччыне.

Полацкае Акруговае Таварыства Краязнаўства ўжо прыступіла да організацыі выданьня краязнаўчага зборніка „Наша Акруга".

Памер зборніка: 20 друкаваных аркушаў г. зн. 320 старонак. Тыраж — 2000 экзэмпляраў. Да зборніка мяркуецца дадаць наступныя матар'ялы: сьпіс раёнаў, сельсаветаў і наогул усіх паселішчаў Полацкае акругі, плян гораду Полацку разам з аколіцамі (з паказаньнем назоў вуліц і мясцовасьцяй, якія знаходзяцца навокала Полацку), падрабязную географічную Карту Полаччыны, а таксама некалькі ілюстрацый (прыгожых Полацкіх краявідаў, цікавых будынкаў, помнікаў, курорта „Баркоўшчына", гарадзішчаў, курганоў, гарадоў, мястэчак, вёсак, калгасаў, Саўгасаў і інш.).

Таварыства мяркуе зборнік „Наша Акруга" выпусьціць у сьвет да вясны 1930 году.

С. Мялешка.

## Краязнаўства ў Бешанкавіцкім раёне.

Заснавана Бешанкавіцкае райтаварыства краязнаўства ў сакавіку 1925 г.

Сябрамі і працаўнікамі райтаварыства зьяўляюцца, галоўным чынам, настаўнікі.

Разам з популярызацыйнай працай т-вам вядзецца і зьбіральніцка-дасьледчая.

Нельга сказаць, каб краязнаўчая праца была разгорнута ва ўсю шырыню, аднак за нядоўгі пэрыод існаваньня т-ва ёсьць і конкрэтныя вынікі працы. Напрыклад, — для краязнаўчага музэю сабрана колекцыя казюлек, колекцыя насеньня розных расьлін, птушыных яек. Сабраны старадаўнія монэты, знойдзены косьці маманта. Ёсьць колекцыя мінэраляў і руд, якія сустракаюцца ў раёне, галоўным чынам, балотная жалезная руда і прыродная вохра. Знойдзена ў раёне аружжа каменнага веку (нэоліта). Ёсьць карта глебы раёну, узоры тканін і зарысоўкі іх. Павялічана географічная карта раёну, на якой умоўнымі знакамі адзначаюцца помнікі старасьветчыны і пункты з саматужнай прамысловасьцю (цагельні, ганчарні, кузьні, шаўцы, краўцы, муляры, сталяры, калесьнікі і іншыя), торпавыя балоты. Зьбіраюцца веды аб прыродных фарбах, якія ўжываюцца насельніцтвам, і рэчах, якія ўжываюцца, як лекі (на прадмет аналізу іх і вытулмачэньня шкоды ці карысьці ад іх для здароўя чалавека). Штогодна вядуцца сыстэматычна фэнолёгічныя назіраньні. Пры Бешанкацвіцкай сямігодцы для фэноёгічных назіраньняў за расьлінамі пабудаваны батанічны гадавальнік, у якім, акрамя іншых расьлін, расьце і морва.

Даваліся паводле анкет Інбелкультy весткі аб валтоўках, аб сельска-гаспадарчых раённых выстаўках. Адасланы ў Віцебскі музэй гістарычны рукапіс аб мястэчку Бешанкевічах, бомба 1812 году, дошка з яўрэйска-беларускім орнамэнтам, каменныя малаткі нэолітычнай эпохі, зуб маманта, апісаньне дэндролёгічнага саду „Саломінка".

Сябрам Т-ва даны заданьні па вывучэньні прыроды, сельскай гаспадаркі, прамысловасьці, экономікі, культуры, быту і рэволюцыйнага руху раёну для выданьня раённага часопісу, які-б ілюстраваў усе бакі жыцьця раёну.

Заданьні па краязнаўчай працы маюць сувязь з пяцігадавым дзяржаўным плянам па падняцьці продукцыйнасьці сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, і соцыялістычнай будовы культурнага і гаспадарчага жыцьця. Акрамя таго, Т-ва паставіла сваёй мэтай вясьці плянавую працу па вывучэньні раёну сумесна з партыйнымі, савецкімі, і грамадзкімі організацыямі раёну.

Старшыня т-ва М. Валуеў

## Краязнаўчая праца ў Вузьдзенскім раёне

Аформленай організацыі няма. Вучоту сяброў Т-ва няма. Праўленьне існуе ў складзе 2-х сяброў. Існуе краязнаўчая камісія па апісаньню раёну для школ, распрацоўвае схэматычны плян апісаньня. На настаўніцкай конфэрэнцыі пытаньне аб краязн. працы ставілася, але пытаньне ня было распрацавана і падрыхтавана, а таму краязнаўчая праца і не популярызавана. Пры школе 7-цы ёсьць некаторыя матар'ялы, сабраныя раённым Т-вам, галоўным чынам археолёгічныя рэчы і фольклёрны матар'ял.

Пры школах 7-ках (яўрэйскай і беларускай) няма аформеных краязнаўчых гурткоў. Краязнаўчая праца робіцца выпадкова. Для разьвіцьця музэю няма пэрспэктыў. Рэчы, якія ёсьць, ня прыведзены ў парадак (ёсьць цікавы каменны нож формы секача 15 см. даўжынёю і 5 см. шырыні, вагой каля 2 ф. і нейкая капілка (?), мусіць, 16-17 ст. з цікавым орнамэнтам зьнізу (дзьве рукі працягнуты да снапа). Т-ва адшукала ў мястэчку пінкос пачатку XIX ст. і пераслала ў яўрэйскі сэктар БАН. Т-ва яшчэ вельмі слабое з організацыйнага боку і ў пляне працы вызначыла толькі наступныя заданьні: 1) даць кароткае схэматычнае апісаньне раёну, 2) правесьці перавучот складу Т-ва, 3) пачаць збор матар'ялаў для географічнага слоўніка (паселішчы, калгасы, саўгасы раёну).

## Капыльскае раённае Т-ва Краязнаўства.

Праца Т-ва значна разгорнута, хоць сталага праўленьня да гэтага часу ня было і толькі ў часе прыезду ў Копыль прадстаўніка ЦБК праўленьне Т-ва канчаткова аформілася ў сваім складзе. Т-ва правяло такую вялікую падрыхтоўчую працу для ўкладаньня географічнага слоўніка Копыльскага раёну: склала анкету, распаўсюдзіла яе ў вялікім ліку экзэмпляраў па сельсавецкіх і вясковых ячэйках, размножыла пляны сельсаветаў і паасобных населеных пунктаў, дагаварыўшыся ў гэтым напрамку з пагран атрадам, склікала нараду профупаўнаважаных і пазнаёміла іх з умовамі гэтай працы. Ужо распачаўся збор гэтых матар'ялаў, прыступілі да апісаньня глебы паасобных паселішч. Іншая праца зробленая Т-вам: 1) складзена кароткае апісаньне раёну і вясковыя школы ім карыстаюцца; 2) праведзены падлік помнікаў разьбярства ў раёне і царкоўных каштоўнасьцяй; 3) сабраны колекцыі тканін, нумізматыкі і г. д.; 4) Т-ва зьвярнулася да ўсіх культурных дзеячоў БССР, якія па свайму паходжаньню зьяўляюцца капылянамі, прысылаць магчымыя матар'ялы і фотографіі з рэўруху на Капыльшчыне для зьмяшчэньня ў раённы музэй; 5) на працягу году склаўся невялікі раённы музэй які вельмі адважна наведваецца сялянамі. Мясцком працасьветы адвёў для музэю памяшканьне ў кутку асьветніка і даў сродкі на абсталяваньне; 6) заснаваны фэнпункты і акуратна вядуцца мэтнагляданьні, але блянкаў няма. Пры ўдзеле прадстаўніка ЦБК адбыўся сход актыву м. Копыля і разгледжаны пытаньні чарговай краязнаўчай працы.

## Грэскае Т-ва Краязнаўства.

Перад навучальным годам Т-ва налічвала 45 сяброў. З пачатку навучальнага году Т-ва ажывіла сваю працу. Апрацавана програма дзейнасьці Т-ва на год: 1) організаваць ў м. Грозаве сельсавецкі гурток і школьны гурток у м. Грэску, 2) наладзіць краязнаўчую вечарыну, 3) організаваць 2 падарожы па раёне, 4) пакласьці пачатак краязнаўчаму музэю ў м. Грэску, 5) сабраць весткі аб карысных выкапнях раёну, 6) укласьці за 2 гады географічны слоўнік раёну, з асобнымі апісаньнямі калгасаў, 7) выканаць прапанову РВК аб уцягненьні ў краязнаўчую працу раённай агрономіі і г. д. З гэтае програмы выкананы некаторыя пункты. Пры Грозаўскаў 7-цы заснаваны гурток, на цэлы год выпісан час. „Наш Край", складзена анкета аб прыродных фарбах раёну і запаўняецца, распачата кампанія па збору экспонатаў для музэю, сабраны: жорны каменнага веку, колекцыі вапнякоў, акамянеласьцяй і г. д., заснаваны 4 фэнпункты і г. д. Асабліва шмат дапамагае Т-ву ў працы краязнаўчы гурток Грэскай 7-кі, які налічвае 105 вучняў і працуе па пляну.

## Школьна-краязнаўчая праца ў Слуцку.

Пры Слуцкіх школах 7-ках існуюць школьна-краязнаўчыя гурткі. Некаторыя з іх цікавы зьместам працы і формамі яе. Так пры 4 школе гурток налічвае 26 ч. і падзяляецца на сэкцыі (агульна прынятыя і музэйная). Плян працы: вывучэньне Слуцкага садоўніцтва, саматужніцтва, Кастрычніка ў Слуцку, нагляданьні над прыродай, зьбіраньне школьна-краязнаўчага музэю. Гурток мае 2-х кіраўнікоў на яўрэйскай і беларускай мовах.

Пры Лучнікоўскай 7-цы гурток налічвае 18 ч. і мае плян, які зацьверджаны школьным саветам: вывучэньне саматужных заняткаў насяленьня Лучнікоў і ткацтва, аднае серадняцкае гаспадаркі, наладжваньне вясною краязнаўчае экскурсіі і г. д.

Пры школе Сялянскай моладзі краязнаўчую працу зьлілі з сельска-гаспадарчай, што мэтодычна няправільна.

## Тураўская раённая с.-г. выстаўка.

14/X-29 г. у Тураве адбылася вельмі цікавая ў краязнаўчым стасунку с.-г. раённая выстаўка. На яе было прывезена больш за 300 экспонатаў. Экспонаты падзяляліся на: 1) экспонаты па ральніцтву—61, з іх вельмі цікавы экспонат травы „суданкі", якая ў гр. в. Дварэц Леўкаўца парасла вышэй росту чалавека; 2) экспонаты па гародніцтву—36 (буракі вагою 6 ф., морква бяз сэрца, капуста 15 і г. д.); 3) па садоўніцтву і пчалярству—12 (яблыкі „антонаўка", „шляпа", „шчэпы"; 4) па жывёлагадоўлі—43; 5) па саматужніцтву 50 - тураўскія ткацкія вырабы, асабліва памастацку зробленыя коўдры, прыцягнуўшыя найвялікшую ўвагу ўсіх наведвальнікаў выстаўкі. На выстаўцы былі і машыны с.-г. Т-ва. Прэміі выдадзена на суму

каля 230 р. У выстаўцы прынялі ўдзел і калгасы раёну Азяранскі, Пераро̆ўскі, Хільчыцкі і Хваенскі.

## Краязнаўчая праца на Тураўшчыне.

Краязнаўчая праца на Тураўшчыне распачалася з 1926 году. Спачатку справа йшла як-бы і нішто. Уцягнута ў таварыства каля 80 сяброў, праўда, у большасьці настаўнікі, сабрана даволі значная колькасьць слоў для слоўніка, запісана багата песень, утвораны невялічкі раённы музэй, запоўнена багата анкет па даручэньню акруговага праўленьня і г. д.

Здавалася-б, справа павінна разгортвацца, бо яна вельмі важная, асабліва ў цяперашні час, шпаркага соцыялістычнага будаўніцтва. Але пачынаючы з канца 1928 году гэтая праца пачала заміраць і ў апошнія часы зусім заняпала. Фактычна таварыства амаль што зусім ня існуе: за апошнія 6 месяцаў ня было ніводнага пасяджэньня праўленьня, сяброўскія ўзносы ня плоцяцца па 2 гады, сябры праўленьня ня ведаюць, што яны зьяўляюцца сябрамі праўленьня, фактычна, як-бы вядзе некаторую працу толькі адзін сябра праўленьня. Праўленьне прабавала ўцягнуць у гэтую працу некаторых раённых працаўнікоў; у праўленьне былі абраны прадстаўнікі амаль што ад усіх устаноў і організацый, але апошнія адмахваюцца рукамі ад гэтай працы і нават ня былі ні разу на пасяджэньнях праўленьня. Бязумоўна, што пры гэткіх адносінах да працы, працы быць ня можа.

Ня ведаю з якой прычыны, гэтым не зацікавілася і Акруговае Праўленьне Краязнаўства і да гэтага часу ня выслала свайго прадстаўніка для абсьледваньня і наладжаньня гэтае працы ў раёне. Пры апошніх перавыбарах праўленьня 24/IX-29 г. дайшлі да такога казусу, што „паводле справаздачы“ праўленьня старшыня нічога лепшага ня прыдумаў для ажыўленьня працы, як унесьці ў прапанову, рэзолюцыю, прынятую па справаздачы праўленьня 27/IV-29 г. Даведаўшыся аб гэтым, агульны сход са сьмехам адхіліў яе, прапануючы новаму праўленьню выканаць усе папярэднія рэзолюцыі. Вось які мы маем прогрэс у краязнаўчай працы на Тураўчшыне. Трэба будзе акруговаму праўленьню ў хуткім часе выслаць свайго прадстаўніка ў Тураў, прыцягнуць да гэтае працы ўсіх грамадзкіх дзеячоў раёну, узварушыць грамадзкую думку вакол гэтага пытаньня, тады праца бязумоўна наладзіцца.

Ів. Гальцаў.

## Шаўкоўніцтва ў Мазырскай акрузе.

Мазырскае Акруговае Т-ва Краязнаўства ў гэтым годзе паслала 3 скрыні каконаў на Маскоўскую фабрыку для досьледаў. Кіраўніцтва Ўсесаюзнага Тэкстыльнага Сындыкату прапанавала Мазырскаму Т-ву закласьці школку морвы ў ліку 1000000 саджанцаў і на гэтую мэту абяцае выдаць беззваротную пазыку. Кіраўніцтва таксама вызначае грошы 250 р. на марыльню, камандыроўкі і культуру скарзанэры, а таксама прапануе Т-ву скласьці падрабязны каштарыс выдаткаў на разьвіцьцё шаўкоўніцтва ў БССР.

## Да археолёгічнага вывучэньня Беларусі.

У № 8-9(47-48) „Нашага Краю“, у хроніцы, мы пісалі пра досьледы ў галіне археолёгіі на правым беразе Бярозы ў межах Барысаўскага і Бярэзінскага раёнаў. Цяпер мы можам працягнуць апісаньне гэтых досьледаў у тых-жа межах толькі на левым беразе Бярозы.

З 20-га чэрвеня па 1-е ліпня, згодна даручэньня Катэдры Археолёгіі БАН, аматар археолёг Калодкін І. Р. і чарцёжнік Канвісараў М. М., дасьледвалі левы бераг Бярозы па маршруту: г. Барысаў—в. В. Ухалоды—х. Старасельле—х. Капцы—в. М. Ухалоды (правы бераг р. Мужанкі)—з. Мужаны—з. Завалы—з. Добрыцкае—с. Мётча (левы бераг р. Мужанкі)—з. Бегі (уроч. Гарэлікі)—в. Дрозьдзіна—з. Антановічы—б. м. Леванова—пас. Паляна (або Калясец)—с. Азьдзяцічы—в. Лаўніца—в. Чэрнеўка—в. Прудок—в. Арэшкавічы — в. Шавернічы — х. Горы—в. Слабодка—в. Лешніца.

За гэты тэрмін выяўлены і дасьледваны наступныя археолёгічныя помнікі:

### І. Стаянкі і каменныя прылады.

Адна стаянка выкрыта ў разрэзе акопаў на беразе Бярозы каля с. Азьдзяцін, у ўроч. Старасельле, або Пнёўе, сярод курганоў; тутака знойдзены ў вялікай колькасьці рознастайныя орнамэнтаваныя чарапкі, крамянныя скалкі, пласткі і г. д. Па дарозе з с. Азьдзяцічы ў Чэрнеўку, у ўроч. Горкі знойдзены сьляды таксама стаянкі з керамікай і крамяннымі скалкамі.

Экспэдыцыя сабрала і прывезла з сабой досыць вялікі лік каменных прылад, атрыманых пераважна ад сялян. Так у с. Мётча ад настаўніка Мачульскага атрыманы каменныя клінок і сякерка, і ад селяніна Паўлаўца—каменная сякерка; у з. Добрыцкае, на гарадзішчы, удзельнікі экспэдыцыі знайшлі каменную сякеру; сяляне в. Дрозьдзіна, Палько і Вайцаховіч, перадалі экспэдыцыі знойдзеныя імі два каменныя кліны, селянін в. Прудок Дудка перадаў экспэдыцыі знойдзены ім кавалак каменнага кліна, а селянін тэй-жа вёскі Сіняк—перадаў каменны клін; у в. Шавернічы экспэдыцыя атрымала ад селяніна Наскаўца знойдзеную ім каменную сякеру, ад селяніна Гома знойдзены ім каменны клін і ад селяніна Сыскаўца абушок

каменнай сякеры знойдзены ім у купленым гумне, а ў хаце ў яго застаўся апроч таго каменны клінок; у в. Лешніца селянін Буры перадаў знойдзены ім каменны клін.

## II. Гарадзішчы і селішчы.

Усяго экспэдыцыя выявіла і дасьледвала 7 гарадзішч і адно селішча: адно з гарадзішч (пры в. Прудок) застаецца пад пытаньнем, бо ня гледзячы, на досыць добрую захаванасьць—знахадак яно ня дала. Апрач таго са слоў сялян у в. Шавернічы занатована яшчэ адно гарадзішча (пры в. Дзьмітравічы), але дасьледваць яго экспэдыцыі не ўдалося.

Гарадзішчы выяўлены ў наступных пунктах: на S ад в. В. Ухалоды ў уроч. Горы; супроць з. Добрыцкае, на левым беразе р. Мужанкі ў уроч. „Замак"; пры з. Мужаны, гарадзішча пад назвай „Шанцы" або „Ніз"; каля з. Бегі, у ўроч. Гарэлікі, у лесе, пад назвай „Высокая Гара"; на S ад с. Азьдзяцічы ў уроч. Маргі, пад назвай „Баранец", тут-жа на схілах гарадзішча з паўдзённага і паўдзённа-заходняга боку—селішча з чарапкамі ганчарнае пасуды; каля в. Арэшкавічы, на паўднёвы ўсход ад яе, у ўроч. Гарады; на N ад в. Прудок, у лесе, у ўроч. Гара.

З пералічаных гарадзішч — тры маюць форму падоўжанага чатырохкутніка (пры в. В. Ухалоды, с. Азьдзяцічы і в. Прудок), адно мае форму няправільнага кругу (в. Арэшкавічы), рэшта маюць нявыразную форму. Усе гарадзішчы маюць валы, прычым гарадзішчы пры в. В. Ухалоды, з Добрыцкае і в. Арэшкавічы маюць па два валы, а ўсе астатнія па тры. Цікава адзначыць, што трэці вал Мужанскага гарадзішча ляжыць ад другога ў адлегласьці 70 м. і агібае гарадзішча з усходняга, паўдзённага і заходняга бакоў. Уваходы маюць гарадзішчы пры в. В. Ухалоды і пры з. Бегі; ня маюць уваходаў гарадзішчы Добрыцкае, Арэшкавіцкае і Прудкоўскае; нельга было выявіць з прычыны разворваньня валоў, ці былі ўваходы на гарадзішчы Мужанскае і Азьдзяцікае. Вышыня гарадзішч—рознастайная: самае нізкае (4 м.), што пры в. В. Ухалоды, самае высокае (19 м.), што пры з. Бегі, астатнія маюць (у парадку пералічэньня) у вышыню 8,3—13 м., 18 м., 10 м., 8 м. і 7,5—10 м. Пляцоўкі гарадзішч таксама рознай велічыні, напр., найменшая пляцоўка 20×36 м. у гарадзішча пры в. В. Ухалоды, найбольшая—64×80 м.—у Добрыцкага гарадзішча; астатнія маюць (у парадку пералічэньня): 39×52 м., 37×61 м., 30×51 м., 39×45 м. і 26×50 м. На кожным гарадзішчы экспэдыцыя заклала адзін-два шурфы, якія далі гэткія знахадкі: чарапкі, пераважна, ляпной пасуды (траплялiся чарапкі і ганчарнай пасуды), вугальчыкі, прасьліцы, кавалак орнамэнтаванага грузіла, кавалак орнамэнтаванай бронзавай пласьцінкі, шлак. Шурфы і прашчупваньнем шчупам выявілі на гарадзішчах пры з. Бегі і в. Арэшкавічы—каменныя кладкі, а на гарадзішчы пры с. Азьдзяцічы — апалены пласт гліны таўшчынёю да 30 см. Культурны пласт на гарадзішчах рознай таўшчыні; на некаторых гарадзішчах выявіць таўшчыню яго не ўдалося з тэй прычыны, што гарадзішчы і валы разворваюцца на працягу многіх год (гарадзішчы пры з. Мужаны, с. Азьдзяцічы). Такім чынам Галоўнавука сьпіць сабе спакойна, а пастанова СНК БССР ад 5/VII—1926 г. аб ахове археолёгічных помнікаў застаецца пустым гукам для тых, хто павінен праводзіць яе ў жыцьцё. Яшчэ больш нішчацца курганы, але аб іх лёсе ніжэй.

## III. Курганы.

Усяго экспэдыцыяй выяўлена, дасьледвана і ўзята на вучот каля 450 курганаў. Значная частка з іх разворваны і раскапаны дашчэнту, некаторая частка разворваецца і раскопваецца і зараз, і толькі каля паловы выяўленых курганаў яшчэ дагэтуль цэлыя і то толькі дзякуючы таму, што зарасьлі лесам. Калі прыняць пад увагу тэмп зьнішчэньня курганаў, дык з пэўнасьцю мажліва сказаць, што праз некалькі год археолёгам для вывучэньня нічога не застанецца. А трэба не забываць, *што кожны зьнішчаны курган—для навукі страчаны назаўсёды*. Злачынна з боку Галоўнавукі ведаць аб гэтым і нічога не прадпрымаць з мэтай ратаваньня *адзіных* помнікаў—сьведкаў нашага мінулага. Хіба можна лічыць нормальнымі такія зьявішчы, калі сябра сельсавету Клімковіч, З. самавольна раскапаў курган каля в. В. Ухалоды? А каля с. Мётчы, у ўроч. Селішча, курганы раскопваліся нават настаўнікам Грукам, якому напэўна вядома, што самавольныя раскопкі археолёгічных помнікаў забараняюцца. Прыклады можна і яшчэ даць, але, за адсутнасьцю месца, устрымаемся.

Форма выяўленых курганаў даволі аднастайная, так, сустракаліся курганы паўкуляпадобныя і конусападобныя. Велічыня іх, г. з. вышыня і дыямэтр,—вельмі рознастайная. Экспэдыцыя ўсяго раскапала 4 курганы: у групе каля в. В. Ухалоды 1 курган, у другой групе каля с. Азьдзяцічы 2 курганы і ў трэцяй групе каля таго-ж сяла 1 курган. Звычайнае трупапахаваньне. Знойдзены былі касьцякі, чарапкі пасуды і інш. На месцы развораных курганоў каля, х. Капцы, экспэдыцыя знайшла каралі, ляпныя і ганчарныя чарапкі, косьці. Адзначым, што тут-жа г-м Адамовічам быў знойдзен скарб грошай з 52-53 монэт.

Апроч вышэйпералічанай працы экспэдыцыя занатавала са слоў сялян камень з высечанай падковай, што ёсьць каля з. Бегі.

Нарэшце адзначым, што экспэдыцыя прывезла для музэю 2 ядра, перададзеныя ёй у с. Мётла і ў в. Прудок сялянамі.

Анат. Рынейскі.

# Агляд надвор'я па Б.С.С.Р.

**за Кастрычнік мес. 1929 г.**

*(паводле даных Аддзелу Сеткі Беларускай Геафізычнаи Службы).*

Надвор'е на працягу месяца было больш цёплае ў 1-ю і 3-ю дэкаду і менш цёплае і больш сухое з 10 па 20-е кастрычніка.

Тэмпэратура за 1-ю дэкаду была вышэй нормы, так адзначаны наступныя перавышэньні сярэдніх дэкадных тэмпэратур, пры параўнаньні іх з нормальнымі дэкадными тэмпэратурамі:

Стукачова (Полаччына) . . . на 5°
Менск . . . . . . . . „ 5,5°
Горкі . . . . . . . . „ 6,0°
Васілевічы (Гомельшчына) . . „ 6,9°

Пры параўнаньні першай дэкады кастрычніка мінулага году з першай дэкадай кастрычніка г.г., апошняя выходзіць на 6—8° цяплей.

Сярэднія тэмпэратуры другой дэкады кастрычніка вышэй нормальных, але менш адрозьніваюцца ад нормальных. Тыя самыя мэтстанцыі даюць наступныя перавышэньні пры параўнаньні з нормальнымі:

Стукачова . . на 0.8°
Менск . . „ 1,8°
Горкі . . „ 0,9°
Васілевічы. . „ 1,5°

Другая дэкада кастрычніка г. г. у сярэдніх выніках на 3—7° цяплей адпаведнай дэкады кастрычніка мінулага году.

Трэцяя дэкада ў сярэдніх выніках таксама цяплей нормальнага. Тыя самыя станцыі даюць наступныя перавышэньні над нормальнай тэмпэратурай:

Стукачова . . на 3,0°
Менск . . „ 3,6°
Горкі . . „ 4,6°
Васілевічы . . „ 4,4°

Пры параўнаньні трэцяй дэкады кастрычніка мінулага году з адпаведнай дэкадай г. г., відаць, што апошняя цяплей на 2-3 градуса.

Ваганьні тэмпэратур (па паказаньнях максымальнага і мінімальнага тэрмомэтраў) за паасобныя даклады наступныя.

| | | |
|---|---|---|
| 1-я дэкада | ад 0,3 | да 25,5 |
| 2-я дэкада | „ 3,7 | „ 13,9 |
| 3-я дэкада | „ 2,4 | „ 17,2 |
| М-ц | „ 3,7 | „ 25,5 |

У сярэдніх выніках тэмпэратура кастрычніка г.г. вышэй нормальнай на 3-5° і на 5-6° вышэй тэмпэратуры кастрычніка мінулага году.

*Ападкі.* За першую дэкаду ападкаў выпала больш 1/3 месячнай нормы па акругах Полацкай, Віцебскай, Магілеўскай, Аршанскай (20—25 м/м. Менш выпала ў Меншчыне, Мазыршчыне, Гомельшчыне (5—15 м/м.).

2-я дэкада характарызуецца малой колькасьцю ападкаў. Больш іх выпала і на працягу большага ліку дзён у паўночнай частцы БССР, чым далей на поўдзень колкасьць іх зьмяншалась — у некаторых мясцох Гомельшчыны іх зусім не адзначана (Рэчыца).

Што да трэцяй дэкады, то колькасьць ападкаў павялічваецца па параўнаньні з другой дэкадай. Гэтыя ападкі выпадаюць у большы лік дзён, чым у першую дэкаду ў колькасьці ад 7 м/м. да 36 м/м. Наогул па ўсёй БССР выпала на 3-ю дэкаду больш 1/3 месячнай нормы ападкаў за кастрычнік за выключэньнем Полацкай і Віцебскай акруг, дзе іх выпала меншая колькасьць.

Большасьць мэтстанцый адзначае ў месячных сумах колькасьць ападкаў за месяц менш нормы (Лагойск — Менскай акр., на 22 м/м. менш, Тураў — Мазырскай акр. 21 м/м. Нязначныя перавышэньні месячных норм заўважваецца ў Полачыне, Аршаншчыне і некаторых мясцох Магілеўшчыны.

Ападкі выпадалі ў выглядзе дажджоў (сьнег адзначан толькі ў Полаччыне Стукачоўскай мэтстанцыі 18—X).

Пры параўнаньні з кастрычнікам мінулага году відаць, што ў гэтым годзе ападкаў выпала больш. У мінулым годзе ў гэты час нідзе ў БССР ня было адзначана перавышэньня нормаў.

Лік дзён з ападкамі ў Бабруйскай, Мазырскай і Гомельскай акругах вагаецца ад 9 да 20, у іншых ад 15 да 26.

*Воблачнасьць* у сярэднім вагаецца ад 66% да 75% (Магілёўская мэтстанцыя 85%) замест нормальнай 69%—71%.

Сярэдняя хуткасьць і кірунак ветраў за месяц адпавядаюць нормальным (2—5 мэтраў сэкунду, паўднёвых кірункаў).

*Стан палявых культур.* Наглядальнікі адзначаюць канец прац па збору бульбы ў 1 палове кастрычніка. Згодна ведаў з мэтстанцыі ўмовы надвор'я кастрычніка, як з боку тэмпэратуры, так і з боку дажджоў добра адбіліся на стане руні. Складзены 17—XI—29.

Г. Маслакавец.

# Бібліографія.

**В. П. Буданов и В. Г. Эрдели.** *Практическое руководство к изучению своего края*— изд. „Работник Просвещения" Москва 1929.

Што мы маем патрэбу ў практычным падручніку па вывучэньні свайго краю—гэта бясспрэчна. Аб гэтым гаварыць усе — і выкладчыкі краязнаўства ў пэдтэхнікумах і вузах, і кіраўнікі краязнаўчых гурткоў, і масавы праўнік—краязнаўца. Такі практычны падручнік павінен перш за ўсё адпавядаць патрэбам вывучэньня краю ў *сучасных* умовах — разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва, загостранай клясавай барацьбы, індустрыялізацыі прамысловасьці, колектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Трэба констатаваць, што якраз з пункту сучаснасьці тут адсутнічае шэраг важных момантаў. Якраз пералічаныя моманты, якім павінны быць кіруючымі ў працы сучаснага краязнаўцы, адсутнічаюць. У разьдзелах, датычных, напрыклад, вёскі, зусім не гаворыцца аб дыфэрэнцыяцыі сялянскіх гаспадарак; аб абсьледваньні фабрычна-заводзкіх прадпрыемстваў гаворыцца паміж іншым, у агульным разьдзеле „прамысловыя прадпрыемствы", дзе зьмешаны і фабрычна-заводзкія, і рамесьніцкія, і саматужныя прадпрыемствы.

Ці выпадкова адсутнасьць гэтых соцыяльна-экономічных адзнак, ці мо' яна выплывае з самай установкі кнігі? На жаль трэба прызнаць апошняе.

На стр. 13-14 аўтары заяўляюць: „Досьледы краю краязнаўчымі організацыямі толькі тады будуць мець сынтэтычны характар, калі падставай для іх будуць *географічныя прынцыпы вывучэньня рэчаістасьці* (курсыў аўтараў), калі географічныя досьледы будуць папераджаць, аб'ядноць і заканчваць усе досьледы краю соцыяльнага характару".

А ў чым асаблівасьці географічнага вывучэньня рэчаістасьці аб гэтым аўтары кажуць у некалькіх радкох раней: 1) „Пры географічных досьледах мясцовасьці зьвяртаюць увагу на самыя звычайныя, характэрныя, найчасьцей існуючыя зьявы; 2) зьявы заўсёды вывучаюцца не ізолявана, а ў прычыннай сувязі з другімі, іх абкружаючымі; 3) астатнім вынікам географічных досьледаў зьяўляецца разуменьне ляндшафту данай тэрыторыі, які дае сынтэз узаемачыннасьці прыроды і чалавека". Зразумела, што мы тут маем справу з старым, акадэмічным падыходам да географіі і базаваным на ёй краязнаўствам. Адсутнасьць вытворчай мэтаўстаноўкі ператварае краязнаўства ў працу чыста-апісальнага характару, адымае яе дзейную сутнасьць.

Не прызнаючы правільнай прынцыповую ўстаноўку аўтараў, мы разам з тым лічым патрэбным падкрэсьліць вартасьці кнігі.

Найбольш поўна апрацаваны разьдзел VII, які займае больш $^1/_3$ кнігі, — „Вывучэньне прыроды свайго краю". Асобныя палажэньні яе вельмі карысны ў умовах БССР (§ 16—„Возера", § 17—„Балота", § 19—„Лес"); няма кіраўнічых заўваг аб фэннагляданьнях, а гэта вельмі патрэбна.

Менш поўна ахоплены экономічны разьдзел, апрацаваны без належнай дэталізацыі і глыбіні. Чаму, напрыклад, адведзена досыць месца балоту і сенажаці (па 18—20 старонак на кожны пункт) і зусім няма спэцыяльнага досьледу фабрыкі, калгасу, сялянскай гаспадаркі, саматужнага прадпрыемства? Нам здаецца, што тут падвяло аўтараў акадэмічнае разуменьне географічнага прыцыпу, дзякуючы чаму „фізычная" географія панавала на экономічнай і палітычнай.

Вельмі карысны разьдзелы „Зьбіраньне плянаў і карт", „Як згатаваць недахватныя ў краі карты", „Як зрабіць нывэлёўку мясцовасьці і скласьці яе профіль". Карысным зьяўляецца паказаньне літаратуры і яе ўдалае разьмеркаваньне.

Нездавальняюча апрацаваны разьдзел „Вывучэньня мінулага сваёй краіны". Тут „географія" падвяла „гісторыю". Аўтары амаль зусім не разглядаюць пытаньняў мэтодолёгіі мясцовай гісторыі і пераважна разглядаюць пытаньні топоніміі; гэта, канешне важна, але далёка ня ўсё. Затое адсутнічаюць конкрэтныя парады на распрацоўку гісторыі мясцовага рэўруху, ня гледзячы на існаваньне значнай літаратуры ў гэтым пытаньні.

Калі зьявіўся роман Тургенева „Накануне“, жартліва гаварылі, што гэты роман напісаны „Накануне“, добрага роману. Будзем спадзявацца, што і разгледжаны намі падручнік напісаны „накануне“ добрага падручніка па вывучэньні свайго краю, які зусім адпавядае палітычным і экономічным умовам разьвіцьця нашага Саюзу.

Г. Аляксандраў.

# Краёвая бібліографія*).

*Працяг*

## Віцебшчына.

Лур'е, М. Экономіка Віцебшчыны (Кароткі нарыс паводле даных 1927). Наш Край. 928. № 5, с. 24—40.

Мазур, К. Работа сярод беднаты, (Віцебская акруга). Бальш. Бел. 927. № 7-8. с. 40--43.

Мазуркевіч, Язэп. Беларусазнаўства ў Беларускай Савецка-партыйнай школе II-ой ступені ў Віцебску. Асьвета. 925 № 6. с. 46—50.

Мазуркевіч, Язэп. Віцебскае Аддзяленьне Беларускага Дзяржаўнага Музэю. Наш Край. 928. № 10. с. 55—58.

Макаревский, А. Н. проф. Обострение бешенства собак и других животных в Витебском округе и возможные меры борьбы с ним. Бел. Ветеринария. 927. № 7-8. с. 1—8.

Макаревский, А. Н. проф. 5 случаев генерализованного финноза свиней в Витебском округе (Из Терапевтическ. Клиники Б. Г. И. В. И.). Бел. Ветеринария. 928. № 6. с. 17—21.

[... Местный бюджет Витебского округа на 1925-26 г. Витебск. Изд. Витебского Окрфинотдела. 926. 243 стр. 15 лист. стат. сводок.

Мибор. Итоги отчетно-перевыборной кампании первичной сети потребкооперации Витебского округа. Шлях Коопэрац. 928. № 4. с. 37.

Мялешка, М. Беларуская культурная праца ў Віцебшчыне. [Этнографічная Камісія пры этнографічным габінэце Віцебскага Археолёгічнага Інстытуту. Вестн. Нар. Ком. Прасв. ССРБ. 922. № 5-6 (7-8). с. 21-22.

Мялешка, І. Організацыя цэхавых ячэек сябе апраўдала. (Фабрыка „Чырвоная Зорка“, мяст. Чашнікі). Бальш. Бел. 927. № 11. с. 34-35.

Мялешка, М. Паншчына на Беларусі. Сялянскія бунты за прыгонам на Віцебшчыне 1832—1855 г. г. Полымя. 925. № 4 с. 97—116; № 6, с. 101—124.

Мялешка, М. Сялянскі рух на Віцебшчыне ў 1905 г. Полымя. 925. № 7. с. 106—114; № 8, с. 94—112.

Мялешка, Янка. Як жыве і працуе Гарадоцкая парторганізацыя. Бальш. Бел. 928. № 3. с. 91—93.

Нікольскі, Ботанічны сад Дзяржаўнага Вэтэрынарнага Інстытуту. Віцебшчына. 925. т. 1. с. 169—172.

Нікольскі, Л. Куткі жывой прыроды ў Віцебску і яго ваколіцах. Віцебшчына. 925. т. 1, с. 182—184.

[... Обзор деятельности Витебской Товарной Биржи за 1924-25 операционный год. Витебск. Изд. Биржевого Ком. Витебск. Товарн. Биржи. 926. 171. XVI стр. 12 т. на отд. лист.

[... О работе Научного кружка Врачей при Витокротделении Союза МСТ. Бел. Мэд. Думка. 928. № 2. с. 122-123.

[... Отчет о деятельности Витебского Городск. Совета, его секций и подсекций. За время с 26.XI.1924 г. по 1.V.1925 г. Витебск. 925. 15 стр.

[... Отчет о деятельности Витебского Городского Совета за время с 26.XI.1924 г. по 10 янв. 1926 г. Витебск. 926. 47 стр.

]... Отчет Витебского Окрисполкома с 10.VIII.1924 по 1.II.1925. Первому Окружному С'езду Советов Р. К. и Кр. Д. Витебск. 925. 110 стр.

[... Отчет Витебского Окрбюро Ветсекции с 1-го июля по 31 дек. 1924 г. Бел. Ветеринария. 925. № 1. с. 53-54. Хроніка.

[... Отчет о деятельности Витебского Окружн. К-та (ко 2-ой Окружной Партконференции. 20.XI.1926 г.). Витебск. 925. 93 стр.

[... Отчет о деятельности правления Витебского Об-ва „Друзья Детей“ за время с 1.X.1926 г. по 1.X.1928 г. Витебск 928. с. 28.

[... Отчет Витебского Городского Совета за время с 23.III по 1.X.1927 г. Витебск. 927. с. 49.

[... Отчет Витебского Городского Совета за время с 12.V.1926 по 1.I.1927 г. Витебск. 927. с. 66.

[... Отчет Витебского Окружного Бюро Профессиональных Союзов 4-му Окружн. С'езду Прафсоюзов Витебщины. За период май 1927 г. — май 1928 г. Витебск. 928. с. 58.

П. Кароткі эканамічны нарыс становішча Віцебскай акругі. (Па матар'ялах аб стане яе ў 1925-26 г.). Сав. Буд-ва. 927. № 7-8. с. 199—208.

Палянская, О. Расьліннасьць Віцеб-

*) Гл. „Наш Край“ 1929 г. №№ 5, 6-7, 8-9, 10.

скае акругі. Мат. да выв. флёры і фаўны Бел. т. 2. с. 61—63.

[... Пастановы Віцебскага Акруг. Выканаўчага Камітэту аб мясцовых падатках. Віцебск. 927, с. 15.

[... Пастановы Пленуму Акругкому КП(б)Б ад 27.IV.1928. Дад. да „Зари Запада“ № 122. Віцебск. 928. с. 32.

[... Пачатак. Зборнік Віцебскай філіі „Маладняка“ Віцебск. 926. с. VIII. 165 3.

Пліс, Д. С. Калгасы Віцебшчыны. Шлях Кооперац. 928. № 11. с. 35—39.

Плюшчэўскі-Плюшчык, В. А. Жукі — ворагі рыбацтва Віцебшчыны. Віцебшчына. 925. т. I. с. 79—87.

Плюшчэўскі-Плюшчык. Жукі і матылькі Віцебшчыны. Віцебшчына. 925. т. I. с. 153—156.

Почебут, Н. Н. О работе Витебского бюро ветсекции. (Доклад в Правлении Витебского Отд. Союза Медсантруд). Бел. Ветеринария. 925. № 2-3. с. 36—39.

Пратасеня, Г. І. Глебы гаспадаркі „Фатынь“. Працы Навук. Т-ва па выучч. Бел. 928. т. V. с. 25—37 з картай.

[... Праца этнографічнай экспэдыцыі ўлетку 1926 г. па Себескім, Невельскім і Вяліскім паветах. Наш Край. 926. № 12 (15). с. 75—67 Хроніка.

Пузырэўскі, Расьлінны насьціл Гарадоцкага раёну. Віцебшчына. 928. т. II. с. 110—113.

Радкевіч, А. І. Ільняны чарвяк (Plusia gamma). і некалькі прыкладаў барацьбы з ім. Віцебшчына. 928. т. II. с. 92—96.

Радкевіч, А. І. Стрэлкі Віцебшчыны. (Ogonata). Віцебшчына. 928. т. II. с. 85—91.

[... Рэзолюцыі 3-яйАкруговай Конфэрэнцыі Віцебскай організацыі КП(б)Б (сьнежань 1926). Віцебск. 927. с. 24.

Рэзолюцыі IV Віцебскай Акруговай Канфэрэнцыі КП(б)Б. (Лістапад 1927) Віцебск. 927. с. 72.

Рэзлоюцыі 5-га чарговага сходу ўпаўнаважаных Віцебскага Саюзу Спажывецк. Таварыстваў, які адбыўся ў гор. Віцебску 15—18 мая 1928 г. Віцебск. 928. с. 19.

Решения 4-го Окружного С'езда Профсоюзов Витебщины (10—15. V. 1928 г.). Витебск. 928. с. 60.

Рубіна, М. Працы дашкольных працаўнікоў з бацькамі дзяцей. (З практыкі Віцебскіх дашкольных устаноў). Асьвета. 927. № 2. с. 89-90.

Руткоўскі, І. Спроба выкладаньня па Дальтон-пляну ў Віцебскай дасьледчай школе пры Белпэдтэхнікуме. Асьвета. 926. № 1. с. 53—63.

Сапуноў, А. П. Кароткі нарыс гісторыі Віцебску. Віцебшчына. 925. т. I. с. 7—17.

Сьвітаньне. Літаратурны Зборнік Віцебскай філіі „Маладняка“, пад рэдакцыяй кіраўніка філіі П. І. Мазуркевіча.—№ 1 (2). Віцебск, выд. філіі „Маладняка“ 1927 г. XII+95 стар.

Смирнов. Некоторые итоги заготовки пушнины по Витебскому округу. Паляўнічы Бел. 928. № 3(8). с. 7—9.

Сьмірноў, В. Спажывецкія таварыствы Сірацінскага раёну. (Віцебская акруга). Шлях Коопэрац. 828. № 11. с. 39—41.

[... Справа асьветы на Віцебшчыне. (З дакладу Віцебскага акруговага інспэктарыяту народнае асьветы ў калегіі НКА). Асьвета. 928. № 4. с. 134-135. хроніка.

[... Справаздача Віцебскага Акруговага Камітэту КП(б)Б. IV-ай Акруговай Партыйнай Конфэрэнцыі Віцебск. 927. с. 116.

[... Справаздача праўленьне Віц. спажывец. саюзу аб працы яго за 1926-27 гаспадарчы год к 5 чарговаму сходу ўпаўнаважаных. Віцебск. 928. с. 53.

[... Становішча Езярышчанскага раёну Віцебскай акругі. Бюл. СНК. БССР. 926. № 6. с. 30—35.

Студитский, Н. Микрофилярии у лошадей в Витебском округе. Бел. Ветеринария 927. № 7-8. с. 16—22.

Супінскі, А. К. Магільнік каля вёскі Віцебскага раёну і акругі. Віцебшчына. 925. т. I. с. 18—21.

Супінскі, А. К. Прыгонная Віцебшчына. (Нарыс). Віцебшчына. 928. т. II. с. 117—146.

Сушкевич, Б. Витебско-Полоцкие испытания легавых. Паляўнічы Бел. 928. № 5 (10). с. 16.

Сялюкін, С. Дзедаўскае мэліорацыйнае таварыства. (Межанскі раён, Віцебшчына). Плуг. 926. № 8. с. 36.

Сялюкін, С. Руднянскія двухтыднёвыя с.-г. курсы. (Межанскі раён, Віцебшчына). Плуг. 926. № 5. с. 34.

Сянкевіч, В. Праца асьветнікаў Віцебшчыны ў горадзе і вёсцы. Асьвета. 925. № 3. с. 144—146. хроніка.

Сяргеенка, Я. Бабынавічы (Мястэчка был. Аршанскага павету Магілеўскай губ.). Наш Край. 926. № 2-3. (5-6). с. 56—58. (з малюнкам).

Сяргеенка, Я. Галкоўская, В. і Хв. і Дзюбалаў, В. Бабынаўскае і Зеляноўскае вазёры. (Віцебшчына). Наш Край. 926. № 10-11. (13-14) с. 43—45. З плянамі.

Сяргеенка, Я. Ганчарства ў паселішчы Бабынавічы. Наш Край. 927. № 12. с. 55—63. (Заўвагі да артыкулу зроблены Ракам Р.).

Сяргеенка, Я. Гарадзішча пры паселішчы Бабынавічы. (Высачан. р. Віцебск. акр.). Наш Край. 926. № 8-9 (11-12) с. 57—58. З плянамі і малюнкам.

Сяргеенка, Я. Піонэры-краязнаўцы (Высачанскі раён, Віцебск, акр.) [Рэгістрацыя курганоў]. Наш Край. 926 № 10-11. с. 74. хроніка.

Сяргеенка, Я. Праца Сеньніцкага раённага т-ва краязнаўства. Наш Край. 927. № 11. с. 54.

Талуціс, Я. Агнятрывалае будаўніцтва на Віцебшчыне. Плуг. 928. № 12. с. 70.

Фридлянд, Р. Кустпромкооперация Витебщины. (По материалам НК РКИ БССР). Шлях Коопэрац. 927. № 2. с. 42—44.

Фурман, І. П. Віцебск у гравюрах С. Юдовіна. Выд. Віцебскага акруговага т-ва краязнаўства. Віцебск. 926. 45 стар.

Фурман, У. П. Віцебскія мастакі-гравёры. Віцебшчына. 928. т. II. с. 174—183. 3 малюнкі.

Фурман, И П. З. И. Гарбовец. Гравюры на дереве. Предисл. В. Воинова Витебск. 927. с. 15. [3].

Фурман, У. П. Крашаніна. (Матар'ялы да гісторыі яе ў Віцебшчыне). Віцебшчына. 925. т. I. с. 61—72.

Фурман, І. П. Крашаніна. Матар. да гісторыі яе ў Віцебшчыне. Пад рэд. чл.-кор. І. Б. К. М. І. Касьпяровіча. Віцебск. Выданьне II Віц. Акр. Т-ва краязнаўства. 30 стар. XV табл.-мал. 925 г.

Фядзюшын, А. Вынікі фаўністычнае экспэдыцыі па Віцебшчыне і на Дняпро ў 1924 годзе. Мат. да выв. флёры і фаўны Бел. т. I. 927. с. 19—39. II табл. мал.

Фядзюшын, А. В. Сьпіс назоў птушак і некаторых рыб (Адбітак з Нав. зборніку І. Б. К. выд. 1925 г.). Менск. 925 (927) с. 188—196.

Хейфец, П. Дрэннае і добрае ў школе сялянскай моладзі. [Полацкая і Віцебская акругі]. Асьвета. 926. № 1. с. 84—87.

Х-н. Гаспадарчая дапамога беднаце і пытаньне дыфэрэнцыяцыі вёскі (Сіроцінскі раён). Бальш. Бел. 928. № 3. с. 94.

Чарнецкі. Я. Аб габінэце агітпрапработн. [Практыка працы Віцебскага габінэту]. Бальш Бел. 927. № 5. с. 42—44.

[... Чырвоны Крыж на Віцебшчыне. Бюл. Бел. Т-ва Чырв. крыжу 927. № 7—9. с. 47-48.

Чэмэлаў, В. Конфэрэнцыя сялян-дасьледчыкаў пры Віцебскай дасьледчай сельскагаспадарчай станцыі [30. III]. Сельск. і Лясн. Гасп. 928. кн. 7. № 5-6 с. 262-263.

Шалауров, Н. Технические экскурсии по гор. Витебску. Асьвета. 924. № 2. с. 81—91.; № 3, с. 123—151.

Шлюбскі, А. Крашаніна. (Набіванка). Пад рэд. і зпрадмовай М. Касьпяровіча. Выд. Віцебск. Акруговага Т-ва Краязнаўства. 926. 17 стар. 6 т. малюнкаў.

Шлюбскі, А. Матар'ялы да вывучэньня фольклёру і мовы Віцебшчыны. Менск ІБК. 927. Часьць I. с. (6) 87 (5).

Шлюбскі, А. 1906 год на Віцебшчыне Маладняк. 927. № 4. с. 67—80.

Шпаков, С. С. Современное состояние с.-х. промышленности в Витебской губ. (Из отчета Вітебского Губернск. Экономич. Совещания Совета Труда и обороны. Январь—окт. 1921 г.) нар. хоз-во Бел. 922. № 5. с. 86—89.

Шпектараў, Г. Заметкі нізавога партработніка. (Віцебшчына). Бал. Бел. 927. № 3. с. 43-44.

Шчакаціхін, М. М. Матар'ялы да гісторыі беларускага малярства XVIII ст. Віцебшчына. 928. т. II. с. 147—167. [пачатак гл. з т. I].

Шчакаціхін, М. М. Матар'ялы да гісторыі беларускага малярства XXIII ст. (Збор Віцебскага Аддзяленьня Бел. Дзярж. Музэю). Віцебшчына. 925. т. I. с. 26—36.

Шыпіла, А. Чатыры гады на вёсцы. [Віцебск.]. (З працы школы-камуны імя Калініна). Асьвета. 927. № 1. с. 123—127.

Эн, А. Пастухі з стадам, але бяз поля. (Організацыйныя недахопы у парторганізацыі Віцебску.]. Бальш. Бел. 927. № 5. с. 67-68.

Ясенеў, А. Навуковае значэньне Віцебскага Акруговага Аддзелу Цэнтральнага Архіву БССР. Працы 1-га Зьезду Дасьлед. Нел. Археол. і Археогр. 926. с. 69—74.

Ярусава. Насяленьне Віцебшчыны. Віцебшчына. 928. т. II. с. 3—10.

---

## ПАПРАЎКІ.

У „Н. Кр." № 8-9 за г.г. у артыкуле А. Жаўрыда. Лекавыя сродкі народнай мэдыцыны і ўсюды ў навуковай тэрмінолёгіі, замест надрукавалі *W*, трэба чытаць усюды *L*.

У „Н. Кр." № 6-7 за г. г. у аддзеле „Хроніка" ў артыкуле, Азарыцкая раённая краязнаўчая конфэрэнцыя" (стар. 79) дапушчаны корэктарскія памылкі:

| | Надрукавана: | Трэба чытаць: |
|---|---|---|
| 10 радок зьнізу | Стрэльчын | Стрэльчык |
| 6 радок зьверху | Рэву | Рэвут |
| 8 „ „ | Раманчык | Раманюк |
| 8 „ „ | Робан | Робак |
| 9 „ „ | Бедашоў | Бердашоў |
| 10 „ „ | Т. Куленац | Т. Кулакоў |

Выдавец—**Беларуская Акадэмія Навук**

Рэдактар **З. Бядуля.**

Члены Рэдакцыі: **М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.**

# ЗЬМЕСТ.

Цана 50 кап.